Серыя
«Гуманітарныя навукі»

М. М. Макарэвіч

# СЛОЎНІК
## НАРОДНЫХ ПРОМЫСЛАЎ І РАМЁСТВАЎ БЕЛАРУСІ









Мінск
«Права і эканоміка»

*Серыя*
*«Гуманітарныя навукі»*

М. М. Макарэвіч

# СЛОЎНІК
# НАРОДНЫХ ПРОМЫСЛАЎ
# І РАМЁСТВАЎ БЕЛАРУСІ

Пад рэдакцыяй
доктара філалагічных навук прафесара
М. Р. Прыгодзіча

Мінск
«Права і эканоміка»
2010

УДК 811.161.3'282.4
ББК 81.2 Бел-9
М15

Серыя заснавана ў 2008 г.

Рэцэнзенты:
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта С.М. Запрудскі,
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры рэдакцыйна-выдавецкіх тэхналогій
УА "Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт" У.І. Кулiковіч

**Макарэвіч, М. М.**

М15 Слоўнік народных промыслаў і рамёстваў Беларусі / М. М. Макарэвіч / пад рэд. М. Р. Прыгодзіча. – Мінск : Права і эканоміка, 2010. – 131 с. (Серыя «Гуманітарныя навукі»)
ISBN 978-985-442-866-6

У слоўніку прадстаўлена дыялектная лексіка такіх промыслаў і рамёстваў, як рыбалоўства, пчалярства, бондарства, ганчарства і кавальства, паказваецца багатая сінаніміка і варыянтнасць лексічных адзінак, ілюструецца паняційны змест кожнага з разглядаемых промыслаў і рамёстваў.

Прызначаецца навуковым работнікам, выкладчыкам ВНУ, студэнтам-філолагам і ўсім тым, хто цікавіцца беларускай нацыянальнай тэрміналогіяй.

**УДК 811.161.3'282.4**
**ББК 81.2 Бел-9**

**ISBN 978-985-442-866-6**

# ПРАДМОВА

На працягу XX стагоддзя беларуская дыялектная лексікаграфія ўзбагацілася значнай колькасцю слоўнікаў, у якіх адлюстравана рэгіянальная лексіка як вялікіх моўных масіваў, так і асобных раёнаў, абласцей. У такіх слоўніках значнае месца займае лексіка народных промыслаў і рамёстваў, якая з'яўляецца адлюстраваннем сутнасці беларускай народнай культуры, яе станаўлення і развіцця. Але ў нацыянальнай лексікаграфіі да цяперашняга часу няма спецыяльнага слоўніка, які б адносна поўна рэпрэзентаваў лексічныя сістэмы промыслаў і рамёстваў. У айчынным мовазнаўстве існуюць толькі адзінкавыя тэматычныя падборкі, у якіх прыводзіцца абмежаваная колькасць лексем таго ці іншага промыслу (рамяства) у пэўным рэгіёне ці асобна ўзятай гаворцы.

Падрыхтаваны "Слоўнік народных промыслаў і рамёстваў Беларусі" з'яўляецца першай спробай комплекснага апісання дыялектнай лексікі старадаўніх промыслаў і рамёстваў: рыбалоўства, пчалярства, бондарства, ганчарства, кавальства.

Структурна слоўнік падзяляецца на тэматычныя групы (рыбалоўства, пчалярства, бондарства, ганчарства, кавальства), словы ўнутры якіх падаюцца ў алфавітным парадку. Матэрыял для слоўніка адабраны з 32 беларускіх дыялектных лексікаграфічных крыніц. Тэматычнае групіраванне вылучаных лексічных адзінак праведзена ў адпаведнасці з іх агульнымі лексіка-семантычнымі характарыстыкамі.

Слоўнікавыя артыкулы пабудаваны па гнездавому прынцыпу. Загалоўнае слова падаецца з захаваннем найбольш тыповых дыялектных рыс. У якасці загалоўнага слова сярод шэрагу сінанімічных лексем і варыянтаў вылучаецца найбольш ужывальнае ў дыялектнай мове (**ГАНЧА'Р, ГО'РАН** і інш.). Услед за загалоўным словам падаюцца найменні, падобныя па свайму гукавому складу, пры наяўнасці фанетычных (**ДЗІ'КІЯ ПЧО'ЛЫ, ДЗІ'КІЯ ПШЧО'ЛЫ**), марфалагічных (**ДАЎЖА', ДАЎЖНІ'К**), акцэнтуацыйных (**ВОЛО'ШНЯ [ВОЛОШНЯ']**) адрозненняў. У гэты ж слоўнікавы артыкул уключаюцца (пры наяўнасці) сінанімічныя дамінантнаму слову адзінкі (**КАЎГА'Н [КАЎГА'НКА, КОЎГА'НКА], ЛОХА'НКА**), а таксама лексічныя дублеты (**ВУ'ГАЛЬ, МІЛЁ'Р**).

Пры тлумачэнні слова (слоў) выкарыстоўваецца сучасная літаратурная лексіка, а таксама нарматыўныя эквіваленты дыялектных адзінак. Напрыклад: **БА'БА[1] [БА'БІЦА], БЕРО'ЗОВКА, БУ'БЛІЦА, ВО'БЛІЦА [ВОБЛА'К], ДНЯ'НКА, ЕБРО'ЗЬ, КЛЯПЕ'Ц, КОРА'ЎКА, ОБЛЯ'К, ПЛАСКУ'ХА.** 'Рыба плотка'. Пры адсутнасці літаратурнага адпаведніка падаецца яго разгорнутае, апісальнае тлумачэнне. Напрыклад, **ВУГО'ЛЬНІК**. 'Кантавае жалеза, якім абкладаецца край прыпечка' [Лучыц-Федарэц, с. 220].

Калі слова мае некалькі значэнняў, то прыводзяцца толькі промыславыя значэнні, кожнае з якіх разглядаецца ў асобных слоўнікавых артыкулах з надрадковымі індэксамі ([1], [2] і г.д.). Напрыклад, лексема **БА'БА,** маючы 3

промыславыя значэнні, у слоўніку падаецца наступным чынам: **БА'БА**[1]. '*Рыба плотка*'. **БА'БА**[2]. '*Бочка ці тоўстая калода, умарожаная ў лёд*'. **БА'БА**[3]. '*Вялікая драўляная бабіна (звычайна гэта дзежка), прымацаваная да саней, пры дапамозе якой накручаным на яе канатам уручную прыводзілі ў рух невад*'.

Да кожнага слова ў слоўнікавым артыкуле прыводзяцца прыклады яго функцыянавання ў дыялектнай мове з указаннем населенага пункта, раёна (калі яны дакладна адзначаны ў крыніцы фактычнага матэрыялу) і дыялектнай крыніцы, адкуль ўзята гэта слова. Таксама ўказваюцца крыніцы, з якіх узяты варыянтныя, сінанімічныя лексемы аднаго слоўнікавага артыкула. Напрыклад: **СКАМЫ'**. 'Прылада для выціскання мёду і воску'. Былі скамы, скамамі выціскалі мёт [Бакшты Іўеў.; Мацкевіч, с. 216]; Скамамі выціскалі мёт [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 4, с. 437].

Сінанімічны, варыянтны рад слоў: **ЗАКРО'Й, ЗАТО'Р, ЗАЦІ'РАЧ [ЗАЦЕ'РАЧ, ЗАЦІ'РТАЧ], РЭЗЕ'Ц [РЭЗО'К], УТО'РНІК [УТО'РЫЧ]**. Інструмент для выразання ўтораў-выемак для ўстаўлення дна. Уторы ў цэбры заразаюцца закроем [Мікалаеўшчына Стаўб.; СЦГ, с. 147]; Зламаўся затор, робячы вядро [Шатэрнік, с. 110]; Зацерач заціраe ўторы ў цэбры [Цераблічы Стол.; ТС, т. 2, с. 132]; [заціртач]. 'Бондарскі разец' [Аздамічы Стол.; ТС, т. 2, с. 132]; Рэзцэм робілі ложкі, вырэзвалі з бярэзніку [Цераблічы Стол.; ТС, т. 4, с. 346]; [рэзок]. 'Бондарская прылада' [Запясочча Жытк.; ТС, т. 4, с. 346]; Наш столяр мая уторники, треба у яго пазычыць и вырабиць уторы [Негрымава Навагр.; Сцяшковіч, с. 515]; Трэба ўзяць уторнік і выпілаваць уторы [Граўжышкі Ашм.; СПЗБ, т. 5, с. 243]; Уторыч – пілка, якой робяць уторы [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 5, с. 243]; [уторыч]. 'Уторнік (бондарская прылада)' [Запясочча Жытк.; ТС, т. 5, с. 218].

Калі адсутнічае прыклад з дыялектнай мовы, у слоўніку падаецца толькі семантычнае вызначэнне дадзенага слова, узятае з дыялектнай крыніцы. Напрыклад: **ГАНО'К**. 'Невялікі плыт, прыстасаваны для вуджэння рыбы на глыбіні' [Баханькоў, с. 220]; **[раёўнік]**. 'Вулей, што ставяць на дрэва для прываблівання рою' [Мярэцкія Глыб.; Мацкевіч, с. 215].

У слоўніку фіксуюцца адзінкавыя беларускія промыславыя намінацыі, якія функцыянуюць у пагранічных раёнах Латвіі, Літвы, Расіі, а таксама гмінах Польшчы.

* * *

Аўтар шчыра ўдзячны доктару філалагічных навук прафесару, загадчыку кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ М.Р. Прыгодзічу за рэдагаванне рукапісу слоўніка, рэцэнзентам – кандыдатам філалагічных навук дацэнтам С.М. Запрудскаму і У.І. Кулікову, а таксама кандыдату філалагічных навук дацэнту М.М. Шаўчэнку і ўсім супрацоўнікам кафедры беларускага мовазнаўства МДПУ імя І.П. Шамякіна на чале з прафесарам В.В. Шурам за слушныя заўвагі і парады, якія садзейнічалі паляпшэнню лексікаграфічнай працы.

## Літаратура

**Арашонкава –** Арашонкава, Г.У. З кавальскай лексікі ў гаворцы заходняй дыялектнай зоны / Г.У. Арашонкава // Народная словатворчасць; рэд. А.А. Крывіцкі, І.Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – С. 223 – 229.

**Баханькоў –** Баханькоў, А. З рыбалоўнай лексікі Полаччыны / А. Баханькоў// З народнага слоўніка / рэд А.А. Крывіцкі, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – С. 218 – 225.

**Белайчук** – Белайчук, Т. З лексікі нараўлянскіх рыбакоў / Т. Белайчук // З народнага слоўніка; рэд. А.А. Крывіцкі, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – С. 226 – 230.

**Вярэніч –** Веренич, В.Л. Лексика городенских гончаров / В.Л. Веренич, А.А. Кривицкий // Полесье (Лингвистика. Археология, Топонимика]; под ред. Н.И. Толстого, А.А. Кривицкого. – М.: Наука, 1968. – С. 175 – 192.

**ДСБ** – Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад. М.М. Аляхновіч і інш. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 294 с.

**ДСЗ** – Сцяцко, П.У. Дыялектны слоўнік. З гаворак Зэльвеншчыны / П.У. Сцяцко; навук. рэд. М.В. Бірыла. – Мінск: Выд. БДУ імя У.І. Леніна, 1970. – 184 с.

**ДСЛ** – Янкова, Т.С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны / Т.С. Янкова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 432 с.

**ДСМ** – Юрчанка, Г. Дыялектны слоўнік. З гаворак Мсціслаўшчыны / Г. Юрчанка; навук. рэд. А.А. Крывіцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. – 228 с.

**ЖС** – Жывёльны свет: тэматычны слоўнік / склад. В.Дз. Астрэйка [і інш.]; рэд. Л.П. Кунцэвіч, А.А. Крывіцкі. – Мінск: Беларуская навука, 1999. – 239 с.

**Каспяровіч** – Каспяровіч, М.І. Віцебскі краёвы слоўнік / М.І. Каспяровіч. – Віцебск: Выд-ва Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства, 1927. – 56 с.

**Крывіцкі** – Крывіцкі, А. Из словаря полесских рыболовов / А. Крывіцкі // Полесье (Лингвистика, Археология, Топонимика]; под ред. Н.И. Толстого. – М.: Наука, 1968. – С. 162 – 174.

**Крыўко –** Крыўко, М.Н. З рыбалоўнай лексікі Мёршчыны / М.Н. Крыўко // Жывое наша слова: дыялектал. зб. (Да 90-годдзя чл.-кар. НАН Беларусі Ю.Ф. Мацкевіч]; рэд. Л.П. Кунцэвіч, І.Я. Яшкін. – Мінск: Беларуская навука, 2001. – С. 243 – 256.

**КСУМ** – Бялькевіч, І.К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны / І.К. Бялькевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 512 с.

**ЛАБНГ** – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / пад рэд. М.В. Бірылы і Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа, 1993 – 1994. – Т. 1: Раслінны і жывёльны свет / М.В. Бірыла і Ю.Ф. Мацкевіч. – 1993. – 160 с.

**Лучыц-Федарэц –** Лучыц-Федарэц, І.І. Кавальская лексіка з аколіц г. Драгічына / І.І. Лучыц-Федарэц // Жывое слова; рэд. Ю.Ф. Мацкевіч, І.Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – С. 219 – 226.

**Мацкевіч** – Мацкевіч, Ю.Ф. Лексіка пчалярства / Ю.Ф. Мацкевіч // З народнага слоўніка / рэд. А.А. Крывіцкі, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – С. 204 – 217.

**ММГ** – Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак / пад рэд. М.А. Жыдовіч. – Мінск: Выд-ва БДУ імя У.І. Леніна, 1977. – Вып. 3. – 144 с.

**ПТП** – Анохина, В.В. Полесская терминология пчеловодства / В.В. Анохина, Н.В. Никончук // Лексика Полесья: материалы для полесского диалектного словаря; отв. ред. Н.И. Толстой. – М.: Наука, 1968. – С. 320 – 365.

**СБМН** – Насовіч, І.І. Слоўнік беларускай мовы / І.І. Насовіч. – Мінск: БелСЭ, 1983. – 756 с.

**СПЗБ** – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / рэдкал.: Ю.Ф. Мацкевіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1986. – Т. 1 – 5.

**Станкевіч** – Станкевіч, А.А. Лексіка народнай гаспадаркі ў гаворках Мазырска-Прыпяцкага Палесся: манаграфія / А.А. Станкевіч, А.М. Воінава, Л.М. Мінакова. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2008. – 312 с.

**СЦГ** – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. – Мінск: Універсітэцкае, 1990. – Т. 1: А – П / уклад. Е.С. Мяцельская [і інш.]; пад рэд. Е.С. Мяцельскай. – 287 с.

**Сцяшковіч** – Сцяшковіч, Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч; рэд. Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 671 с.

**ТС** – Тураўскі слоўнік: у 5 т. / склад. А.А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 1987. – Т. 1 – 5.

**Цімашкова** – Цімашкова, А.В. З пчалярскай тэрміналогіі / А.В. Цімашкова // Народнае слова / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – С. 242 – 248.

**Цыхун** – Цыхун, Г.А. Палескія назвы посуду, бочак, кошыкаў і іншых ёмістасцей / Г.А. Цыхун // З народнага слоўніка; рэд. А.А. Крывіцкі, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – С. 184 – 203.

**Шатэрнік** – Шатэрнік, М.В. Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны / М.В. Шатэрнік; пад рэд. М.Я. Байкова і Б.І. Эпімаха-Шыпілы. – Мінск: Выд. Беларускае акад. навук, 1929. – 317 с.

**Яворскі** – Яворскі, П. З лексікі рыбаловаў Мазыршчыны / П. Яворскі // Беларуская мова / Гомел. дзярж. ун-т. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1980. – Вып. 7. – С. 70 – 76.

**Янкоўскі-1** – Янкоўскі, Ф.М. Дыялектны слоўнік / Ф.М. Янкоўскі. – Мінск: Выд. АН БССР, 1959. – Вып. 1. – 230 с.

**Янкоўскі-2** – Янкоўскі, Ф.М. Дыялектны слоўнік / Ф.М. Янкоўскі. – Мінск: Выд. АН БССР, 1960. – Вып. 2. – 234 с.

**Янкоўскі-3** – Янкоўскі, Ф.М. Дыялектны слоўнік / Ф.М. Янкоўскі. – Мінск: Выд. АН БССР, 1970. – Вып. 3. – 172 с.

**Яшкін** – Яшкін, І.Я. Семантыка назваў рыбалоўства ў гаворках пяшчанцаў Слаўгарадскага раёна / І.Я. Яшкін // З жыцця роднага слова: зб. арт. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – С. 119 – 132.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ РАЁНАЎ І ГМІН

Аз. – Азярышчанскі
Асіп. – Асіповіцкі
Астр. – Астравецкі
Ашм. – Ашмянскі
Бабіц. –Бабіцкая (Польшча)
Бар. – Баранавіцкі
Барыс. –Барысаўскі
Бераст. – Бераставіцкі
Беш. – Бешанковіцкі
Брасл. – Браслаўскі
Брэсц. – Брэсцкі
Бялынкав. – Бялынкавіцкі
Бяроз. – Бярозаўскі
Бярэз. – Бярэзінскі
В.-Дзв. – Верхнядзвінскі
Валож. – Валожынскі
Ваўк. – Ваўкавыскі
Віл. – Вілейскі
Вільн. – Вільнюскі (Літва)
Віц. – Віцебскі
Воран. – Воранаўскі
Ганц. – Ганцавіцкі
Гарад. – Гарадоцкі
Глыб. – Глыбоцкі
Гродз. – Гродзенскі
Даўг. – Даўгаўпілскі (Латвія)
Дзярж. – Дзяржынскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Докш. – Докшыцкі
Драг. – Драгічынскі
Житк. – Жыткавіцкі
Зэльв. – Зэльвенскі
Іван. – Іванаўскі
Івац. – Івацэвіцкі
Ігн. – Ігналінскі (Літва)
Іўеў. – Іўеўскі
Калінк. – Калінкавіцкі
Кам. – Камянецкі
Кап. – Капыльскі
Кар. – Карэліцкі
Касцюк. – Касцюковіцкі
Клім. – Клімавіцкі
Кобр. – Кобрынскі
Красл. – Краслаўскі (Латвія)
Краснап. – Краснапольскі
Круп. – Крупскі
Крын. – Крынкаўская (Польшча)
Крыч. – Крычаўскі
Куз. – Кузняцоўскі
Лаг. – Лагойскі
Лёз. – Лёзненскі
Лід. – Лідскі
Ліпск. – Ліпская (Польшча)
Лоеў. – Лоеўскі
Лун. – Лунінецкі
Люб. – Любанскі
Лях. – Ляхавіцкі
Маз. – Мазырскі
Маладз. – Маладзечанскі
Малар. – Маларыцкі
Маст. – Мастоўскі
Мёр. – Міёрскі
Міласл. – Мілаславіцкі
Мін. – Мінскі
Міхал. – Міхалоўская (Польшча)
Мсцісл. – Мсціслаўскі
Мядз. – Мядзельскі
Навагр. – Навагрудскі
Навазыбк. – Навазыбкаўскі (Расія)
Паст. – Пастаўскі
Пін. – Пінскі
Пруж. – Пружанскі
Пух. – Пухавіцкі
Рас. – Расонскі
Раснян. – Раснянскі

Свісл. – Свіслацкі
Сен. – Сенненскі
Сір. – Сіроцінскі
Сл. – Слонімскі
Слаўгарад. – Слаўгарадскі
Слуц. – Слуцкі
Смал. – Смалявіцкі
Смарг. – Смаргонскі
Сміл. – Смілавіцкі
Ст.-Дар. – Старадарожскі
Стаўб. – Стаўбцоўскі
Стол. – Столінскі
Трак. – Тракайскі (Літва)
Уздз. – Уздзенскі
Хойн. – Хойніцкі
Хоцім. – Хоцімскі
Чаш. – Чашніцкі
Чыж. – Чыжэўская (Польшча)
Чэрв. – Чэрвеньскі
Чэрык. – Чэрыкаўскі
Шальч. – Шальчынскі (Літва)
Швянч. – Швянчанскі (Літва)
Шум. – Шумілінскі
Шчуч. – Шчучынскі

# РЫБАЛОЎСТВА

**АБАРЭ'Ц**. 'Невялікая трохсценная сетка для лоўлі рыбы ў прыбярэжных зараслях чароту, аіру, хвашчу і іншых шляхам загону' [Баханькоў, с. 219].

**АБЛАЖЫ'ЦЬ**. 'Ахапіць сеткай участак вадаёма, дзе можа быць рыба'. Аблажыў куст – дык наганяў акунёў [Баханькоў, с. 219].

**АБРУ'Ч (АБРУЧЫ', БРУЧ, ОБРУ'Ч], КАЛА'Ч, КРУЖЫ'ЛІНЫ, ЗАКАБЛУ'К (КАБЛУ'К, КАБЛУ'Ч, КАМЛУ'К, КОБЛУ'К, ЦАБЛУ'К], ЛУК, ДУГА'**. 'Лёгкія абадкі (абручы) з яловых ці арэхавых сукоў, на якія нацягваюць палатно ў мярэжах, жаках і інш'. Абруч у жаку, у мярожы [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 243]; [абручы]. 'Лёгкія абадкі з яловых ці арэхавых сукоў, на якія нацягваюць палатно ў мярэжах, жаках і інш.' [Баханькоў, с. 219]; [коблук]. 'Абруч у кошыку, рыбалоўных лавушках' [Велямічы Стол.; ТС, т. 2, с. 200]; Калачэ ў жаках, у кошэлі. Пруты гне ў калачэ [Луткі Стол.; ТС, т. 2, с. 178]; [калач]. 'Круглае рабро ў рыбалоўных лавушках' [Крывіцкі, с. 168]; Кружыліны абцягаюць рыбалоўнай сеткай, і дзе гразкія ямы, там таптухаю ловяць рыбу [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 1, с. 529]; Закаблук – абруч у няротах [Малахоўцы Бар.; СПЗБ, т. 2, с. 213]; Вымак, бы цаблук, мокры, бы цаблук, вымак, што цаблук. Выдзюжыў дошч мяне, як ішла картоплю капаць – мокрая бы цаблукі [Дзяніскавічы Ганц.; СПЗБ, т. 5, с. 333]; [абруч, бруч, обруч, каблук, каблуч, камлук, лук, дуга]. 'Абруч у жаку, нераце і іншых рыбацкіх прыладах' [ЛАБНГ, с. 133].

**АБУ'ЗА**. 'Шнуры, тоўстыя ніткі, якімі прышываюць палатно сеткі да верхняй і ніжняй цяціў' [Баханькоў, с. 219].

**АБУЗІ'ЦЬ**. Прышыць палатно сеткі да цяціў спецыяльным спосабам [Баханькоў, с. 219].

**АВЁ'С, ЖЫ'ВЧЫК, МАЛЬГА' (МАЛЬГВА', МАЛЬГО'ВКА, МАЛЬЖЫНА', МАЛЬЖЫ'НКА), МАЛЮКІ', МАЛЯ'ЎКА, МОЛЬ (МО'ЛЬКА, МОЛЮ'ГА), РЫБЕ'ЛЬ, СЛІ'ЖЫК**. 'Малёк, маленькая рыбка'. [Авёс]. 'Рыбныя маляўкі; малькі' [Баханькоў, с. 219]; [жывчык]. 'Тое, што і *моль*' [Крывіцкі, с. 167]; Цяпер шчукам хватаіць мальгі, поўна мальгі. Мальга – дробная рыпка [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 3, с. 27]; Многа мальгі цяпер у возіры [Пераброддзе Мёр.]. Халера, бальшая рыба пажыраіць многа мальгі [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 250]; Мальгвы наловивъ [СБМН, с. 279]; Малыя рыпкі, або мальга, паяўляюцца ня толькі вясной, але і летам, і восеньню [Пруды Стаўб.; СЦГ, с. 224]; Мальговка клюець, а большая рыба не берецца [СБМН, с. 279]; А цяпер ні аднэй мальжыны нет у рацэ, хаваецца ў глып [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 3, с. 27]; Мальжынка клюніць [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 3, с. 27]; Калі ідзе гутарка пра адну штуку – молька. Што зь естаю рыбаю? Молі й тое німа [Янкоўскі-1, с. 117]; Мой дед век дома не седіць: хоць за молькаю, хоць за вуткаю да паеде. – А што ета за молька? – Ета такая малая рыбка [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 195]; [малюкі]. 'Маляўкі рыбы' [Альшаны Стол.; ТС, т. 3, с. 63]; Маляўкі выводзяцца [Кіралі Шчуч.]. Кучамі маляўкаў ходзя па

рэчцы [Гемзы Шальч.; СПЗБ, т. 3, с. 28]; [моль, молька, молюга]. 'Малёк, дробная рыбка' [Крывіцкі, с. 170]; Рыбак спаймаў рыбеля, нічога не ловіцца [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 314]; Целый дзень сядзеў з вудыю, а пыймаў толькі пяць сліжыкаў [Рэкта Калінінщчына; КСУМ, с. 411].

**АКА'РОК**. 'Частка цела рыбы паміж галавой і спіной'. Як зловіш рыбіну, то акарок наломі ёй, ена ўжэ не уцечэ [Белайчук, с. 228].

**АКРУМЕ'ЛЬ, БАБЫ'РКА, ВАСКАЗО'Б, ГНІЛАПУ'ЗЬ, КАЛБУ'Н [КЕ'ЛБ, КЕ'ЛП, КЕ'ЛБУК, КЯ'ЛБУК, КЕЛБА', КЕЛБУ'Н, КІ'ЛБА, КО'БЛІК, КО'БЕЛЬ], СКО'БЛІК, КО'ЎБІК, КРУМЕ'ЛЬ [КУРМЕ'ЛЬ, КУРМЯЛЁ'К], ОСКОЗО'Б, ПЕЧКУ'Р [ПЕШКУ'Р, ПЕСКУ'Р, ПЕСКАВО'Д, ПЕСКОВО'Д, ПИСКИ'ЖЪ, ПЫСКУ'Р, ПЯСКУ'Р, ПЯЧКУ'Р], ПОЎХ, СІКЕ'РКА, ЧВЫРА'К**. 'Рыба пячкур'. Акрумлямі любіць паласавацца і самая смачная рыба – вонгоры [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 25]; Налавіў плотак, галаўнёў і бабыркі [Жораўкі Сміл.; Шатэрнік, с. 26]; Васказобы не ловяцца цепер [Пярэдзелка Лоеў.; ДСЛ, с. 65]; Мы ловім заўсёды многа калбуноў і ўсякай рыбы [Сакольшчына Уздз.; СЦГ, с. 177]; Келб – небальшая рыба [Кіралі Шчуч.]. Келп – хорошая рыпка, дзе затока, там буйнейшыя і жырнейшыя кялбы, хрыбятная косць у іх тонкая [Гемзы Шальч.; СПЗБ, т. 2, с. 456]; Келб бальшы ні расьце, формай падобны на верацяно, два вусікі ля рота [Саланая Валож.; СЦГ, с. 191]; Келба злавіў на чарвяка [ДСЗ, с. 78]; На чэрвяка зловів доброго келба [Св. Воля Івац.; ДСБ, с. 94]; Келбук у рэчках водзіцца [Сапоцкіна Гродз.]. Кялбукі па дну плывуць [Магуны Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 456]; Рачная келба – маленькая. Марская келба із марэй прыходзіць па пятнаццаць-дваццаць кіль… [Альхоўка Навагр.; СПЗБ, т. 2, с. 456]; Келбуны – так піскароў завуць [Вялікія Нястанавічы Лаг.; СПЗБ, т. 2, с. 456]; Нашы рыбаловы кілбы налавілі, нават вангор папаўся [Барок Стаўб.; ММГ, с. 63]; [коблік, кобель, скоблік, коўбік]. 'Тое, што і *печкур*' [Крывіцкі, с. 168]; Крумялі – малінькіі, шэрынькіі, падхадзяшчы пад ірша, толька ні калючыі [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 248]; Крумель на пясочку, па пішчаных містах водзіцца [Ахрэмаўцы Брасл.]. Крумелі – кругленькія [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 530]; Крумлі дык асьцярожна ловяць, мала іх находзіцца [Мядзел Мядз.; СЦГ, с. 201]; Мы налавілі шмат курмялёў [Дробушава Беш.; Каспяровіч, с. 172]; [курмель]. 'Тое, што і *пячкур*' [Баханькоў, с. 222]; Курмялёў з рэчачкі націгаў [Ясёва Мёр.]. Курмель – малая рыбка [Н. Сяло, Туркова Мёр.; Крыўко, с. 249]; Курмель – маленькая круглая рыпка [Валынцы В.-Дзв.]. Курмялі па мелкіх рэках – шчуплая круглая рыба [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 581]; Аднаго курмялька выцягнуў і таго ў раку пусціў [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 581]; Оскозоб – така маленька рыбка, беленька [Мачуль Стол.; ТС, т. 3, с. 267]; [печкур, пешкур, пескур, песковод]. 'Тое, што і *печкур*' [Крывіцкі, с. 171]; Пяскуре ў жвире жывуць на дне [Каробчыцы Гродз.; Сцяшковіч, с. 394]; Печкур – дзіцяча рыба [Тураў Жытк.; ТС, т. 4, с. 49]; Пискижовъ наловивъ [СБМН, с. 415]; Нам у сетку попалось мныго пыскурів [Ляхавічы Драг.; ДСБ, с. 190]; Пячкуроў налавіў цэлую даёнку [Янкоўскі-1, с. 158]; Печкуроў і зловіць не зловіш, зарыюцца собі на дно рэкі [Белайчук, с. 227]; [поўх]. 'Тое што і *печкур*' [Крывіцкі, с. 171]; Сікерка двух радоў: брухацянькі – сліш і другая мая

калючачкі, яна запратуяцца ў пясок [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 4, с. 424]; Чвырак больш у пяску [Семежава Кап.; СПЗБ, т. 5, с. 422]; [пескавод, гнілапузь]. 'Невялікая рыба з верацёнападобным целам, пакрытым буйной луской, з бурай спінкай і жаўтавата-серабрыстымі бакамі з папярочнымі плямамі, з вусікамі па баках рота' [ЖС, с. 75].

**АКУ'НЬ [АКО'НЬ, АКУНЁ'К, ВАКУ'НЬ, КУ'НІК, О'КУНЬ, ОКУНЕ'Ц, ОКУ'НЬЧЫК] БА'ЕЦ, ГАРБЫ'ЛЬ, МАТРО'СІК**. 'Акунь'. Я злавіў акуня [Кошчава Беш.; Каспяровіч, с. 19]; [акунь]. 'Рачны акунь' [Баханькоў, с. 219]; Во які акунь здаровы, гэткага аднаго хваціць пад'есці [Янова Мёр.]. Акунеў многа ў нашых азірах. [Н. Сяло Мёр.]. Во акуні – як пірагі. [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 243]; [акунёк]. 'Памянш. ад *акунь*' [Янкоўскі-2, с. 24]; Вакунь – калючая рыба [Падкрыжжа Смал.; СЦГ, с. 51]; У нас у Волці ёсць окунь, шчукі, платва [Ясёва Мёр.]. Во окунь – што пірох усё роўна [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 251]; Окунь пасаты, судак тэж такое масці [Запясочча Жытк.; ТС, т. 3, с. 255]; Окунь хароша рыба, натта смашна [Кіралі Шчуч.; СПЗБ, т. 3, с. 260]; Маленькому окуньчыку і назва маленькая, а большы – окунец [Лутк Стол.; ТС, т. 3, с. 255]; Окунь мае дужа каляную луску, рукі пакалечыш, пака яго апратаяш [Бытча Барыс.; СЦГ, с. 251]; Сярэдні акунь у нас завуць баяц [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 33]; Такі гарбыль мне першы рас папаўся [Канстанцінава, Мядз.; СЦГ, с. 88]; [аконь, гарбыль, кунік, матросік]. 'Драпежная рыба зеленавата-жоўтага колеру з цёмнымі папярочнымі палосамі, з чырванаватымі ніжнімі плаўнікамі і калючым спінным плаўніком, жыве ў рэках і азёрах' [ЖС, с. 67].

**АКУНЁ'ЎКА**. 'Вудачка, прыстасаваная вудзіць акунёў'. Акунёўкі закіньмо на яме [Янкоўскі-2, с. 24].

**АПРАЛЁ'ЎКА**. 'Шчупак, які нерастуе ў красавіку' [Баханькоў, с. 219].

**АПШЫВА'НКА [ОБШЫВА'НКА], БА'РКА, ГІЛЯ'РА, ДУБ, ЛО'ДКА [ЛО'ТОЧКА], РАЗГІБА'НКА, ЧА'ЙКА**. 'Дашчатая лодка з шалёвак'. Апшыванка наша цякець, нада зыкынипаціць ды прысмаліць хырашэнька [Паланіца Крыч.; КСУМ, с. 56]; [обшыванка]. 'Човен, абабіты чым-небудзь' [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 3, с. 240]; Нашу барку понэсла вода [Церабяжоў Стол.; ДСБ, с. 18]; Мэ возэлыса на гілярэ [Востраў Пін.; ДСБ, с. 45]; Дуб по озэры плыве [Велямічы Стол.; ДСБ, с. 59]; Лотка зроблена з дошчок [Бярэжцы Жытк.; ТС, т. 3, с. 39]; Едуць удвох лоточкою [Чэрнічы Жытк.; ТС, т. 3, с. 39]; Разгібанку рабілі з досак [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 4, с. 253]; У чайках сядзяць, лапаюць рыбу [Парэчча Гродз.]. Дзесяць чайкаў едуць [Альхоўка Навагр.; СПЗБ, т. 5, с. 397]; На чайцы мы поіхалы по рогуз [Марозавічы Пін.]. Мы іздылы на чайцэ цілы вачор [Ладараж Пін.; ДСБ, с. 252].

**АСА'ДА**. 'Каркас, аснова, да якой прымацоўваецца палатно сеткі (напр. абручы і дугі ў мярэжах і інш.)' [Баханькоў, с. 219].

**АСАДЗІ'ЦЬ**. 'Прымацаваць палатно сеткі да якога-небудзь каркаса, асновы' [Баханькоў, с. 219].

**АСТАШЫ'**. 'Простыя рыбацкія боты з высокімі халявамі (ад назвы ботаў асташкаўскіх рыбакоў-асташоў)' [Баханькоў, с. 219].

**АСТРАГІ', ВО'СЦІ [О'СЦІ], ТРИГУ'БИЦА**. 'Рыбалоўная ўдарная прылада з кольчай часткай на канцы, восці'. Астрагамі лучаць у рыбу [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 1, с. 113]; Васцямі рыбу коліш, як іна йдзець на нераст [Прераброддзе Мёр.]. Восці з даўгім-даўгім цаўём [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 245]; Осці – што рыбу ловіць, такая палка длугая і жэлезны на канцы кручочкі [Грыкені Вільн.; СПЗБ, т. 3, с. 264]; Осцями щуку большую забивъ. Зъ осцями на рыбу поехавъ [СБМН, с. 370]; [осці]. 'Астрагі' [Крывіцкі, с. 170]; [тригубица]. 'Трезубецъ, орудіе состоящее изъ жерди, на конце которой прикреплена железная гребенка о трехъ зубахъ для убиванія рыбы'. Иначе называется: *восци* [СБМН, с. 639].

**БА'БА[1] [БА'БІЦА], БЕРО'ЗОВКА, БУ'БЛІЦА, ВО'БЛІЦА [ВОБЛА'К], ДНЯ'НКА, ЕБРО'ЗЬ, КЛЯПЕ'Ц, КОРА'ЎКА, ОБЛЯ'К, ПЛАСКУ'ХА, ПЛО'ТКА [ПЛО'ЦІЦА, ПЛАТВА', ПЛО'ТВА, ПЛОЦЬ], ТОЎСТОКО'РА, ЯБРЫ'НЬ**. 'Рыба плотка'. Баба – веліка плотка, вона разом з другімі плавае [Сямігосцічы Стол.; ТС, т. 1, с. 30]; Бабіца – плотка сіневата, чэрвата [Мачуль Стол.]. Бабіца бі плотка, (у яе) чорнейшая спіна і тоўшчэйша (яна) за плотку [В. Малешава Стол.; ТС, т. 1, с. 32]; [берозовка]. 'Тое, што і *обляк*' [Крывіцкі, с. 166]; [бубліца]. 'Ябрынь (крупная платва)' [Крывіцкі, с. 166]; Вобліцу і зворыць добра, і пуджарыць [Белайчук, с. 227]; Бальшым валам набіла вобліцы поўны берах [Баханькоў, с. 220]; Вон такі здоровенны воблак зловіў, аж кручок чуць не одорваў [Белайчук, с. 227]; [днянка]. 'Тое, што і *обляк*' [Крывіцкі, с. 167]; [еброзь]. 'Тое, што і *обляк*' [Крывіцкі, с. 167]; Кляпец – плотачка, кругленькая, тоўсценькая [Бывалькі Лоеў.; ДСЛ, с. 160]; [кораўка]. 'Тое, што і *ябрынь*' [Крывіцкі, с. 168]; [обляк, вобліца]. 'Мелкая платва' [Крывіцкі, с. 170]; Налавіў торбачку пласкухі [Раўнаполле Сміл.; Шатэрнік, с. 218]; Унас у Волці ёсць окунь, шчукі, платва [Ясёва Мёр.]. У гэтых азёрах есць і окунь, і платва, а лешч рэдка пападаіць [Пераброддзе Мёр.]. Платвы налавілі болі, чым якой [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 252]; Я добрую плотку ўчора ўлавіўшы [Янова Мёр.]. Во ікая бальшая плотка папалася табе на вуду [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 252]; Плотка клюець дрэнна [Касяпяровіч, с. 244]; Нема плоток, одные окуньцэ [Пагост Жытк.; ТС, т. 4, с. 61]; Здобыч невялікыя: усяго дзьве плоткі ў нерыт улезла [Палуж Краснап.; КСУМ, с. 333]; Плотка бузой пахніць. Тут плотка ёсь [Ахрэмаўцы Брасл., Істра Лудз.]. Плотка тожа ш да кілі расце [Збляны Лід.; СПЗБ, т. 4, с. 15]; [плотка, плоціца, плотва]. 'Платва Rutilus rutilus L.' [Крывіцкі, с. 171]; Плоць – белая, укусная рыба [Стральцы Гродз.]. Плоць у возеры водзіцца [Шкаўна Лудз.; СПЗБ, т. 4, с. 16]; [тоўстокора]. 'Тое, што і *кораўка* (плотка)' [Крывіцкі, с. 173]; [ябрынь]. 'Крупная платва' [Крывіцкі, с. 174].

**БА'БА[2]**. 'Бочка ці тоўстая калода, умарожаная ў лёд'. У адну пролубку апускаюць сетку пад лёд, а канец вяроўкі наматваюць на бочку, якая бабай называіцца, круцяць вяроўку на бабу і праз другую выцягваюць сетку з рыбай [Нарач Мядз.; СЦГ, с. 31].

**БА'БА[3]**. 'Вялікая драўляная бабіна (звычайна гэта дзежка), прымацаваная да саней, пры дапамозе якой накручаным на яе канатам уручную прыводзілі ў

рух невад'. Баба – дзежка з дасок, пастаўліна на санкі. Абкручывалі канатам, круцілі ўручную. Цяпер невад цягнуць маторамі [Янова Мёр.; Крыўко, с. 243].

**БА'БКА, ВАРЖАЛА'ПКА, ВЕРХАВО'ДКА, ВЕРХОВО'ДКА [ВЕРХОВО'Д], ВЕРХАЛЁ'ТКА [ВЕРХОЛЁ'ТКА], ВЕРХАЛА'ПКА, ВУКЛЯЯ' [АКЛЕ'ЙКА, КЛЕ'ЙКА, КЛЕЯ', КЛІ'Я, ОКЛІ'Я, УКЛІЯ', УКЛЕ'ЙКА, УКЛЕЯ', УКЛЯЯ'], ЖЫДО'К, ОБЛЁ'НОК, СИЛЯ'ВА, ПАДУКЛЕ'ЙНІК, ШЫШ**. 'Рыба верхаводка'. [Бабка]. 'Рыба верхаводка' [Запясочча Жытк.; ТС, т. 1, с. 32]; Зверху ў рэчках плавая калюшка, варжалапка. У варжалапкі тоўсценькая галоўка [Магуны Паст.; СПЗБ, т. 1, с. 283]; Верхаводак добра на возеры лавіць [Мазыр; Яворскі, с. 72]; [верховодка, верховод]. 'Уклея' [Крывіцкі, с. 166]; [верхолётка]. 'Тое, што і *верховодка'* [Крывіцкі, с. 166]; У нашым возеры ёсьць вукляя [Астроўна Віц.; Каспяровіч, с. 62]; На клейку шчука брала [Янкоўскі-1, с. 96]; Клейка – мала рыпка [Воўкуш Ліпск.; СПЗБ, т. 2, с. 473]; Рэдко ловіцца клея ў нашай месцовосці, раней було болей [Белайчук, с. 227]; [уклейка]. 'Верхаводка' [Баханькоў, с. 225]; Уклія нарастуіць [Баханькоў, с. 225]; Нажыўляць можна ўклейкый і ў асобіннасці чарвямі [Пераброддзе Мёр.]. Уклейка і ўклія – разніцы нет [Янова Мёр.]. Уклейка – як адна рыбіна, а ўклія – як многа [Н. Сяло, Туркова Мёр.; Крыўко, с. 255]; Уклейка па вярху ходзіць [Магуны Паст.]; Уклейка – маленькая рыпка, павярху плаваіць [Валынцы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 5, с. 197]; Уклея плавая зверху [Жодзішкі Смарг.]. Укляя водзіцца ў возяры [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 5, с. 198]; Уклія цяперака нарастуіць [Пераброддзе Мёр.]. Уклейка – як адна рыбіна, а ўклія – як многа [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 255]; [уклія, клія, оклія]. 'Тое, што і *верховодка'* [Крывіцкі, с. 173]; Облёнкі з язем б'юцца ў одном месці [Аздамічы Стол.; ТС, т.3, с. 227]; Силявы наловивъ на вечеру. Большую рыбу продаць, а селяву собе [СБМН, с. 579]; Натта смачная рыпка падуклейнік, вельмі ласы да падуклейніка шчупак [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 268]; [верхалётка, верхалапка, аклейка, жыдок, шыш]. 'Невялікая рухавая рыбка, пакрытая бліскучай луской, жыве ў верхнім пласце вады і трымаецца табунамі' [ЖС, с. 68].

**БА'РОК**. 'Вялікі шчупак'. О баркоў наловіў! [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 1, с. 43].

**БАБА'НЫ**. 'Ікра ў ментуза' [Верасніца Жытк.; ТС, т. 1, с. 31].

**БАЙДА'К, БАРЛІ'НА, ВЫДАЛБА'НКА, ДУБІ'НА [ДУБІ'ЦА, ДУБО'ВКА], ДУШАГУ'БКА, КАМЯ'ГА [КОМЯ'ГА], КАЯ'К, КОМЭ'ЛНЫК, ЛО'ТКА, ПАТУ'ШНІК, ПЛАЎНІ'К**. 'Лодка, выдзеўбаная з тоўстага дрэва'. Байдак – велікая лодка [Пярэдзелка Лоеў.]. Калісь параходаў не було, байдакі булі [Крупейкі Лоеў.; ДСЛ, с. 43]; [барліна]. Сустрэта ў вёсках, якія знаходзяцца на Пцічы, а таксама ў в. Слаўкавічы, на захад ад якой пачынаецца Палеская нізіна. У апошняй расказваюць, што колісь тут было морэ, барліна дайшла аж да Слаўкавіч, а як "морэ высахло", яна застрала і захаваліся рэшткі яе [Янкоўскі-1, с. 38]; Выдалбанка – з тоўстага дзерава, бальшынство з ліпы, з асіны выдалбаюць [Рудня Чэрв.; СПЗБ, т. 1, с. 349]; Я ўсё, бувала, любіў рыбу лавіць некалі, як быў маладый, з дубіны; заплывеш на сярэдзіну Дзісенкі і ловіш [Восцевічы Мёр.]. С асіны бальшынство робілі

дубіны [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 246]; Дубіца – лодка, прамоя карыта. Паддзеланы дзве даскі з бакоў, як крыжы. [Пераброддзе Мёр.]. Дубіца – карыта выдзёўбывалася такоя з таўстога браўна, з асіны іх робілі [Камянполле Мёр.; Крыўко, с. 246]; Дубіца – лотка ні збіваная, а выдалбаная з дрэва [Мярэцкія Глыб.]. Дубіцу рабілі з тоўстай дзеравіны: сасновые, дубовые, асінавые [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 2, с. 99]; Узялі цішком ад бацькі дубіцу і паехалі вазіцца на возера [Чараўкі Мядз.; СЦГ, с. 125]; Я на сваёй дубіцы лавіў рыбу [Мікалаева Куз.; Каспяровіч, с. 99]; [дубовка]. 'Лодка, выдолбленная изъ дуба' [СБМН, с. 147]; Я ні сяду ў етыю душагубку, у ёй можна піракуліцца [Барысавічы Клім.; КСУМ, с. 160]; На беразе ляжыць дзіравая камяга, а чыя яна? [Халопенічы Круп.; СЦГ, с. 181]; Толькі ці дадуць нам комягу? [Каспяровіч, с. 152]; Комягу не такъ ловко увернешъ, як човенъ [СБМН, с. 244]; Каяк з дзерава выдаўбаны, на каяку паехаў [Жылі Іўеў.]; Каяк – маленькая лодачка, плыткая [Малахоўцы Бар.; СПЗБ, т. 2, с. 450]; Комэлнык – с товстого дуба [Лапацін Пін.; ДСБ, с. 103]; Па речкі лотка, і ў ёй сядзелі два чылавек [Арцёмаўка Мілаcл.; КСУМ, с. 252]; Мы на патушніку возера пераплывалі з аднаго на другі берах [Рудня Чэрв.; ММГ, с. 86]; Мой плаўнік патрабуе рамонту, цячэць [Тур'я Чэрык.]. Вуна рыбак едзіць ны плаўніку [Вербаж Чэрык.; КСУМ, с. 332].

**БАЛТА'К [БО'ЛТАК, БАЛТА'Ч, БАЛТЫ'Ш, БАЎТУ'Н, БЛЁ'ХАЛА, БО'ЛДАЎКА, БОЎТ, БОЛТ, БОВТ, БО'ЎТАЛА, БО'ЎТКА, БО'ЛТКА, БО'ЎЦЕНЬ, БОВТА'ЛО, БОЎТА'Ч, БОЎТЫ'Ш, БУЛТ], БРОХ, ГОНЕ'Ц, ЗАГАНЯ'ЛА, ЗАГАНЯ'ЛКА, КО'ЛАТ, КО'ЎКА, ПО'СОХ, ХРО'ПОСТ, ШОСТ**. 'Доўгі шост, якім пужаюць і заганяюць рыбу ў сетку'. Дзе ты схаваў балтак, ня будзе чым рыбу заганяць у сетку [Канстанцінава Мядз.; СЦГ, с. 35]; Болтак – чым рыбу загоняюць у сетку [Хатынічы Ганц.; СПЗБ, т. 1, с. 159]; На тычыну якую бляшку надзенуць, яна брынчыць і палохаюць рыбу [Дакудава Лід.; СПЗБ, т. 1, с. 159]; Заганяй рыбу балтышом [Лядцо Пух.; Шатэрнік, с. 28]; [баўтун]. 'Доўгая выструганая палка з тоўстым наканечнікам, якой заганяюць рыбу ў сетку' [Баханькоў, с. 220]; Блёхала лежыць пад чоўнам [Карпаўка Лоеў.; ДСЛ, с. 52]; Рыбу заганяпі ў сетку болткай [Пераброддзе Мёр.]. Болткый болтаіш і гоніш рыбу ў снасць, болі ў сетку [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 244]; Болдаўкай рыбу заганяюць у сеці – гэта доўгі шост з булавой на канцы [Лісна В.-Дзв.]. Рыбу заганяюць у сетку боўтам. [Мсцібава Ваўк.]. Болт – длінны крук з булдавой. [Мсцібава Ваўк.]. Бувтом рэбу гоняць, як ловлять. [Радастаў Драг.; СПЗБ, т. 1, с. 201]; Боўтам як боўтнуў разоў тры, дак аж бело стаўбуноў у сеці [Янкоўскі-1, с. 43]; Боўталам заганяюць рыбу ў сетку [Дукора Пух.; СЦГ, с. 41]; Пары рыбу боўткай [Лісна В.-Дзв.]. Боўтка – жардзіна з булавой на канцы, якою заганяюць рыбу ў сетку [Скрудалена Даўг.; СПЗБ, т. 1, с. 209]; Боўтка такая з таўстым канцом. Ваду боўтаюць, рыбу гонюць [Канцэрава Мёр.; Крыўко, с. 244]; Дай мне боўтку [Доўгае Беш.; Каспяровіч, с. 41]; Лезь у воду, возьмі боўцень дэ пужай рыбу ў цегоўку [Белайчук, с. 229]; Гони бовталомъ рыбу [СБМН, с. 28]; Ёсць боўтач рыбу заганяць [Бакшты Іўеў.]. Боўтыш суе ў берагі і ганяе рыбу боўтышом [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 1, с. 209]; Бултам муцяць воду [Старыя Смільгіні Воран.; СПЗБ, т. 1, с. 208]; Лезь у воду,

Мірон, дэ боўтачом трохі рыбу попужай, коб болей було [Белайчук, с. 229]; А-я-яй, брох забулі ўзяць, ім жэ так добре рыбу з трову загоняць [Пагост Жытк.; ТС, т. 1, с. 83]; Гонец – шост гоніць рыбу, у ём колцы на концы, шоб бразкало [Цераблічы Стол.; ТС, т. 1, с. 216]; Заганялам заганялі рыбу ў сетку [Ясёва Мёр.; Крыўко, с. 247]; Заганялка была такая заганяць рыбу ў сетку [Даўгінава Мёр.]. Заганялкай болтаіш ваду і заганяіш рыбу ў снасць [Ясёва Мёр.; Крыўко, с. 247]; Колат – палка такая, патоўшчаная на канцы, таўчы (заганяць) рыбу [Саланое Віл.]. Колат – палка, якой заганяюць рыбу ў таптуху [Вялікія Нястанавічы Лаг.; СПЗБ, т. 2, с. 495]; Не забудзь, Янка, узяць колат у лодку, ато нечым будзіць рыбу загыняць у нерат [Новыя Капачы Мсцісл.; КСУМ, с. 229]; Прысам боўтаюць у вадзе і заганяюць рыбу ў сетку. Прыс яшчэ называюць колатам [Малмыгі Віл.; СЦГ, с. 196]; Рыбу глушылі коўкай, палку выражуць і на канцы тоўста [Янова Рас.; СПЗБ, т. 2, с. 508]; [посох]. 'Прылада, якой палохаюць і заганяюць рыбу ў сетку' [Кароцічы Стол.; ТС, т. 4, с. 192]; Узяў бы хропост і загоняў бы поперэду рыбу ў сетку [Белайчук, с. 230]; [шост]. 'Тонкая, доўгая, гладка выструганая палка з патаўшчэннем на канцы для засоўвання абарца ў ваду і загону ў яго рыбы' [Баханькоў, с. 225].

**БАЛТА'ЦЬ [БО'ЎТАЦЬ]**. 'Боўтаць ваду боўткай (болткай), заганяючы ёй рыбу ў сетку'. Болткай балтаіш ваду, б'еш па вадзе, заганяіш рыбу ў сеткі. [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 243]; Пойдзім рыбу боўтаць [Восцевічы Мёр.; Крыўко, с. 244].

**БАРТУ'ЛЬ, ВЫ'ПАЛСКА, РАБА'К [РОБА'К, РЫБА'К[2]], ЧЭРВЯ'К**. 'Чарвяк як рыбацкая прыманка'. [Бартуль]. 'Вялікі чарвяк-выпаўзак, якім нажыўляюць кручкі ў шнурах' [Баханькоў, с. 219]; Ляшчы бяруцца на выпалску. Выпалска – чырвоны рабак [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 1, с. 362]; На рабака лавіў рыбу [Чуркі Ашм.]. Рабакі ідуць – павотка будзя (пасл.) [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 4, с. 229]; Ляшчы бяруцца добра на рыбакоў чырвоных [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 4, с. 322]; Накопай рыбаковъ; на рыбаковъ вокуни ловюцца! [СБМН, с. 570]; На вугоні, ле Міколаіхі, вельмі богато чэрвей, особліво ле плоціка [Белайчук, с. 229].

**БЕ'ЛАЯ РЫ'БА**. 'Умоўная назва разнавіднасці рыбы, да якой адносяць плотку, гусцяру, ляшча і некаторых іншых рыб'. На вяління гадзіцца белая рыба: плотка, гусціра і інш. [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 243].

**БЕЛІ'ЗНА [БЕ'ЛЕСЦЬ, БЕЛЮ'ГА, БЕЛУ'ХА], ДЗЕЛЯСПЁ'Р, [БЕЛАСПЕ'Р, РАСПЁ'Р, ШАРАСПЁ'Р], ЖЭ'РАХ, КОНЬ**. 'Драпежная рачная рыба, падобная на ляшча'. Не вельмо й просто зловіць ету белізну: усё з вудкі зрываецца [Белайчук, с. 227]; У рэке белухі ўжэ мало [Белайчук, с. 227]; [белюга, белізна]. 'Жэрах' [Крывіцкі, с. 166]; Дзеляспёр – рыба файная, велькая [Дакудава Лід.]. Дзеляспёр – бальшая, дзесяць-пятнаццаць кіль рыба, сільная, пакрытая белаю лускою, яе паймаць можна ноччу, а днём натта асцярожная, добра відзіць [Альхоўка Навагр.; СПЗБ, т. 2, с. 42]; Распёр – гэта рыба нападобія язя [Лісна В.-Дзв.]. Распёр ганяіць рыбу [Валынцы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 4, с. 280]; Жэрах пахош на лішча, болі шырокі, і таўсцейшы, і даўжэйшы. Жэрах – болі рачная рыба [Цімошкава Мёр.; Крыўко, с. 247]; [белесць, шараспёр, беласпер, конь]. 'Драпежная буйная рыба сямейства карпавых, з

прагоністым, падціслым з бакоў целам, пакрытым дробнай светлай луской, і з шырокім целам' [ЖС, с. 70].

**БЕЛОГЛА'ЗКА**. 'Рыба, падобная на ляшча, невялікага памеру'. Белоглазкі вельмо смашныя жарэныя [Белайчук, с. 227].

**БЕ'РЕСТ [БЕРЭСТО'К, БІРАСЬЦЯ'НКІ], ГЛАЗО'К, КАТКІ'**. 'Бяроставы паплавок у сеткавых рыбалоўных прыладах'. [Берест]. 'Тое, што і *глазок'* [Крывіцкі, с. 166]; [берэсток]. 'Паплавок на рыбалоўнай сетцы' [Пагост Жытк.; ТС, т. 1, с. 56]; [бірасцянкі]. 'Паплаўкі са скручанай у трубачку бяросты, якія надзяваюцца на верхнюю цеціву для падтрымлівання сеткі на вадзе' [Баханькоў, с. 220]; [глазок]. 'Паплавок' [Крывіцкі, с. 167]; Каткі дзіравяныі робюць, і каткі бірасцяныі, і гліняныі [Янова Рас.; СПЗБ, т. 2, с. 437].

**БЕ'РЦЭ [БЕРЦ], ВІ'ЛОЧКА, [ВІ'ЛІЦА], ДО'ШЧАЧКА, ІГЛІ'ЦА, ЛАПА'ТКА, ЦЭ'ЎКА, ЧАЎНА'К**. 'Выструганая драўляная лапатачка (чаўночак), пры дапамозе якога вяжуць рыбалоўныя сеткі'. Берцэ – то дошчэчка гака набіраць очкі [Аздамічы Стол.; ТС, т. 1, с. 55]; Возьмі, Міканор, мое вілочкі, вунь ле плоту лежаць [Белайчук, с. 229]; [берцэ]. 'Драўляная пласцінка для фарміравання ячэек пры вязанні рыбалоўных сетак' [Крывіцкі, с. 166]; [віліца]. 'Драўляны ручны чаўнок для вязання рыбалоўных сетак' [Крывіцкі, с. 166]; [дошчачка]. 'Гладкая выструганая драўляная пласцінка, пры дапамозе якой зацягваюць вузлы пры вязанні сеткі' [Баханькоў, с. 220]; Без іглiцы рыбак як без рук, ніводная сетка ні звяжыцца [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 171]; [ігліца]. 'Тое, што і *віліца'* [Крывіцкі, с. 167]; На лапатку вяжыцца сетка. Лапатка – лінейка такая [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 212]; Цэўкый і лапаткый візалі сеткі [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 249]; [цэўка]. 'Чаўночак для ручнога вязання сеткі: тонкая драўляная пласцінка з завостраным верхам і выемкамі ў сярэдзіне і ўнізе, на якія намотваюцца ніткі' [Баханькоў, с. 225]; Цэўкый і лапаткый візалі сеткі [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 255]; На чаўнак накрываіцца нітка і вяжуць палатно сеткі [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 256].

**БІРУ'ЛЬКА**. 'Драўляная пласцінка ў крыле стаўных рыбалоўных пастак' [Крывіцкі, с. 166].

**БІЦЬ, ГЛУШЫ'ЦЬ**. 'Аглушаць рыбу ўдарамі па вадзе, лёдзе'. [Біць]. 'Глушыць (рыбу), ударяючы кукай або пабаешкай па лёдзе' [Баханькоў, с. 220]; [глушыць]. 'Тое, што і *біць*' [Баханькоў, с. 220].

**БЛІСЕ'НІЦЬ, БЛІТНЯВА'ЦЬ [БЛІТНІВА'ЦЬ]**. 'Лавіць зімой рыбу на блешню'. Блісенілі сегодні, спаймалі п'яць ершоў [Пярэдзелка Лоеў.; ДСЛ, с. 53]; Вы на возіры блітнівалі, мальцы? [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 244].

**БЛІСЬНЯ' [БЛІСНЯ', АБЛІ'ТНЯ, АБЛІТНЯ', БЛІТНЯ']**. 'Бляшня, рыбка з бляхі, што прычэплівaецца да вуды для прыманкі і лоўлі рыб'. Нешта цяпер рыба ня ловіцца на блісьню [Тур'я Чэрык.; КСУМ, с. 88]; Зачапіў за галіну й атарваў блісьню. А ці дарагая такая блісьня [Янкоўскі-1, с. 42]; Блісня – прылада рыбалавецкая, якой ловяць зімой рыбу [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 53]; Аблітнёю ловяць рыбу або зімой у пролубі, трасучы вудачку, супроць вады [Вішковічы Чаш.; Каспяровіч, с. 4]; [аблітня]. 'Самаробная блешня, вылітая са свінцу' [Баханькоў, с. 219]; Аблітню ў ваду і жджэш, калі рыбіна абманецца і пападзецца [Манякова Мёр.]. На акуня нада аблітня, па-

другому – дарожка [Парброддзе Мёр.; Крыўко, с. 243]; І блітнёй ловіш у вазярэ [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 244].

**БО'МКА**. 'Будка ў лодцы'. Залез у ту бомку да спіць [Альшаны Стол.; ТС, т. 1, с. 72].

**БО'ЎТАЦЬ**. 'Ударацъ боўтак, удорамі боўта заганяць рыбу (у сетку)'. Ты аддыхні, дай я буду боўтаць [Янкоўскі-2, с. 32].

**БОЎТУ'ШКА**. 'Рыбалоўная снасць'. Боўтушкі плятуць з лозы, уніз вузка, а ўверху шырэй і шырэй [Малыя Аўцюкі Калінк.; СПЗБ, т. 1, с. 209].

**БРАДЗІ'ЦЬ**. 'Хадзіць па вадзе і боўтаць яе боўткай (болткай), пужаючы, гонячы такім чынам рыбу ў сетку'. Некалі, як я быў малады, мы брадзілі, рыба йшла, а яе сеткай запіналі [Янова Мёр.; Крыўко, с. 244].

**БРО'ДЗЕНЬ [БРАДЗЕ'НЬ, БРАДЗЯНО'К, БРО'ДАК, БРАДНІ'К, БРЕ'ДЗЕНЬ, БРО'ДНІК, БРОД, БРОТ, БРЭ'ДЗІНЬ, БРЭ'ДЗЕНЬ, БРЭ'ДЗЯНЬ, БРЭ'ДНІК], КРЫ'ГА, ПАЛАЗЫ', ТРАЙНІ'К, ЦЕГО'ЎКА**. 'Рыбалоўная снасць з драўлянай асновай – палазамі лавіць рыбу ўброд, ручная лавушка рыбы з сеткі, нацягнутай паміж двума палазамі'. Бродзінь мой парваўшысі саўсём [Янова Мёр.]. Наш Мішка ўсё браднём лавіў [Н. Сяло, Туркова Мёр.; Крыўко, с. 244]; Бродзень вядуць два чалавекі, скружваюць і ловяць бродзінем любую рыбу [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 42]; Малы брадзянок ёсь [Дуброўкі Брасл.; СПЗБ, т. 1, с. 210]; Лавіў броткам рыбу [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 1, с. 217]; Можа б ву, дзядзько, позычылі нам броднік рыбу на Муцьве попужаць [Белайчук, с. 229]; Я браднік дастаў [Воўкасьцк Лёз.; Каспяровіч, с. 41]; Брэдзень – сетка небальшая, метры тры-чатыры, па баках палкі знізу, цэп, штоб яна цягнулась па дну [Мазыр; Станкевіч, с. 298]; [брэдзень]. 'Тое, што і *волок*' [Крывіцкі, с. 166]; [броднік]. 'Тое, што і *крыга*' [Крывіцкі, с. 166]; Рыбу ловяць і бродам. Брот складаецца іс сеткі і двух паўзагнутых палкаў, да каторых прыкрапляецца сетка, а трэцяя палка прамая – даўжыні два метры і прыкрапляецца да гэтых паўзагнутых палак [Альхоўка Навагр.; СПЗБ, т. 1, с. 217]; Узялі брэдзінь і пайшлі ў рыбу [Хвёдараўка Краснап.; КСУМ, с. 93]; Хлопцы пашлі лавіць рыбу брэднікум [Расна; КСУМ, с. 93]; [крыга]. 'Прылада для лоўлі рыбы у неглыбокіх зарослых месцах, якая складаецца з двух рухомых палазоў і шаста, абцягнутых сеткай' [Баханькоў, с. 222]; Крыга з палазамі [Азяраны Раг.]. Крыга – з палазамі сетка. Два палазы, канцы загнуты, за канцы бяруць і цягнуць [Глівін Барыс.; СПЗБ, т. 2, с. 541]; Крыгай добра лавіць у ціхую погоду [Карпаўка Лоеў.]. Крыгу робяць з палазоў і полоцен [Ручаёўка Лоеў.; ДСЛ, с. 168]; Па заросшых рэках рыбу ловяць крыгамі [Пятніцкая Беш.; Каспяровіч, с. 168]; [крыга]. 'Рыбалоўная перасоўная лавушка з шырокім адкрытым заходам або невялікая перасоўная сетка для лоўлі рыбы ўтраіх у траве абхватам ці каля берага' [Крывіцкі, с. 169]; Міроне, пошлі крыгу поцягнем по конаві, мо шо добрэе і поймаем: кажуць, белые карасі ёсць [Белайчук, с. 230]; Удвух крыгай ловюць. Палазом жмець-жмець і ловюць і злаўліваюць [Пераброддзе, Н. Сяло Мёр.]. Мы ўперат усё крыгай лавілі [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 248]; Крыгу ўдвох цягнуць, а трэці поднімае [Сямурадцы Жытк.; ТС, т. 2, с. 242]; Крыгою цяжко ловиць рыбу [СБМН, с. 255]; Заходзь з крыгаю к берагу [Лядцо Пух.; Шатэрнік, с. 139]; У крыгу

наловілі богата рыбы. Крыгаю ўначы лепш лавіць [Янкоўскі-1, с. 102]; Палазамі ўдвух ловім, ішчэ іх крыга зовюць [Янова Мёр.; Крыўко, с. 251]; У трайніку гегні і сетка, ловяць утрох. Трайніком ракі ловяць [Кураполле Паст.]. Трайніком лавілі рыбу, утрох нада лавіць, ззадзі палка і крылы [Петкуны Брасл.; СПЗБ, т. 5, с. 112]; Му дык свою цегоўку шчэ не построілі [Белайчук, с. 230]; [брэдзень, бредзень, брэдзянь, брот, трайнік]. 'Ручная лавушка з сеткі, нацягнутай паміж двума палазамі' [ЛАБНГ, с. 132].

**БУ'ШВАР [БУ'ЧВАР]**. 'Прыстасаванне на носе лодкі, пры дапамозе якога падымалі якар плыта'. На бучвару на дубі на носі вороток, на ім льняны канат [Хачэнь Жытк.; ТС, т. 1, с. 100].

**БУЛДО'ЎКА**. 'Тоўсты наканечнік на прыладзе, якой заганяюць рыбу ў сетку'. Булдоўка была надзета на канец болткі. Рыбу заганялі гэтый болткай. [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 244].

**БУРО'ВІЦЬ**. 'Круціцца (у вадзе)'. Ек начне сом буровіць, то не удзержыць мотылёк [Верасніца Жытк.; ТС, т. 1, с. 96].

**БУЧ [БУ'ЧА]**. 'Лавушка для рыбы, ракаў з лазы конусападобнай формы, якая ставіцца ў канавы'. Буч у канаву ставюць. У буч шчука йдзець, плотка. Ракуў бучамі лавілі. Можна й браднём. Буч на рака здзелана з лучыны [Пераброддзе Мёр.]. Бучы ў канавы стаўлялі [Н. Сяло Мёр.]. Ёсць бучы і есць бучкі [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 244]; [буч, буча]. 'Рыбалоўная прылада' [ЛАБНГ, с. 133].

**БУЧО'К**. 'Разнавіднасць буча'. Бучок меншы за буч і трошку ні такі, як буч [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 244].

**БЫК**. 'Жэрдка, на якую вешаюць сеткі'. Былі відаць лоткі, хаты, на цэлы кіламетар расьцягнуліся быкі з развешанымі сеткамі [Пасынкі Мядз.; СЦГ, с. 47].

**БЯЛЮ'ГА.** 'Рыба бялуга'. Бялюга злавіла пешкура [Жораўкі Сміл.; Шатэрнік, с. 39];

**ВАГА', ГРУЗ [ГРУ'ЗІК, ГРУЗІ'ЛО], ЛАЗО'К, ОЛОВЯ'НКА, ПАТАПЕ'Ц [ПАТАПЫ', ПАТАПО'К, ПОТОПЕ'Ц, ПОТОПО'К], ТО'ПЛЕНІК [ТО'ПКІ]**. 'Груз, які прымацоўваецца да рыбалоўных прылад для паляпшэння іх пагружэння ў ваду'. [Вага]. 'Тое, што і *груз*' [Крывіцкі, с. 166]; [Груз]. 'Невялікія спецыяльныя прадметы, якія добра тонуць у вадзе і прымацоўваюцца да ніжняй часткі рыбалоўных прылад для паляпшэння іх пагружэння' [Крывіцкі, с. 167]; Грузік для таго, кап кручок не выганяла ўверх [Бясяды Лаг.; СЦГ, с. 102]; Добрэ грузіло подобраць да невода не так ужэ і легко [Белайчук, с. 229]; [патапок]. 'Невялічкае алавянае грузіла ў вудзе' [Баханькоў, с. 223]; [потопец, потопок, топленік]. 'Тое, што і *вага*' [Крывіцкі, с. 171]; [лазок]. 'Тое, што і *груз*' [Крывіцкі, с. 169]; [оловянка]. 'Тое, што і *груз*' [Крывіцкі, с. 170]; Патапец адарваўся ад лёскі [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 234]; Патапы раньша былі гліняныя [Дакудава Лід.; СПЗБ, т. 3, с. 443]; А знізу да сеткі прывязваліся топкі, зробленыя з гліны, выпаленыя ў печы, кап ні размоклі [Альхоўка Навагр.; СПЗБ, т. 5, с. 106].

**ВАЛ**. 'Хвалі на возеры, рацэ'. Сягоння бальшы вал на возеры, лавіць нам цяжка будзіць [Пераброддзе Мёр.]. Як вал, рыба лоўка клюець [Янова Мёр.; Крыўко, с. 244].

**ВАЛАКУ'ША**. 'Рыбалоўная снасць'. Валакушу ўдваіх цягаюць, а брадзень – утраіх [Беразіно Докш.; СПЗБ, т. 1, с. 272]; [валакуша]. 'Рыбалоўная прылада (цягаюць удвох)' [ЛАБНГ, с. 132].

**ВА'ТА**. 'Сетка для лоўлі рыбы'. Костусь, дай мне ваты налавиць рыбы [Membre Стараўшчына Шчуч.; Сцяшковіч, с. 82]; Вата – як савок, у ваце душка, адна частка душкі прамая, а над ёй – гнутая, як дуга, ад душкі ідуць прутке даўгаватыя [Вецярэвічы Пух.]. Вата с крыламі, удваіх цягнуць [Стральцы Гродз.; СПЗБ, т. 1, с. 288].

**ВА'ЦІЛНА**. 'Вяроўка ў рыбалоўнай снасці'. Вацілна прывязваецца да душкі таптухі [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 1, с. 290].

**ВА'ЧАК**. 'Мяшок на злоўленую рыбу'. Рыбу сягоньня прадавалі, два чарпакі рыбы ўсялякай усыпалі ў мой вачак [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 57].

**ВЕ'РША [ВАРЖА', ВЭ'РША, ВЕ'РШКА, ЕРША'], КОШ, ЯТЁ'Р [ЕТІ'Р]**. 'Рыбалоўная прылада – конусападобная сетка на абручах з двума крыламі і двума горламі для лоўлі рыбы ў канавах і невялікіх рэках'. У вершу налезла быгата рыбы [Хвёдараўка Краснап.; КСУМ, с. 107]; [верша]. 'Тое, што і *венцер*' [Крывіцкі, с. 166]; Каблук лазовымі дупцамі аплятаюць, у сярэдзіну ўстаўляюць сувяршык, тады пераплятаюць і звязваюць, так робяць вершу [Альхоўка Навагр.]. Верша – лавушка, сплеценая з дупцоў [Вострава Маст.; СПЗБ, т. 1, с. 300]; З лазы плялі і жывую рыбу лапалі – варжа называлася [Старыя Трокі Трак.; СПЗБ, т. 1, с. 283]; [кош]. 'Такі ж як і *венцер*, але лазовы' [Крывіцкі, с. 168]; [ятёр, етір]. 'Тое, што і *венцер*' [Крывіцкі, с. 174]; [верша, вэрша, вершка, ерша]. 'Рыбалоўная прылада' [ЛАБНГ, с. 132].

**ВЕ'РШЫК [ВЕ'РШОК, ОВЕ'РШЭК, УВЕ'РШОК], СЕ'РЦЭ, У'СЦЕ**. 'Устаўны ўваход у рыбалоўных лавушках, які звужваецца к канцу'. У кошы вершык робіцца, а кошыца без вершка [Лутці Стол.]. За этым вершыком карась не попадзе ў ту дзірочку, у яку ўлез [В. Малешава Стол.; ТС, т. 1, с. 115]; У жаку е куль, крыла і увершок [Луткі Стол.; ТС, т. 5, с. 174]; [серцэ]. 'Устаўны ўваход у рыбалоўных лавушках, які звужваецца к канцу' [Крывіцкі, с. 172]; [вершок, увершок, овершэк]. 'Тое, што і *серцэ*' [Крывіцкі, с. 166]; [усце]. 'Тое, што і *серцэ*' [Крывіцкі, с. 173].

**ВЕДЗЯЯ' [ВІДЗЯЯ']**. 'Рыбалоўная сетка, браднік.' Ведзяя – абруч і да абруча вялікая сетка і дзве палкі, ловяць удваіх, цягнуць па рацэ [Рыбчына Віл.]. Відзяя – гэта сетка: дзве лоткі, а яна пасярэдзіня [Жодзішкі Смарг.; СПЗБ, т. 1, с. 293].

**ВЕ'НЦЕР [ВЕ'НЦІР, ВЕНЦЯ'Р, ВЕ'НЦАР, ВЕ'НЬЦЕР], ЖАК**. 'Конусападобная сетка на абручах з двума горламі і двума крыламі для лоўлі ўсякай рыбы ў невялікіх рэчках і канавах'. [Венцер]. 'Рыбалоўная стаўная лавушка з адным глухім заходам (ніткавая ці лазовая)' [Крывіцкі, с. 166]; Венцеры ставілі [Ёдлавічы Брасл.]. Венцер, у ім шырокі куль, а туды вузейшы ўстаўляецца [Бакшты Іўеў.]. У венцяры крыллі, кулёк і многа абручоў [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 1, с. 296]; Венцір заставілі ў канаві [Пераброддзе Мёр.;

Крыўко, с. 244]; Ты б, Одам, мне венцер прынёс, там ле хлева стояў [Белайчук, с. 229]; Поставіў тры веньцяры, але рыбы ня ўлезла ніяк [Амельна Пух.; Шатэрнік, с. 45]; [жак]. 'Конусападобная сетка на абручах з двума горламі і двума крыламі для лоўлі ўсякай рыбы ў невялікіх рэчках і канавах' [Баханькоў, с. 221]; Поставіў на ноч жакі, то поўно рыбу належло [Кароцічы Стол.; ТС, т. 2, с. 56]; Жак ставяць на ноч, а досвіткам едуць і гледзяць, ці много рыбу налезло [Белайчук, с. 229]; Поставіў на рэцэ п'яць жакоў [Альшаны Стол.]. Сегодні ставімо жакі на речцы [Церабяжоў Стол.; ДСБ, с. 64]; Жак с крыльямі, два крыла [Валынцы В.-Дзв.]. Жака поставілі; жак і венцер – адно і тое ж [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 134]; [жак]. 'Рыбалоўная стаўная лавушка з адным глухім заходам і сеткай (крылом)' [Крывіцкі, с. 167]; У гэтым годзе ў жак ідзеце дужа рыбы [Спасская Сір.; Каспяровіч, с. 104]; Ці заставіў ты, Мікола, жак? [Новыя Капачы Мсцісл.; КСУМ, с. 165]; Жак і венцір – адно і тожа [Пераброддзе Мёр.]. Жакі па канавах ставілі, як на нораст ідзецъ шчука [Янова Мёр.]. Рыба з ракі ці возера выходзіць на нораст, тут жак паставіш дзе-небудзь у канавіні якой, іна й пападаіцца ў яго [Н. Сяло, Туркова, Цімошкава Мёр.]. Жак робіцца з нітак, шпігату, а буч з лазы [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 246]; [жак]. 'Нерат з двума крыламі' [ЛАБНГ, с. 133]; У шыламоўцуў было возіра і былі жакі, а ў кождым дваре і ніхто ня трёс [Яшкін, с. 128].

**ВЕРАЦЁ'Н [ВЕРАЦЕ'ННІК]**. 'Лічынка міногі, вугрыца'. Верацён – гэта рыба такая тонянькая-тонянькая, як дупчык уся роўна, яе не ядуць, на яе рыбу ловяць [Дукора Пух.; СЦГ, с. 58]; Вераценнік – рыба такая, яе не ядуць, на яе рыбу ловяць. Акунь на вераценніка добра бярэцца [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 1, с. 297].

**ВЕРБАВІ'К**. 'Лешч, які нерастуе ў час цвіцення вярбы'. Вымаю таптуху, а там вербавік [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 66].

**ВЕРХАВО'ДКА**. 'Вода по льду'. Ужо пайшла верхаводка [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 45].

**ВЕРХАПЛА'ЎКА**. 'Невялікая прэснаводная рыбка сямейства карпавых'. Верхаплаўкі толькі малыя, вялікія яны не растуць [Шутавічы Смарг.; СЦГ, с. 58].

**ВЕСЛО' [ВЯСЛО'], [ГРАБЛО', ГРЭ'БКА], ПОЧЫ'НА [АПАЧЫ'НА]**. 'Вясло'. Весло з дуба, з есеніны [Запясочча Жытк.]. Правуем вяслом [Пагост Жытк.; ТС, т. 1, с. 118]; Вясло злымалыся, дык ледзь да берыга даехыў: адносіць выда, хуць ты што [Каробчына Мсцісл.; КСУМ, с. 129]; Кінь вясло й вуду, дык я, хлеб, буду [Дукора Сміл.; Шатэрнік, с. 61]; Трэба прывінціць к лодцы два граблы [Сянно Сен.; Каспяровіч, с. 83]; На озеро вуедзеш, там на грэбку беры [В. Малешава Стол.; ТС, т. 1, с. 232]; На дубі (лодка) шэсць почын [Запясочча Жытк.; ТС, т. 4, с. 209]; Апачына закладаецца ў качаток, а тады грэбуць [Дзяражычы Лоеў.]. Абезацельна шоб була апачына? – Можна проста веслом грэбць [Рудня Марымонава Лоеў.; ДСЛ, с. 34]

**ВІ'ЛАЧКІ**. 'Частка снасці, кузюрка'. У кузюрцы ёсць вілачкі і шнур [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 245].

**ВО'БАР**. 'Рыбалоўная трохсценная сетка, сярэдзіна якой мае густое палатно, а па баках – рэдкае'. Вобар – выгадная сетка: як пацэліш на рыбная мейста, адразу можна дамоў падавацца [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 62].

**ВО'ЗЕРА [О'ЗЕРА, О'ЗІРА, О'ЗЯРА], АЗЁ'РКА, АЗЯРО'**. 'Возера'. Каля нас вялікае возера [Пружалава Аз.; Каспяровіч, с. 17]; Пайшлі рыбу лавіць на возяра [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 48]; Заарэндуюць озера і ловяць рыбу [Істра Лудз.]. Угры ў другіх озірах [Мельнікі Лудз.; СПЗБ, т. 3, с. 258]; Як канава зарасла, дык у азёрку саўсім рыбы ні стала [Баханькоў, с. 219]; Ні стаі лі азіра з вудай, прастудзісься [Баханькоў, с. 219]; На азяре узьнілася буря [Рудня Аз.; Каспяровіч, с. 17].

**ВО'КА [ВО'КО, ВО'ЧЫ]**. 'Прасвет, адтуліна паміж спляценнем нітак у сетцы'. Раткаватая мярэжъна – вочы бальшыі [Баханькоў, с. 220]; Вяжы большые вокі, бо будом рыбу ловіць на Прыпеці [Белайчук, с. 229]; Бальшую рыбу лавілі мярожай з бальшымі вачамі [Мазурына Мёр.; Крыўко, с. 245].

**ВО'ЛАК [ВО'ЛОК, ВОЛОЧА'ЙКА, ВАЛАЧО'К, ПЛАВУ'ЧЫ ВО'ЛОК], ЛА'ТА, ЦЯ'ГАНКА**. 'Рыбалоўная снасць, сетка ў выглядзе мяшка з прымацаванымі да яе двума шастамі'. Мы лавілі рыбу волыкам [ЧыгрынаўкаРаснян.; КСУМ, с. 111]; [волак]. 'Сярэдняга памеру перасоўная рыбалоўная аднасценная сетка з заходам' [Крывіцкі, с. 166]; Шмат рыбы налавілі волакам [Турэц Сміл.; Шатэрнік, с. 48]; Паехалі ў волака на рыбу [Янкоўскі-1, с. 51]; У нас волок, а ў людзей брэднік, вон мешком дзелаецца [Запясочча Жытк.; ТС, т. 1, с. 136]; У дзядзька Остапа вельмі добры волок, новуй, коб хоць на дзень попросіць [Белайчук, с. 229]; Волочайкою з лодкі ловім удвоіх [Альшаны Стол.; ТС, т. 1, с. 137]; Раней вялося ў нас многа рыбы, як пойдам з валачком на рыбу, прынясом цэлую торбу [Дукора Пух.; СЦГ, с. 52]; Ловім по бустрэ, по рэке плавучым волоком. Плавучы волок не мае жадного грузу [Запясочча Жытк.; ТС, т. 1, с. 136]; [лата]. 'Тое, што і *волок*' [Крывіцкі, с. 169]; Латою лоўяць на рацэ і ў озёрах по чыстому [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 3, с. 15]; [цяганка]. 'Тое, што і *волок*' [Крывіцкі, с. 173].

**ВОЛО'ШНЯ [ВОЛОШНЯ', ВОЛОСНЯ', ВОЛОСЕ'НЬ], ШНУР**. 'Спецыяльная нітка для кручковых прылад'. [Воло́шня, волошня́, волосня, волосень]. 'Моцная валасяная нітка для кручковых рыбалоўных прылад' [Крывіцкі, с. 166]; [шнур]. 'Трывалая тонкая вяровачка для донных жылкавых рыбных прылад. Тое, што і *волошня*' [Крывіцкі, с. 173].

**ВОЎК**. 'Назва нейкай рыбы з вусамі (не сама)'. Ваўкі вусатыі такіі, вусатая рыба [Ясёва Мёр.; Крыўко, с. 245].

**ВУ'ВУДЗІЦЬ**. 'Вывудзіць, злавіць на вуду.' Лінька ніхто не вувудзіць, а воны лезуць у жакі [Цераблічы Стол.; ТС, т. 1, с. 153].

**ВУГО'Р [ВАНГО'Р, ВЕНГО'Р, ВЭНГО'Р, ВЭ'НГЕР, ВЭНГО'Ж, ВІНГО'Р, ВУГО'РАЧ, У'ГАР, УГО'Р, УГО'РАК, УГО'РАШ, УГО'РЕЧ, У'ГАРЬ, УГО'РЫ, УГО'РАЧ, УГО'РЫЧ], БУГО'Р, ДАЎГА'Р**. 'Рыба вугор'. Яка ето проціўна рыба вугор, аж есці прыкро [Белайчук, с. 227]; Пры мне, я якрас старажыў сеткі на берагу, дык упускалі етых вангораў [Папоўка Мядз.; СЦГ, с. 53]; Вангор другі, чым вягела, вангор – як змяя [Ракаўскія Швянч.]. Вангор у рацэ сядзіць, як толькі раса – выходзіць у гарох [Бакшты Іўеў.; СПЗБ,

т. 1, с. 279]; Пры мне, я якрас старажыў сеткі на берагу, дык упускалі етых вангораў (іх сійчас называюць угры, а тады называлі вангоры) [Папоўка Мядз.; ММГ, с. 25]; [угор, вэнгор, вэнгер, вэнгож, вінгор]. 'Вугор' [Крывіцкі, с. 173]; Як парната, чарвяк садавы, красны вылізаіць, на яго бярэцца болі угар. Угар – чорная рыбіна [Пераброддзе Мёр.]. Завуць у нас гэту рыбіну і угорач, і угар [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 255]; Угор падабаецца тожа [Беразіно Докш.]. Я рас ішла ў Мядзела, і угроў горы ляжалі [Вузла Мядз.; СПЗБ, т. 5, с. 175]; Угорак па расе ходзіць [Ясёва Мёр.; Крыўко, с. 255]; Угорачы ноччы па расе ідуць аш у гарох, буваіць, і наткнессяна яго. Калі рыбкый нажывіш, пападзець мянтус і угорач [Пераброддзе Мёр.]. Угорач – рыба смашная [Янова Мёр.]. Угорачы выпуўзалі на паплавы, там гарох сеілі, яны ноччы выпуўзачі і паўзлі па расе ў гарох [Манякова, Н. Сяло, Туркова Мёр.; Крыўко, с. 255]; Самая жырная рыба – угорыч. Угорыч ідзець, як змей, галоўку уверх падняўшы [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 5, с. 175]; [угоръч]. 'Вугор' [Баханькоў, с. 224]; Угорычы бяруцца на ўюна [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 317]; Міногі пахожы на даўгара [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 2, с. 27]; [вугорыч, вугорач, угорыч, угореч, вугор, вугар, бугор, вангор, вэнгор, вэнгер]. 'Рыба Anguilla anguilla S.' [ЛАБНГ, с. 130]; [угораш, бугор]. 'Рыба, якая мае доўгае, падобнае да змяінага цела з невялікай прыплюснутай галавой' [ЖС, с. 68].

**ВУ'ДА**[1] **[ВУ'ДКА, ВУ'ДАЧКА, ВУ'ДОЧКА, У'ДКА, ГУ'ДКА, ВУ'ТКА], ВЭ'НТКА, ПЛАЎНІ'К**. 'Рыбалоўная снасць, якая складаецца з вудзільна, лёскі і кручка'. Тумашу які клопат – вуды на плечы ды пашоў да Язніцы ці да Дзвіны. Нож тупы як вуда [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 245]; Вуда с кручком [Рыбчына Віл.]. На вуду чапляецца чарвяк [Лоск Валож.; СПЗБ, т. 1, с. 333]; Болі вудачка кажуць, а ня вуда [Пераброддзе Мёр.]. Вядома ш, многа вудачкый ні наловіш [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 245]; Вудой многа рыбы не наловіш [Вішнева Валож.; СЦГ, с. 65]; На вуду ловяць рыбу [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 49]; Улетку вудаю лаўлю рыбу у Дзьвіне [Шарыпіна Беш.; Каспяровіч, с. 62]; [вудка, вудочка]. 'Удочка' [СБМН, с. 76]; Вудкою колісь не ловілі рыбу [Запясочча Жытк.]. Пэчкуры на вудкі беруцца добро [Пагост Жытк.; ТС, т. 1, с. 157]; З арэшніку вельмі добрые можно зробіць вудкі, колі вон тонкі [Белайчук, с. 228]; [вудка, удка, гудка, вутка]. 'Кручковая рыбалоўная снасць з вудзільнам' [Крывіцкі, с. 173]; Вэнтка мая зламалася, рыб велька папалася [Старыя Трокі Трак.; СПЗБ, т. 1, с. 383]; Куды ні зірнеш на раку, усюды сядзяць рыбаловы з плаўнікамі, бо вельма добра рыба ловіцца ў нас [Рудня Чэрв.; ММГ, с. 86].

**ВУДА'К [ВУ'ДАЛЬ, ВУДА'Ч, ВУДА'Р, ВУДЗЬБІ'Т], РІБА'ЛКА**[1] **[РЫБА'К**[1]**, РЫ'БНІК, РЫБА'ЛКА, РЫБАЛО'ВЕЦ, РЫБАЛО'Ў]**. 'Чалавек, які займаецца лоўляй рыбы (рыбак)'. Нашы вудакі на рыбу збіраюцца [Рудня Чэрв.]. Што ты за вудач, ніводнай рыпкі ні прынёс дахаты [Ляшчынск Мядз.; СЦГ, с. 65]; Ці рыбак, ці вудак – сядно (усё адно) [Янкоўскі-3, с. 20]; Сядзиць вудаль на леду, подпёръ кіемъ бороду [СБМН, с. 76]; Пэўні ш вудач ня зловіць столькі, сколькі сеткый, крыгый ці іншэ чым [Янова Мёр.; Крыўко, с. 245]; Вудакі сідзяць укрух. Навудзілі рыбы і апяць поўна вудакоў [Янова Рас.; СПЗБ, т. 1, с. 333]; Гэты вудар нам наловіў рыбу [Луткі Стол.; ТС, т. 1, с. 156]; Ныкого

ныма тут, тылько одын вудар вудыть рыбу [Ляхавічы Драг.; ДСБ, с. 35]; Увесь дзень на лёдзе вудзьбіты сядзяць [Ляшчынск. Мядз.; СЦГ, с. 65]; Сямён-рібалка прівёз рібу на бызар [Крычаў; КСУМ, с. 388]; Пётра быў заядлый рыбак, бувала, чуць залачок, а ён ужо пашоў у рыбу [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 253]; Мікалай ужо задзелаўся рыбаком (рыбнікам) [Альшанікі Беш.; Каспяровіч, с. 273]; Вон свой век буў рыбак [Верасніца Жытк.; ТС, т. 4, с. 339]; Не ўдалося нашаму рыбаку сёння на рыбу, нішмат налапаў [Гемзы Шальч.]. Рыбаке ставілі венцярэ [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 4, с. 322]; Ня йдзі туды, там рыбалка вудзіць рыбу, дык будзіць злувацца, што пыганілі яму рыбу [Гібалы Касцюк.; КСУМ, с. 392]; У старыну мала було рыбалак, а бацька мой рыбалка [Дзяражычы Лоеў.]. У Деражычах багата рыбалак, і дед мой буў рыбалка [Бывалькі Лоеў.; ДСЛ, с. 313]; [рыбак, рыбалка]. ‘Рыбалоў’ [Крывіцкі, с. 172]; Ён рыбаловец добры [Номікі Бабіц.; СПЗБ, т. 4, с. 322]; Лукаш быў добры рыбалоў, бывала, толькі выйдзіць ны ряку ці з вудыю, ці з венцірым – зараз ўжо й рыба ёсьць [Міцькаўшчына Мсцісл.; КСУМ, с. 392]; Бач, якія рыбаловы пашлі на возера [Пустынкі Сен.; Каспяровіч, с. 273].

**ВУДАЎЁ′ [ВУДЗІ′ЛЬНО, ВУДЗІ′ЛНО, ВУ′ДОЛНО, ВУДЗІ′ЛНА, ВУДЗІ′ЛА, ВУДЗІ′ЛІШЧЭ, ВУ′ДЛЫШЧЭ, ВУДАВІ′ШЧА, ВУДАЎІ′ШЧА, ВУДЗІ′ДЛА, УДАЎЁ′, УДЗІ′ЛЬНО, УДЗІ′ЛНО, УДЗІ′ЛЬНІШЧЭ, УДЗІ′ЛІШЧЭ], АРЭ′ШЫНА**. ‘Гнуткі шасток для вудачкі’. Вудаўё не гбаецца – дрэнна лавіць рыбу [Доўжа Куз.; Каспяровіч, с. 62]; Адно маё вудаўё храпнала [Манякова Мёр.]. Пад страхой усе мае вудоўі [Бухалава Мёр.; Крыўко, с. 245]; Вудаўё ад вуды [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 1, с. 333]; Як зьберымся з хлопцамі, так і пайшлі на цэлы дзень у лес выбіраць вудавішчы [Чараўкі Мядз.; СЦГ, с. 65]; Вудаўё робяць з лазоўніку [Ляшчынск Мядз.; СЦГ, с. 65]; Зламалася вудзілна [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 49]; Выразаў арэхавая вудаўё [Баханькоў, с. 220]; [вудзільно, вудлышчэ, вудзілно, вудолно, вудзілішчэ, удзілно, удзільно, удзільнішчэ, удзілішчэ]. ‘Вудзільна’ [Крывіцкі, с. 173]; Вудзідла робяць зь ляшчыны, з ядлаўцу [Пруды Стаўб.; СЦГ, с. 65]; Удаўё ў вудзе гнуткае [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 5, с. 511]; [арэшына]. ‘Драўляная частка вуды’ [Яшкін, с. 127].

**ВУ′ДЗІЦЦА, БРА′ЦЦА**. ‘Брацца на вуду (пра рыбу)’. Чуць-чуць уперэд, у недзелю, такіе плоткі вудзіліса! [Цераблічы Стол.; ТС, т. 1, с. 157]; Светла вада после дожджу, не будзе брацца рыба [Цераблічы Стол.; ТС, т. 1, с. 81]; Сягоння ні тая пагода, кап рыба бралася [Мазурына Мёр.; Крыўко, с. 244].

**ВУ′ДЗІЦЬ [ВУДЗІ′ЦЬ], ЛАВІ′ЦЬ**. ‘Лавіць, здабываць рыбу пры дапамозе спецыяльных прыстасаванняў [вуды, крыгі, сака і г. д.]’. Скора пайдзём вудзіць рыбу [Асіпова Аз.; Каспяровіч, с. 62]; Яны вудзюць рыбу [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 1, с. 333]; Стояць на сусі й вудзяць карасе, плоточке маленькіе [Лутկі Стол.; ТС, т. 1, с. 157]; Я ўжо мала лаўлю, стары стаў [Бухалава Мёр.; Крыўко, с. 249].

**ВУС**. ‘Цвёрды волас на пярэдняй частцы галавы (у сома)’. У сома доўжэнныя вусы, і сам ён прыгожэнькі [Белайчук, с. 228].

**ВУСЁ′НАК [УСЁ′НАК]**. ‘Адтуліна, уваход у рыбалоўную снасць’. У тваім жаку вусёнак дужа кароценькі [Спасская Сір.; Каспяровіч, с. 62]; Буч, а ў

бучу – усёнак, рак заходзіць туды, па бучу ходзіць [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 5, с. 230].

**ВЫ'ДАЛБАНКА, ДУБІ'ЦА, КАЯ'К, КОМЭ'ЛНЫК, ПАТУ'ШНІК, ПЛАЎНІ'К**. 'Лодка, выдзеўбаная з дрэва'. Выдалбанка – з тоўстага дзерава, бальшынство з ліпы, з асіны выдалбаюць [Рудня Чэрв.; СПЗБ, т. 1, с. 349]; Дубіца – лотка ні збіваная, а выдалбаная з дрэва [Мярэцкія Глыб.; СПЗБ, т. 2, с. 99]; Дубіца – лодка, прамоя карыта. Паддзеланы дзве даскі з бакоў, як крыжы [Камянполле Мёр.; Крыўко, 246]; Каяк з дзерава выдалбаны, на каяку паехаў [Жылі Іўеў.; СПЗБ, т. 2, с. 450]; Комэлнык – с товстого дуба [Лапацін Пін.; ДСБ, с. 103]; Мы на патушніку возера пераплывалі з аднаго на другі берах [Рудня Чэрв.; ММГ, с. 86]; Мой плаўнік патрабуе рамонту, цячэць [Тур'я Чэрык.; КСУМ, с. 332].

**ВЫЛІВА'ШКА, ЛЕ'ЎКА**. 'Чарпак з кароткай ручкай для вылівання вады з лодкі'. [Вылівашка]. 'Шуфлік, чарпак з кароткай ручкай для вылівання вады з лодкі' [Баханькоў, с. 220]; [леўка]. 'Тое, што і *вылівашка*' [Баханькоў, с. 223].

**ВЫ'ЦЕРАК**. 'Рыба, якая аднераставана'. Мама, мы пойдзем лавіць выцерак [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 76].

**ВЫ'ЕЗД [ВЫ'ІЗД], ЦЯГІ'**. 'Адна з дзвюх доўгіх вяровак, якімі падцягваюць заезнік к берагу'. Выізды застуўляюць невад цягнуцца, плыць [Пераброддзе Мёр.]. За выізд дзіржацца і цягнуць невад да бірага [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 245]; Далёка закінуў заезьнік, ні хапіла выізда да берага [Баханькоў, с. 220]; [цягі]. 'Тое, што і *выізды*' [Баханькоў, с. 225].

**ВЫКІДА'НКА, БЕЗРЯ'ЖКА, ПЕРЕМЕ'ТА**. 'Стаўная аднасценная ці трохсценная сетка'. [Выкіданка]. 'Стаўная аднасценная або трохсценная сетка' [Крывіцкі, с. 167]; [безряжка]. 'Тое, што і *выкіданка*' [Крывіцкі, с. 166]; [еремета]. 'Тое, што і *выкіданка*' [Крывіцкі, с. 171].

**ВЭ'НДЗІР, ГІ'ЗКА, КАШО'ЛКА, ЛІБІ'ЛА, РАКАЛО'ЎНЯ, РАКО'ЎНІЦА, ШПІ'ЛЬКА**. 'Прылада для лоўлі ракаў'. Кінь ты гэны вэндзір, лаві лепій рукамі, дык болій наловіш [Ляшчынск Мядз.; СЦГ, с. 77]; Гізка – ракаў мэцаць [Глівін Барыс.; СПЗБ, т. 1, с. 443]; Сплеценую з пруццяў кашолку намазвалі цестам і глінай і апускалі ўніз у раку, так ракаў лавілі [Мішневічы Шум.; СПЗБ, т. 2, с. 448]; Лібілам ракаў лавілі [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 2, с. 653]; Ракалоўня, як карзіна, унутры ложат паджараную лягушку іли тухлую рыбу, і ракі залазят [Пасіене Лудз.; СПЗБ, т. 4, с. 265]; Ракоўніца ціпа карзіны [Вялікія Нястанавічы Лаг.; СПЗБ, т. 4, с. 266]; Шпільку з жабай утыкалі ў зямлю, у вадзе, і як прыпаўзуць ракі тады ён кубар у ваду і пад ніз падстаўляе, і яны, ракі, тады ўваляцца, ад жабы адрываюцца – і ў кубар [Ухвала Круп.; СПЗБ, т. 5, с. 496].

**ВЯ'ГАЛ, [ВЯ'ГАЛА, ВЯ'ГУЛ, ВЯ'ГЯЛ, ВЯ'ГЕЛА, ВЯГЕ'ЛА, ВЯ'ГЯЛА, ВЯГІ'ЛА], БАЛА'БА, ГРУ'МЖА, КАЛЕ'КА, МАЛЬКА'Ч, МЯНТУ'З, МІНТУ'З [МАНТУ'З, МАНТУ'С, МЫНТУ'З, МАТУ'З, МЕНЁ'К, МЕНЬ, МЕНТУ'З, МЯНТУ'С, МЕНТУ'ЗЪ, МНЯК, МЯНЁ'К, МЯК], НАЛІ'М, РО'ПУХА**. 'Рыба мянтуз'. У нас называецца вягал і вягул [Мярэцкія Глыб.]. Вягал зімою нарастуіць і лезіць у нараты. Вягялы мяхкія,

скабы тонкія, ні каслівая рыба [Кураполле Паст.]. У вягелы галава таўстая, харошая рыба [Ракаўскія Швянч.; СПЗБ, т. 1, с. 384]; Лавіць рыбу люблю, а есьці так сабе. Адна толькі мне да смаку – вягала: і поліўку люблю зь яе і мяса [Старая Вёска Мядз.; ММГ, с. 31]; Глянь, і вягела папалася ў сетку! [Канстанцінава Мядз.; СЦГ, с. 78]; Бальшая калека залезла ка мне ў сетку [Навасёлкі Сен.; Каспяровіч, с. 150]; Калекі на жаб беруцца [Баханькоў, с. 222]; Калека – рыба такая. Калек там многа [Ухвала Круп.; СПЗБ, т. 2, с. 373]; Малькач – рыба такая, яшчэ завуць налім [Альхоўка Навагр.; СПЗБ. т. 3, с. 27]; Ментус мулкую воду любіць. Іх мало ў нашой рэцэ, етых ментусоў [Запясочча Жытк.; ТС, т. 3, с. 73]; [менёк, мень, ментуз, ментус]. 'Мянтуз' [Крывіцкі, с. 169]; Ментуза трудно рукою поймаць [СБМН, с. 284]; Мінтуза мальцы ўлавіўшы [Пераброддзе Мёр.]. Скока рас я мінтузоў лавіўшы [Янова Мёр.]. Мінтузы – такіі ў плямах, даўгіі [Н. Сяло Мёр.]. Мінтузоў можна ў ручуях налавіць [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 250]; Я злавіў на вуду шчупычка і мінтуза [Чэрыкаў]. Пыймаў мінтуза [Хвёдараўка Краснап.; КСУМ, с. 264]; Ось дзед Міхась мантуза велікого зловіў, аж вудку на ніз пацягнуло [Белайчук, с. 227]; Мняк – гэта налім, яе яўрэі ня елі, таму што лускі нету, ні кашырна [Збляны Лід.; СПЗБ, т. 3, с. 74]; Налавіў цэлаю торбачку мянькоў [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 162]; Найлепей лавіць мянькоў узімку, у піліпаўку [Янкоўскі-3, с. 64]; Мяк такая рыба, што пишчыць на пательни [Бершты Шчуч.; Сцяшковіч, с. 265]; Налімы былі раньшы [Шкаўна Лудз.; СПЗБ, т. 3, с. 158]; [вягал, вягул, мянтуз, мантуз, мантус, мынтуз, мінтуз, мень, мянёк, мяк, матуз, калека, балаба, ропуха]. 'Рыба Lota lota L.' [ЛАБНГ, с. 129]; [грумжа, балаба, ропуха]. 'Драпежная рыба з кругластым падоўжаным целам з шэрай зеленаватай скурай у цёмных плямах, пакрытай вельмі дробнай луской' [ЖС, с. 73].

**ВЯРТУ'Х**. 'Маляўка ўюна'. Галавень браўся на вяртуха [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 1, с. 391].

**ГА'ЛАХ, ЖА'ГОЎКА, ЖУГА'ВКА, ЖАБЯ'К, ЖЭРЛЮ'К, КОЖУ'ШОК [КОЖУ'ШКА], ЛОБО'К [ЛО'БАЧ], МЕТО'ЧНІЦА, МЕ'НТАЧКА, СІ'НІЦА [СІНІ'ЦА, СІНЬ, СІНЕ'ЎКА, СІНЯ'ВАЧКА, СІНЯ'ЎКА, СПІ'ЦАК [СПІЦУ'Н], ШПЕНТ [ШПЕ'НЦІК], ШЧУПА'РАЧАК [ШЧУПА'ЧКА, ШЧУПА'РАЧКА, ШЧУПЕЛЯ', ШЧУПЕЛЯ'ТКО], ШЧЫПА'К**. 'Невялікі шчупак.' Галах – то кожушок, шчо нема хунта [Цераблічы Стол.; ТС, т. 1, с.191]; Нешто ўсё жагоўкі трапляюць, а здоровенну дык не зловіў [Белайчук, с. 227]; [жугавка]. 'Тое, што і *сіняўка*' [Крывіцкі, с. 167]; Жабяк – кароткай формы шчупак [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 2, с. 130]; Жэрлюк – летошні шчупак [Запясочча Жытк.]. Ой, ека там рыба – одны жэрлюкі! [Верасніца Жытк.; ТС, т. 2, с. 75]; Коровы прідуць да воду сколоцяць, то воны очы і лоб вустаўляюць, то іх лобкі зовуць [Альшаны Стол.; ТС, т. 3, с. 37]; У гетом году добрэ ловіць лобкі [Альшаны Стол.; ДСБ, с. 125]; [лобач]. 'Невялікі шчупак' [Рубель Стол.; ТС, т. 3, с. 36]; [лобач]. 'Невялікі шчупачок' [Крывіцкі, с. 169]; [меточніца, ментачка]. 'Маленькі шчупачок' [Крывіцкі, с. 170]; Воды нагнало, сініцы прокідаюцца ў канаўцы [Дзятлавічы Лун.; ДСБ, с. 203]; Хлопцы наловілі сінів [Кароцічы Стол.; ДСБ, с. 203]; На Мая (Першага мая) чырылі волакам на плёсах, дак адны сінявочкі; за ноч учырылі мо трыста

штук [Янкоўскі-2, с. 159]; [сіняўка, сініца]. ‘Маленькая шчучка, шчупачок’ [Крывіцкі, с. 172]; [сіняўка]. ‘Шчупачок на 150-300 грамаў’ [Янкоўскі-2, с. 159]; Е пескозоб, е ерш, е судак, е сіняўка [Дварэц Жытк.; ТС, т. 5, с. 36]; [сінь]. ‘Малы шчупак’ [Запясочча Жытк.; ТС, т. 5, с. 36]; [спіцак]. ‘Невялікі шчупачок’ [Луткі Стол.; ТС, т. 5, с. 83]; Паба, спіцун на капелюшыну вускочыў да падскоквае, у воду хочэ [Пагост Жытк.; ТС, т. 5, с. 83]; [шпент, шпенцік]. ‘Шчупарачак’ [Крывіцкі, с. 173]; Шчупарачкі праскаквалі ў каробку [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 5, с. 519]; [шчупачка, шчупарачка]. ‘Невялікі шчупачок’ [Крывіцкі, с. 174]; [шчупеля, шчупелятко]. ‘Шчупарачак, шчупачок’ [Крывіцкі, с. 174]; [кожушок, кожушка, сінеўка, шчыпак]. ‘Невялікі шчупак’ [ЛАБНГ, с. 128].

**ГА'ЧОКЪ, ЗУ'БЕЦ [ЗУБЕ'Ц], КРУЧО'К**. ‘Металічная дэталь кручковых рыбалоўных снасцей з вострай загнутай бародкай, на каторую насаджваецца прыманка’. Насадзи червяка на гачокъ [СБМН, с. 110]; Цяпер харашо бяруцца на зубцы мяні [Чарніца Лёз.; Каспяровіч, с. 135]. На кручок ловім рыбу [Беразіно Докш.]. Кручок рыбу лавіць [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 536]; Чапляй малы кручок да гэтый вуды [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 248].

**ГАБО'ША**. ‘Рыбалоўная сетка малога памеру з адтулінай у выглядзе сегмента’. Габошой, дзе глыбко, не поцягнеш [Белайчук, с. 229].

**ГАГА'НЕЦ, КАЗА'**. ‘Ліхтар, якім асвятляюць раку ў час лоўлі рыбы ноччу’. Гаганец зроблены з маленькіх жалезных колцаў, куды ўкладаліся смольныя дроўца, служыў для свету вады, кап увідзіць рыбу ўночы [Альхоўка Навагр.]. Гаганец – свецільнік падсвечваць ноччу пры лоўлі рыбы [Дакудава Лід.; СПЗБ, т. 1, с. 399]; Пайшоў бы на возяра, ды гаганца ў мяне свайго нима [Шчанец Шчуч.; Сцяшковіч, с. 105]; Казой свяцілі ў лодцы [Пераброддзе Мёр.]. Казой свяцілі: смалякі з лесу запалівалі, у жалеза ўсаджывалі [Янова Мёр.; Крыўко, с. 247].

**ГАЛАВЕ'НЬ [ГАЛО'ВЕНЬ, ГАЛАВА'Ч, ГАЛО'ЎЛЯ, ГОЛОВА'Ч, ГОЛОВЕ'ШКА], КЛЕНЬ**. ‘Рыба галавень’. Сягоння мы болі галаўнёў улавіўшы [Туркова Мёр.]. Галаўні – чорная рыба, у Гарэлым балоці іх некалі аж кішэла [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 245]; Галавеньчыкі ходзяць лі самага берага [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 73]; Злавіў галаўнёў штук пяць [Жораўкі Сміл.; Шатэрнік, с. 62]; Учора ён налавіў шмат галавачоў [Рудня Плешчаніцкая; ММГ, с. 33]; Матка прынесла некалькі голоўляў, дэ і тые маленькіе [Белайчук, с. 227]; [головач, головешка]. ‘Тое, што і *галавень*’ [Крывіцкі, с. 167]; Клень – рыба вялікая, сільна шырокая [Быстрыца Астр.]. Клень – рыба плотная і дужая, па восем-дзесяць кіль; луска бела-жаўтаватая, сам круглы, водзіцца, дзе ляжаць дубы на дне [Альхоўка Навагр.; СПЗБ, т. 2, с. 474]; [галовень, клень]. ‘Буйная рыба з шырокай патоўшчанай галавой і спіной, амаль круглым тулавам, пакрытым буйной жаўтавата-серабрыстай луской, з аранжавымі буйнымі плаўнікамі і чорным па краі хвастом, жыве на перакатах у рэках’ [ЖС, с. 69].

**ГАНО'К**. ‘Невялікі плыт, прыстасаваны для вуджэння рыбы на глыбіні’ [Баханькоў, с. 220].

**ГЕ'ГНІ**. ‘Рыбалоўная снасць, драўляная аснова ў выглядзе палазоў’. Рабілі гегні з бярозы ці з вярбы выгнутыя, як палазы. Мы лапалі гегнямі ўдвох,

пацягнеш гегні – і кашолку карасёў набярэш [Парэчча Гродз.]. Гегні – рыбу лавіць, палазы загнуты, с тылу торба с прадзяных нітак [Стральцы Гродз.; СПЗБ, т. 1, с. 439]; Гегні складаюцца з двух палазоў – правага і левага, змацаваных між сабой, на якія нацягнута сетка [Ляшчынск Мядз.; СЦГ, с. 93].

**ГЛІНЯ'НКІ, ЦЭГЛЯ'НКА**. 'Гліняныя трубачкі, якія надзяваюцца на ніжнюю ціцву для пагружэння сеткі ў ваду і надання ёй вертыкальнага становішча' [Баханькоў, с. 220]; [цэглянка]. 'Грузіла ў рыбалоўных сетках' [Лутке Стол.; ТС, т. 5, с. 282].

**ГО'РЛА[1]**. 'Адтуліна ў рыбалоўнай снасці'. Бучамі лавілі рыбу, горла такое, у буч улезе рыба [Грыкені Вільн.; СПЗБ, т. 1, с. 466].

**ГО'РЛА[2], І'ВАЛКА**. 'Лейкападобная сетачка, якая ўшываецца звужаным канцом унутр мярэжы, жака, наратка і служыць для ўваходу і затрымлівання ў іх рыбы'. [Горла]. 'Лейкападобная сетачка, якая ўшываецца звужаным канцом унутр мярэжы, жака, наратка і служыць для затрымлівання ў іх рыбы' [Баханькоў, с. 220]; Буч у канаву ставюць. Горла ў яго такоя ўдзелана [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 245]; Івалка ў венцеры [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 2, с. 337].

**ГРУЗНІ'К, ОБО'РА**. 'Верхні і ніжні шнур у сетцы'. [Грузнік]. 'Ніжні шнур (або палка) у сетцы' [Альшаны Стол.; ТС, т. 1, с. 229]; Достае споднюю обору у того окіда, а потом крыла згорнуў і вуцягнуў, а ў кутку рыба остаецца [Лутке Стол.]. Шо ты подняў обору, хлопчэ, ріба ж з сеткі под ею поўцекае [Пагост Жытк.; ТС, т. 3, с. 232].

**ГРУЗО'ЎКА**. 'Донная вуда'. Грузоўку па дне пускаюць, ловяць з дна [Ляхавічы Дзярж.; СЦГ, с. 102].

**ГРЭ'БЦІ**. 'Веславаць'. Грэбі к тому берэгу [Запясочча Жытк.; ТС, т. 1, с. 232].

**ГУЛЯ'ЦЬ, ЧАБО'ХАЦЬ**. 'Гучна плёхаць, выскокваць з вады (пра рыбу)'. Пагода лоўкая, відзіш, як рыба сягоння гуляіць [Бухалава Мёр.; Крыўко, с. 245]; Ляшчы чабохаюць. Мусіць, нарастуюць [Баханькоў, с. 225].

**ГУСЦЯРА' [ГУСЦЕРА', ГУСЦЁ'РКА, ГУСЬЦІРА', УСЦЯ'РА], ЛАСКУ'РЪНА, ПЛАСТКІ'РКА**. 'Рыба сямейства карпавых, падобная на ляшча'. Гусцяра – невялікая рыбка [Палік Барыс]. Гусцяра – плосканькая тонянькая рыпка [Ёдлавічы Брасл.; СПЗБ, т. 1, с. 509]; Гусцёрка на лішча пахожа [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 245]; Гусцёрка да ляшча пахожа [Ахрэмаўцы Брасл.]. Гусцёрка падобіе ляшча, кароткая, шырокая, грам трыста [Істра Лудз.; СПЗБ, т. 1, с. 509]; З гусьцёркі ні наедак, многа касьцей [Баханькоў, с. 220]; У гусціры касцей многа. На вяління болі гадзіцца белая рыба: плотка, гусціра, лешч [Пераброддзе Мёр.]. Па азірах гусціры многа [Янова Мёр.; Крыўко, с. 246]; Гусьціра нарастуіць [Баханькоў, с. 220]; [ласкуръна]. 'Вялікая гусцёрка' [Баханькоў, с. 223]; Усцяра як лешч, такі выгляд мая [Магуны Паст.; СПЗБ, т. 5, с. 238]; Пласткірка – плоская рыбіна [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 252].

**ДАРО'ЖКА [ДОРО'ЖКА]**. 'Рыбалоўны шнур з навязанай белай бляшанкай з кручком у выглядзе рыбкі, якім ловяць рыбу, едучы на лодцы'. Любіць лавіць рыбу на дорожку. [Турэц Сміл.; Шатэрнік, с. 79]; На акуня

аблітня, па-другому – дарожка [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 246]; Рыбалка въ човне за дорожкою поехавъ. На дорожку поймавъ рыбину [СБМН, с. 142].

**ДВАЙНІ'К**. 'Сетка для лоўлі ракаў'. Двайнік – такая сетка, удваіх лавілі ракаў [Магуны Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 34].

**ДЗЫГА'Р [ДЗІГА'Р, ДЗЫГА'РЫК], ДОЎГОЛЫ'ЧЫК, ВАЎЧО'К, ОСТРОНО'С [ОСТРОМУ'С, ОСТРОМЫ'С]**. 'Ёрш-насар'. Я бачу, дзыгара поймалі [Верасніца Жытк.; ТС, т. 2, с. 19]; Дзыгарык? Вукінь, хай росце [Пагост Жытк.; ТС, т. 2, с. 19]; [доўголычык]. 'Тое, што і *остронос*' [Крывіцкі, с. 167]; Ваўчок – як ёрш, толькі большы, нос длінейшы і пятны чорныя на ім [Глівін Барыс.; СПЗБ, т. 1, с. 290]; [остронос, остромус, остромыс]. 'Ёрш-насар' [Крывіцкі, с. 170].

**ДЗЯДО'К[1]**. 'Невялікі шасток у рыбацкіх прыладах – у сетцы-трыгубіцы, у крызе' [Янкоўскі-2, с. 63].

**ДЗЯДО'К[2]**. 'Колік (іх два), да якога прывязваецца край сеці (трыгубіцы)'. На ніжні канец дзядка трэба баньку набіць [Янкоўскі-1, с. 68].

**ДНІ'ЦА**. 'Дно ў калодзежы, у лодцы'. У нас дніца завострана, а ў Погосці дніца плоская була, шо ўжэ не перэвернецца (пра човен) [Дварэц Жытк.]. Дніцу запускаюць, штоб песок не вуносіло; особенно олехова дніца не зогніе тышчу лет [Дварэц Жытк.; ТС, т. 2, с. 21].

**ДО'НКА**. 'Вуда для лоўлі рыбы са дна вадаёма'. Маладыя цяпер на донку ловюць рыбу і нічога прыносюць [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 246].

**ДРА'ЕЧНІК**. 'Рыбалоў, які прымае канцы сеткі, стоячы на беразе' [Альшаны Стол.; ТС. т. 2, с. 358].

**ДРАБІ'НА, КРЫЛО'[1], ПРЫ'ШВА**. 'Бакавая частка, крыло ў жаку'. Ставюць драбіны ў відзі крыль. Между драбінамі ўкрапляецца нарот. І ў нараце драбіны і ў мярожы [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 246]; Однэ крыло крыху прорвалосе, трэбо пудшыць вілочкамі [Белайчук, с. 230]; Трэбо новую прышву прышыць, а то ўжэ старая тая [Белайчук, с. 230]; У жаку адного бувае крыла і два [Запясочча Жытк.; ТС, т. 2, с. 243].

**ДРА'КА**. 'Прыстасаванне, падобнае на аблітню ў выглядзе бліскучай металічнай пласцінкі з укляпанымі ў канцы звычайна двума кручкамі і прывязаным да другога канца шнурам'. Ёсь такая драка, тады задрачываюць шнуры і цягуць, пападалі мінтузы [Восцевічы Мёр.; Крыўко, с. 246].

**ДУХ, ДУША', МЕШО'ЧОК, ПУХІ'Р [ПАЎХІ'Р, ПАНХІ'Р], ПЛАВУ'К, КАПШУ'К [КОПШУ'К], КО'ЎБІЧЭК, БІНЮЧО'К, ПУЗЫ'Р [ПУЗЭ'Р], ПУХЛО', ТАЎКА'Ч [ТУЎКА'Ч], БЭ'НЗЫЛЬ**. 'Унутраны паветраны мяшок ў рыбы'. [Дух]. 'Пухір у рыбы' [Цераблічы Стол.; ТС, т. 2, с. 47]; Колі жарацъ рыбу, то мешочкі ў ёй ніколі не остаўляюць, вукідаюць [Белайчук, с. 228]; Капшукамі любяць стрэляць дзеці [Белайчук, с. 228]; Які пузыр у гэтый рыбіны бальшы [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 253]; [пухір, паўхір, панхір, дух, душа, плавук, капшук, коўбічэк, бінючок, пузыр, пузэр, пухло, таўкач, туўкач, бэнзыль]. 'Унутраны паветраны мяшок ў рыбы' [ЛАБНГ, с. 130].

**ДУГА'**. 'Паўабруч, да якога прымацоўваецца пярэдні край сеткі ў мярэжы, жаку, саку, наратку' [Баханькоў, с. 220].

**ЕЗ [ЕС, ЯЗ], ГАТ, ПЕРЭСТА'ЎКА, ПЛАТЫ', СЕ'ЖА[1], СЯ'КЛЯ.** 'Плеценая перагародка папярок ракі для затрымання і лоўлі рыбы'. Цірaз раку робілі ез [Манякова Мёр.]. Ез плялі з лазы, як лесвіцы [Пераброддзе Мёр.]. Робілі такую загароду, ез звалася. Тады нараты там ставілі [Камянполле Мёр.; Крыўко, с. 246]; Я чуць не ўтапілась, дзе язы; як памянулі вы ез, я не магу [Вялікія Баяры Шчуч.]. Ез робіцца вясной, лазой аплятаецца [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 2, с. 119]; Ез – гэта застава на рацэ, каб вясною лавіць рыбу [Аскершчына Беш.; Каспяровіч, с. 102]; [ез]. 'Перагародка з тоўстых калоў, забітых у дно ракі і пераплеценых веццем, з праходамі для рыбы, у якіх ставіліся рыбалоўныя снасці' [Баханькоў, с. 221]; Мы зрабілі два язы [Амельна Пух.; Шатэрнік, с. 91]; Язы з прантоў жалезных рабілі, на ручках [Альхоўка Навагр.]. На раке язы рабілі, калкі забівалі і кідалі яловыя лапкі і нараты ставілі [Вузла Мядз.]. Язы рабілі на рэчках [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 5, с. 551]; Гат рабілі ў рацэ: калы б'юць і лапкамі затаптаваюць, а ў праходзе ставяць нерат [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 1, с. 435]; [перэстаўка]. 'Гаць са шчыткоў, якой перагароджвалі канавы, каб не пусціць рыбу ў рэчку' [Пагост Жытк.; ТС, т. 4, с. 42]; Колісь платы ставілі на рэчцы [Альхоўцы Лях.; СПЗБ, т. 3, с. 532]; Сежа – дзве драбінкі забівалі ў рэчку і чатыры кручкі забівалі, і жэрдку кручок прыцісне [Гемзы Шальч.; СПЗБ, т. 4, с. 408]; Сякля – загарада на рэчцы, застаўка на рацэ пры лоўлі рыбы [Дакудава Лід.; СПЗБ, т. 5, с. 68].

**ЁРШ [ЕРШ, ЕРША'К, ЕРШУ'Н, Е'РШЫК, ЁРЖ, ЖЭРШ, ЖЭ'РШЫК, ДЖЭРШ], БА'БКА, [БАБЫ'Р, БОБЫ'Р, БАБУ'Р], БІРЖ, ВАЎЧО'К, КАЛЮ'ЧКА, [ОСЛІ'НОК, СЛІ'НЬКО, СЛЮ'НЬКА,] [АДЖГУ'Р, АЖГІ'Р, ДЖГІР, ДЖЫГІ'Р, ДЖЕГІ'Р, ДЖЕГУ'Р, ЖГІР, УЖГУ'Р, ЯДЖГА'Р, ЯДЖЭ'Й, ЯДЖА'Й, ЯЖГУ'Р, ЯЖТУ'Р, ЯЧГУ'Р], СЛІЗУ'Н [СЛЫЗУНЕ'Ц], СЛІНЯ'ВЕЦ, СЛЮНЦЯ'Й, СМО'РКАЧ, [САПЛЮ'К, СОПЛЯ'К, САПЛІ'ВЕЦ, СОПЛІ'ВЕЦ, СОПЭ'ЛЬ], ЦА'РЫК.** 'Рыба ёрш'. Ёрш дужа калючы; яго і ёрш завуць, і яжгур [Пераброддзе Мёр.]. Вы яршоў, гляджу, улавіўшы многа [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 246]; Ёрш калючы [Беразіно Докш.]. Ёрш у любой нераст ідзет [Шкаўна Лудз.]. Ершоў налавіў [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 2, с. 126]; Важко чысціць етого ерша: вельмі колецца, у рукі не можно ўзяць [Белайчук, с. 227]; Ерш меншы, а окунь большы [Сямігосцічы Стол.; ТС, т. 2, с. 52]; На тых ершакох луска мала [В. Малешава Стол.; ТС, т. 2, с. 52]; Ершуны колючые беруць і ўночэ [Луткі Стол.; ТС, т. 2, с. 53]; Да біўса ершык да с карасем (з песні) [Хачэнь Жытк.; ТС, т. 2, с. 52]; [ерш, ёрш, ёрж, жэрш, джэрш, жгір, джгір, джегір, джегур]. 'Ёрш' [Крывіцкі, с. 167]; У тым возеры дык ужэ надта богато бабок [Белайчук, с. 227]; У нас на ерша кажуць бабыр [Пярэдзелка Лоеў.]. Падпусці паплавок вышай, бабыроў наловіш [Чаплін Лоеў.; ДСЛ, с. 42]; [бобыр, бабур]. 'Звычайны ёрш' [Крывіцкі, с. 166]; Біржоў наловіць лёгко, а чысціць іх не кожны согласен [Белайчук, с. 227]; Налавіў рыбы, адных ваўчкоў, а што зь імі рабіць? [Чыжаха Бярэз.; СЦГ, с. 56]; Налавіў рыбы, адных ваўчкоў, а што зь імі рабіць? Я не ўмею нічога [Чыжаха Бярэз.; ММГ, с. 26]; Гэту калючку німа як у рукі ўзяць! [Скамарошкі Стаўб.; СЦГ, с. 179]; Ослінкоў наловілі [Аздамічы Стол.; ТС, т. 3, с. 267]; Слінько ў нас кажуць на ерша [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 5, с. 56];

Думаў, добрую паймаю, а тут слюнька [Бывалькі Лоеў.; ДСЛ, с. 331]; Злавіў зь дзесятак аджгуроў ды плотак некалькі [Мікалаеўшчына Стаўб.; СЦГ, с. 21]; Нашы малыя прынесли з речкі ажгироў [Кладнікі Іўеўск.; Сцяшковіч, с. 29]; Во закінь вуду, джгіры чарвяка мамент аб'ядзяць [Вялікая Вуса Уздз.; СЦГ, с. 115]; Мой дзяцька злавіў на вудачку двух джыгіроў [Вялікая Вуса Уздз.; ММГ, с. 40]; Тут адны джыгіры, не даюць другой рыбе да кручка падыйсці [Мазыр, Стрэльск; Яворскі, с. 74]; Ёрш ест, у нас – ужгур [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 5, с. 185]; Яджгар рыба смашная, тольки натто калючая [Касцянева Шчуч.; Сцяшковіч, с. 572]; Наш Тадзік у нядзелю прывёс кілі са тры. Праўда, добрай рыбы было німнога, палова яжгуроў. Як прынясём яжгуроў цэлы кошык – на цэлы дзень работы. Шчэ й рукі апкрываваіш, паколіш [Сцешыцы Віл.; ММГ, с. 134]; Яжгур – рыба, падхадзяшча пад акуня [Ясёва Мёр.]. Яжгур – во калючы. І ёрш скажуць, алі болі завуць яжгур [Пераброддзе Мёр.]. Іжгуры калючыі, халера [Янова Мёр.]. Іжгурамі ўсе рукі скалоў [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 256]; Яжгур – калючая рыба [Мярэцкія Глыб.]. Яжгуроў парылі і тушылі [Вузла Мядз.]. Вараць суп з яжгуроў [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 5, с. 550]; [слізун, слызунец]. 'Ёрш' [Крывіцкі, с. 172]; [слінявец]. 'Тое, што і *слізун*' [Крывіцкі, с. 172]; [сморкач]. 'Тое, што і *сопляк*' [Крывіцкі, с. 172]; Саплюкі колкія, стадамі ходзяць, выцягнеш – увесь у вазграх [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 4, с. 365]; [сопляк, соплівец]. 'Ёрш' [Крывіцкі, с. 172]; У гэтом мэсці одны сопле ловаюцца [Валішча Пін.; ДСБ, с. 212]; [ёрш, ёрж, ерш, ершун, жэршык, аджгур, ужгур, яжгур, джгір, яжтур, саплівец, соплівец, саплюк, слюнька, ваўчок]. 'Рыба Acerina cernua L.' [ЛАБНГ, с. 129]; [джэрш, яджэй, яджай, слюнцяй, царык]. 'Дробная рыба сямейства акунёвых з калючкамі ў ніжніх плаўніках і ў плаўніку на спіне; цела цёмна-шэрага колеру, пакрыта слізззю' [ЖС, с. 69].

**ЖА'БРЫ [ЖА'БРА, ЖЭ'БРЫ, ЖЭ'БРА], ЗЯ'БРЫ [ЗЯ'БРА, ЗЕ'БРЫ, ЗЕ'БРА], ВУ'ШЫ [ВУ'ШКІ, ЗАВУШНІ'ЦЫ], СЦІ'ПЕРЫ**. 'Жабры'. У кожнай рыбы есць жабры, бо без іх рыба не жыла б [Белайчук, с. 228]; Рыба дыхая сціперамі [Руднікі Шальч.; СПЗБ, т. 5, с. 41]; [жабры, жабра, жэбры, жэбра, зябры, зябра, зебры, зебра, вушы, вушкі, завушніцы]. 'Жабры рыбы' [ЛАБНГ, с. 130].

**ЖМА'КА**. 'Паплавок у сетках' [Крывіцкі, с. 167].

**ЖЫВЕ'Ц[1] (ЖИВЕ'ЦЪ, АЖЫВЕ'Ц), НАЖЫ'ЎКА**. 'Жывая рыбка, якую насаджваюць на кручок у якасці прынады'. Акуні і шчукі клююць на жыўца [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 109]; Ставяць жыўца і ловюць шчуку на жыўца. Ловюць весной і ўвосінь на жыўца [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 2, с. 162]; Налавіў шмат рыбы на жыўца [Лядцо Пух.; Шатэрнік, с. 95]; Нажыўляюць жыўцамі матыркі і ставяць на мінтузоў [Камянполле Мёр.; Крыўко, с. 246]; На ажывец хутчэй рыба пойдзе, чым на хлеп [Чыжаха Бярэз.; СЦГ, с. 24]; Вуда для живца, съ живцомъ [СБМН, с. 155]; Первая нажыўка для шнуроў – чэрві і ўклейкі нажыўлялі. Угар берыцца, шчука [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 251].

**ЖЫВЕ'Ц[2]**. 'Сетка, для захоўвання жывой рыбы'. Жывец, дзе рыба храніцца [Палік Барыс.; СПЗБ, т. 2, с. 162].

**ЖЫ'ЛКА, ЛЁ'СКА, ВУ'ДА[2], ВУДЗЕ'ЛЬНО**. 'Капронавая нітка, лёска для кручковых рыбалоўных прылад'. [Жылка]. 'Капронавая нітка для

кручковых рыбалоўных прылад' [Крывіцкі, с. 167]; Добрая дзела, гэткая рыбіна, хацеў бы б ты, каб жылка ні парвалася [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 247]; Купіў лёскі на вуды [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 249]; Зьвіў вуду с конскіх валасоў [Баханькоў, с. 220]; Вудзельномъ секанувъ [СБМН, с. 76].

**ЖЫРО'ЎКА**. 'Месца жыравання рыбы'. От, кажуць, на возеры жыроўкі бачыў [Ломыш Хойн.; Станкевіч, с. 299].

**ЗАБРО'Д**. 'Ручная сетка'. Забродам паймалі многа рыбы [Чарніца Лёз.; Каспяровіч, с. 112].

**ЗАДРА'ЧЫЦЬ [ЗАДРА'ЧЫВАЦЬ]**. 'Задрачыць (задрачываць) шнуры – ставіць, размяшчаць на вадаёме шнуры'. Шнуры здрачуць, на іх пападаіць болі драпежная рыба: шчупакі, мінтузы, самы [Манякова Мёр.]. Ёсць такая драка, тады задрачываюць шнуры і цягнуць, пападалі мінтузы [Восцевічы Мёр.; Крыўко, с. 247]

**ЗАЕ'ЗЬНІК, ЗАХО'ДНІК, РАДА'К**. 'Невялікі азёрны невад з рэдкага палатна для лоўлі вялікай рыбы, які закідваюць з лодкі і выцягваюць на бераг два чалавекі'. [Радак]. 'Невялікі азёрны невад з рэдкага палатна для лоўлі вялікай рыбы' [Баханькоў, с. 224]; [заезьнік]. 'Невялікі азёрны невад, які закідваюць з лодкі і выцягваюць на бераг два чалавекі' [Баханькоў, с. 221]; [заходнік]. 'Невялікі азёрны невад, якім ловяць рыбу два чалавекі' [Баханькоў, с. 221].

**ЗАПА'СІНА**. 'Адна якая-небудзь рыбалоўная прылада' [Баханькоў, с. 221].

**ЗАПРЫТЫ'ЧЫЦЦА [ЗАПРЫТЫ'ЧЫЦЬ]**. 'Прывязаць лодку за прывалку, увагнаную ў дно вадаёма'. [Запрытычыцца]. 'Запрытычыць лодку' [Баханькоў, с. 221]; 'Запрытыч лотку, ато вал будзіць несьці' [Баханькоў, с. 221].

**ЗАПЯ'ЦЬ [ЗАПІНА'ЦЬ]**. 'Ахапіць сеткай участак вадаёма, дзе можа быць рыба'. Сеткый запнеш места, рыбы наберыцца, а тады цягнуць [Янова Мёр.]. Брадзілі, сеткый запіналі рыбныя мясты [Камянполле Мёр.; Крыўко, с. 247].

**ЗАСТА'ВІЦЬ [ЗАСТАЎЛЯ'ЦЬ]**. 'Заставіць (застаўляць) шнуры – тое, што задрачыць (задрачываць) шнуры'. Заставюць шнуры, ждуць і на іх рыбіна чапаіцца [Пераброддзе Мёр.]. Будзім застуўляць шнуры [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 247].

**ЗА'СТУП, ЗУБ [ЗУБЕ'Ц, ЗУБО'К]**. 'Востры выступ на рыбалоўным кручку'. [Заступ]. 'Зазубрына на рыбалоўным кручку' [Крывіцкі, с. 167]; [зуб, зубец, зубок]. 'Тое, што і *заступ*' [Крывіцкі, с. 167].

**ЗАТО'КА, ЗАТО'Н, ЗАРО'Г**. 'Невялікі заліў у рацэ або возеры'. Ужо замерзла затока: рыбы нельга лавіць [Турэц Сміл.; Шатэрнік, с. 110]; І ў затоні ловіў, прэбоваў ловіць, нема рыбу [Цераблічы Стол.; ТС, т. 2, с. 126]; Паставіў нерат у затоня [Амельна Пух.; Шатэрнік, с. 110]; Па затонах карасе, ўюны [Янкоўскі-2, с. 74]; Рыба ўся ў зарогах, ек лес моллю йдзе [Хачэнь Жытк.]. У Хочэнском зарозі рібу богато е, але вельмо ее там возьмеш! [Пагост Жытк.; ТС, т. 2, с. 119].

**ЗАТО'ХНУЦЦА**. 'Задыхнуцца, затхнуцца пад лёдам (пра рыбу)'. Зіма была халодная, сьнегу многа – вот рыба і затохлася [Баханькоў, с. 221].

**ЗАТУ'ЛА**. 'Доўгі скураны рыбацкі фартух'. Надзень затулу, ато змокніш увесь [Баханькоў, с. 221]; Завяжуць затулы, закасаюць рукавы і пачынаюць цягаць сетку з вады [Пасынкі Мядз.; СЦГ, с. 155].

**ЗА'ХВА**. 'Три кола, вбитые в дно реки на глубоком месте и переплетенные сверху зелеными ветвями, к которым привязывают лодку во время рыбной ловли'. Ён ловіць рыбу на захве [Маркаўшчына Віц.; Каспяровіч, с. 126].

**ЗБРЫ'ЗГА**. 'Шнурок з крючкамі, привязываемый к рыболовному шнуру'. Рыба парвала збрызгі [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 128].

**ЗВУ'ДЗІЦЬ**. 'Патраціць, расходаваць у час вуджэння'. Звудзіў усіх чарвей [Баханькоў, с. 221].

**ЗЕ'КРА**. 'Пашча (у рыбы)'. От зекраты! Рот, як у кожушка зекра! [Кароцічы Стол.; ТС, т. 2, с. 150].

**ЗЬРЭ'НКА**. 'Вока'. У шчукі зьрэнкі здоровуе, і вона добрэ рыбку меншую вугледае [Белайчук, с. 228].

**ІКРА' [КРА], НО'РАСТ[1]**. 'Лічынкі рыбы, якія выпрацоўваюцца самкай і апладняюцца самцом'. Ікры цяперака поўна ў рыбы: нарастуіць [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 247]; [ікра, кра]. 'Ікра самкі рыбы' [Крывіцкі, с. 168]; Нораст рыба пускаіць па ціне [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 3, с. 234].

**ІКРА'НКА**. 'Самка рыбы ў перыяд нерасту'. Злавіў шчуку. Ікранка. Ікра аш ліецца [Баханькоў, с. 221]; Злавіў ікранку [Мазурына Мёр.; Крыўко, с. 247].

**КАБЫ'ЛА [КАБЫ'ЛКА]**. 'Выструганая палка, да канцоў якой прывязваюцца цяцівы заезніка (заходніка); выезд (служыць таксама для выпрамлення палатна сеткі пры выцягванні яе на бераг)'. [Кабыла]. 'Палка, да канцоў якой прывязваюцца цяцівы заезніка (заходніка); выезд (служыць таксама для выпрамлення палатна сеткі пры выцягванні яе на бераг)' [Баханькоў, с. 221]; [кабылка]. 'Невялікая кабыла; тое, што і *кабыла*' [Баханькоў, с. 221].

**КАДУ'ШКА, НАСТА'ВА [НА'СТАЎКА, НАСТА'ЎКА, НАСТАЎНЯ']**. 'Рыбалоўная стаўная лавушка з двума супрацьлеглымі глухімі заходамі'. [Кадушка]. 'Стаўная лавушка з двума супрацьлеглымі глухімі заходамі (ніткавая ці лазовая)' [Крывіцкі, с. 168]; [настава, настаўка, настаўня]. 'Тое, што і *кадушка*' [Крывіцкі, с. 170].

**КАЗА'[1]**. 'Невялікая рыба тыпу ўюна, якая жыве ў іле (назву атрымала, відаць, з-за двух вырастаў-рожак на ніжняй губе)' [Баханькоў, с. 221].

**КАЗА'[2]**. 'Драцяная сетка ў форме чарпака, якая ўстанаўліваецца на носе лодкі для раскладвання агню, калі едуць лучыць рыбу' [Баханькоў, с. 221].

**КАЛАСАВІ'К**. 'Лешч, які нерастуе ў час каласавання жыта' [Баханькоў, с. 222].

**КАЛО'ЦЬ**. 'Забіваць (рыбу) васцямі' [Баханькоў, с. 222].

**КАРА'НКА**. 'Самаробны паплавок (для вуды, сеткі) з тоўстай сасновай кары'. Як каранка патоніць – цягні, значыць, рыбіна ўзілася [Баханькоў, с. 222]; Каранак быў сам наробіўшы на вуды [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 247].

**КАРА'СЬ [АКРА'СЬ, КРАСЬ]**. 'Рыба карась'. У Ербеёўскім карасі дзержацца навек [Лутmedian Стол.]. Е карасі красные, есцека і белые карасі [В. Малешава Стол.; ТС, т. 2, с. 183]; Карасі ў сажалках болі [Пераброддзе Мёр.]. Карасёў кошыкамі ловім [Манякова Мёр.]. Карасі ёсць рудыі, красныі, белыі, а ў тарфяных выгарках і чарнаватыі [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 247]; Злавіў карася, налавіў карасёў у лузе [Баброўнікі Гарад.]. Карасі ёсць у озяры [Мельнікі Лудз.; СПЗБ, т. 2, с. 415]; [карась]. 'Назва рыбы' [Янкоўскі-2, с. 85]; Паглядзі, якога мы паймалі акрася [Дрыкольле Куз.; Каспяровіч, с. 19]; [карась]. 'Звычайны і серабрыты карась' [Баханькоў, с. 222]; [крась]. 'Рыба з кароткім целам, пакрытым цёмна-залацістай або цёмна-серабрыстай лускoй, водзіцца ў вадаёмах з воднай расліннасцю і ілістым дном' [ЖС, с. 70].

**КАРМА'[1]**. 'Сярэдняя частка невада ў выглядзе вузкага мяшка, куды трапляе рыба, а таксама сярэдняя частка венцера, ці жака'. Болткый рыбу ў сетку заганялі, у невад тожа, кап рыба ішла ў карму [Н. Сяло Мёр.]. У жаку – крылы, карма, хвост [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 248]; От патчапілі рыпкі, поўная карма набілася [Баханькоў, с. 222].

**КАРМА'[2], ПУХА', ПЯТА'**. 'Задняя частка ў лодцы'. Нос пэрэдні, а корма, як рыбак, то рыбу кідае. У корме порожок [В. Малешава Стол.; ТС, т. 2, с. 218]. [пуха]. 'Задняя частка лодкі, дзе садзіцца рулявы, грабец' [Янкоўскі-2, с. 148]; [пята]. 'Карма лодкі' [Баханькоў, с. 224].

**КАРМА'[3], МАТНЯ' (МОТНЯ'), КУЛЬ [КУЛЁ'К]**. 'Задняя частка рыбалоўнай снасці ў выглядзе доўгага мяшка'. Паглядзі ці няма рыбы ў карме [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 155]; Карма – мяшок такі ў бродні; рыба заходзіць у карму, ад кармы ідуць крылі [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 2, с. 419]; Матня – мех такі, як зойдзе рыба, то ня выйдзя [Збляны Лід.; СПЗБ, т. 3, с. 43]; А куды ж рыба будзе заходзіць, як не будзе мотні? [Старажоўцы Жытк.; ТС, т. 3, с. 93]; Трэбо новую прышву прышыць, а то ўжэ старая тая [Белайчук, с. 230]; [куль]. 'Задняя частка рыбалоўнай снасці, невада і інш.' [Янкоўскі-1, с. 104]; У жаку два крыла і куль [Сямурадцы Жытк.; ТС, т. 2, с. 249]; Асадзіў адзін кулёк [Баханькоў, с. 222]; Чарпак з нітак і абручы там, і кулёк узенькі, і варата пашырэй [Чычалі Швянч.; СПЗБ, т. 2, с. 564]; Рыбіна, скажым, пападзецъ у жак, заб'ецца у кулек і стаіць, ужо й ня выдзіць нікуды [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 249].

**КАРО'БКА[1], БАСЫ'Й, РЭ'ШЭТО [РЭШЭТО', РЭШО'ТКА]**. 'Рыбалоўная лавушка у выглядзе яшчыка ці рэшата з дыркай у дне для захода рыбы'. [Каробка]. 'Лавушка у выглядзе яшчыка ці рэшата з дыркай у дне для захода рыбы' [Крывіцкі, с. 166]; [басый]. 'Тое, што і *каробка*' [Крывіцкі, с. 166]; [рэшэто]. 'Тое, што і *каробка*' [Крывіцкі, с. 172]; Нам учора ў рэшэто поўно в'юноў налезло [Кароцічы Стол.]. Такіе рэшота робілі ў полонку стаўляць [Лутmedian Стол.; ТС, т. 4, с. 350]; [рэшотка]. 'Тое, што і *каробка*' [Крывіцкі, с. 172].

**КАРП [КО'РАП, КО'РОП, КА'РПА]**. 'Рыба карп'. У нас карпы хто разводзіць [Мельнікі Лудз.]. Карп у прудах гадуецца [Сапоцкіна Гродз.; СПЗБ, т. 2, с. 423]; Карп у нас водзіцца [Ясёва Мёр.]. Карп – прыгожая рыбіна, бліскучая [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 248]; [Карп, короп]. 'Карп' [Крывіцкі,

с. 168]; [карпа]. ‘Карп’ [Баханькоў, с. 222]; Уго, якога ты карпу ўлавіў [Янова Мёр.; Крыўко, с. 248]; [карп, карпа, корап]. ‘Рыба з шырокім целам, пакрытым буйной луской, якую разводзяць і вырошчваюць у сажалках, штучных вадаёмах’ [ЖС, с. 71].

**КАЦЕРЫ'НКА**. ‘Прымітыўная лябёдка (у ветраку, на лодцы, пры плыце для пад’ёму якара)’ [Запясочча Жытк.; ТС, т. 2, с. 185].

**КЛЁЎ**. ‘Хапанне прылады, насадкі рыбай’. Клёў за разденцам быў сённі неплахі [Карпаўка Лоеў.; ДСЛ, с. 159]; У дож добрый клёў далжон быць [Цімошкава Мёр.; Крыўко, с. 248].

**КЛІ'ЎНЯ [КЛО'ВНЯ, КЛО'МЛЯ, КЛО'МНЯ, КЛО'ЎНЯ, КЛУ'МЛЯ, КЛУ'МНЯ], КО'МЛЯ [КІ'МЛЯ, КО'МЯЛЬ, КО'МЛА, КО'МЕЛА], КОЛЫ'СКА, КОБО'ША [ХОБО'ША], ЗА'СТАЎНЯ [ЗА'СТАЎКА]**. ‘Рыбалоўная снасць, ручная лавушка з сеткі, нацягнутай паміж двума “палазамі”’. Тэпэр хлопцы богато наловылы кліўнею [Гальцы Стол.]. Мы взялі кловню і пошлі ловыты рыбу [Клейнікі Брэсц.; ДСБ, с. 97]; Кломля – як кош чатырохкантовы, плецены з дупцоў [Альхоўка Навагр.]. Была кломля рыбу лавіць – плялі з ніцей; ловяць удвох [Дзяніскавічы Ганц.; СПЗБ, т. 2, с. 478]; У кломлю лавіў [Янкоўскі-1, с. 97]; Кломляю па-за берагох рэчкі ловяць [ДСЗ, с. 80]; За нач многа рыбы папала ў комлю [Прывалка Гродз.; Сцяшковіч, с. 215]; [комля]. ‘Хадавая рыбалоўная прылада з сеткі на жэрдках з калкамі’ [Луткі Стол.; ТС, т. 2, с. 212]; Достань з горы комлю, пойдом рыбу ловіць на Муцьве [Белайчук, с. 229]; [кломля, кломня, клоўня, комля, комела]. ‘Рыбалоўная перасоўная лавушка з адкрытым заходам для лоўлі рыбы удваіх у неглыбокіх месцах’ [Крывіцкі, с. 168]; [колыска]. ‘Тое, што і *кломля*’ [Крывіцкі, с. 168]; [кобоша, хобоша]. ‘Тое, што і *кломля*’ [Крывіцкі, с. 168]; [застаўка, застаўня]. ‘Тое, што і *кломля*’ [Крывіцкі, с. 167]; [кломля, клумля, кломня, клумня, комля, кімля, комяль, комла]. ‘Рыбалоўная прылада’ [ЛАБНГ, с. 132].

**КЛОП**. ‘Прылада рабіць гукі ў вадзе пры лоўлі самоў’. Таке, копутце той клоп сомоў клопаць [Запясочча Жытк.; ТС, т. 2, с. 197].

**КЛОПА'ЦЬ [ХЛО'ПАЦЬ]**. ‘Лавіць самоў, робячы ў вадзе гукі пры дапамозе спецыяльнай прылады’. Клопаюць сомоў у спаса [Запясочча Жытк.; ТС, т. 2, с. 197]; [клопаць, хлопаць]. ‘Лавіць самоў на квок’ [Крывіцкі, с. 168].

**КЛЯ'ЧА**. ‘Бакавая палка ў рыбалоўнай сетцы’. Берэцеса за клячы да подцягвайце сетку [Пагост Жытк.; ТС, т. 2, с. 199].

**КЛЯВА'ЦЬ [КЛЮВА'ЦЬ], ТО'РКАЦЬ**. ‘Хапаць прыладу, насадку на вудачцы і іншай рыбалоўнай снасці’. Рыба сягоння ня хочыць клюваць [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 248]; Цегні буйстрэй вудку, не бачыш – вунь торкае [Белайчук, с. 229].

**КО'ЙКА**. ‘Кош або лодка з дзіркамі ў дне для перавозкі свежай рыбы’ [Запясочча Жытк.; ТС, т. 2, с. 205].

**КОСЦЬ**. ‘Костка’. Косці з рыбу пуд ногі не кідай, а то ўколешся [Белайчук, с. 228].

**КОДО'Л**. ‘Вяроўкі ў невадзе, за якія яго цягнуць’. Кодол прыўязваецца посерэдзіне клячы [Верасніца Жытк.; ТС, т. 2, с. 201].

**КОКО'РЫ [КОКО'РА], КРУКІ'**. 'Аснова лодкі ў выглядзе дуг, да якіх прымацоўваюцца дошкі'. [Кокоры]. 'Дугі ў лодцы (аснова), да якіх прыбіваюцца дошкі' [Альшаны Стол.; ТС, т. 2, с. 205]; Продай мыні кокоры, буду лодку робыты [Гальцы Стол.; ДСБ, с. 101]; [крукі]. 'Драўляныя пласцінкі з загнутымі ўверх канцамі, да якіх прымацоўваюцца дно і барты лодкі' [Баханькоў, с. 222].

**КОРО'БКА**[2]. 'Круглая рыбалоўная стаўная лавушка на ўюноў'. Коробка кругла, посерэд дзірочка, туды рыба лезе, а одтуль не вулезе [Луткі Стол.; ТС, т. 2, с. 219].

**КОШ**[1]. 'Рыбацкая прылада' [Янкоўскі-1, с. 100].

**КОШ**[2]. 'Стаўная лавушка конусападобнай формы, сплеценая з лазы'. Добрые кошы нам плеце стары дзед, рыба ў іх ловіцца крупная [Белайчук, с. 229].

**КОШЫ'ЦА**. 'Плеценая з лазы рыбалоўная снасць'. На бэрозі лэжала кошыца [Аўсямірава Стол.; ДСБ, с. 109].

**КРАСНАПЁ'РА [КРАСНАПЁ'РКА, КРАСНОПЁ'РКА, КРАСНОПЁ'РА, КРАСНОПЁ'РУХА], КРАСА'ЎКА, КАЛІ'НАЎКА, КРАСНЁ'ХА, ЧАРЭ'МУХА [ЧЭРЭ'МУХА, ЦАРЭ'МУХА], ЧАРНО'ХА, ЧАРНАЛЮ'ГА**. 'Рыба чырванапёрка'. Красаўка пірад дажджом добра бярэцца [Баханькоў, с. 222]; Краснапёра – рыба такая [Чычалі Швянч.; СПЗБ, т. 2, с. 519]; У краснапёркі хвост і плаўнікі краснавата-карычневые, яна, як плотка [Пасіене Лудз.; СПЗБ, т. 2, с. 519]; Краснаперка пёры красныі маіць [Камянполле Мёр.]. Краснапёрка добра клюець пірад дожджам [Н. Сяло Мёр.]. Плотка і краснопёрка – тоя самая [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 248]; Тую краснопёрку одному кому хіба, дэ і то не наесца [Белайчук, с. 227]; [краснопёрка, краснопёра, краснопёруха]. 'Краснапёрка' [Крывіцкі, с. 169]; [калінаўка]. 'Тое, што і *краснапёрка*' [Крывіцкі, с. 168]; Краснёха водзіцца ў нашых азірах з краснымі пёрамі [Перабродзе Мёр.; Крыўко, с. 248]; [чэрэмуха, царэмуха]. 'Тое, што і *краснапёрка*' [Крывіцкі, с. 173]; [чарэмуха, чарноха, чарналюга]. 'Рыба, падобная да плоткі, але з жаўтавата-залацістай або серабрыстай луской і ярка-чырвонымі плаўнікамі' [ЖС, с. 71].

**КРУТОВЕ'ЛО**. 'Калаўрот для выцягвання невада'. Одзін дзержыць за куста, а тые на крутовело нацягаюць [Запясочча Жытк.; ТС, т. 2, с. 239].

**КРЫЖО'ЎКА**. 'Прылада для лоўлі рыбы з берага: квадратная сетка [1м * 1м], прымацаваная да канцоў дзвюх дуг, звязаных крыж-накрыж і рухома злучаных з доўгай ручкай' [Баханькоў, с. 222]; Крыжоўкай ловіць адзін, па бірагу ідзець і цягніць за ручку, прыціскаючы ўніз [Мазурына Мёр.; Крыўко, с. 248].

**КРЫЛА'Ч**. 'Рыбалоўная стаўная лавушка з адным ці двума супрацьлеглымі заходамі і з адным ці двума крыламі' [Крывіцкі, с. 169].

**КРЫЛО' [КРЫ'ЛА]**. 'Бакавыя часткі рыбалоўнай снасці'. [Крыло]. 'Кожная з дзвюх частак сеткі, размешчаных па баках кармы' [Баханькоў, с. 222]; Венцяр з горлам, па старанам – крыла [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 2, с. 543]; Адно крыло недзіка за лазіну зачапілася [Перабродзе Мёр.]. Ужаку два

крылы, кармы хвост; ён надзяецца на адзін кол і два калы паабапал [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 248].

**КРЭ'ЧВЫ, КУКАШЫ'НА**. 'Драўляная аснова бродня'. Крэчвы – палазы ў брэдні, да іх прыцэплена сетка. [Дакудава Лід.; СПЗБ, т. 2, с. 550]; Дзве кукашыны ў бродні – такія длінныя палкі, удвух ловюць броднем [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 2, с. 560].

**КСЕНЬ**. 'Страўнік у шчупака'. Коб это ўзяў да прыложыў ксеня с кожушка. Вон проедае скоро! (пра нарыў) [Лутні Стол.; ТС, т. 2, с. 245].

**КУ'КА, ПАБАЕ'ШКА, ЧАКУ'ХА, ДАЎБЕ'ШКА, ДАЎБНЯ'**. 'Вялікі драўляны малаток, якім глушаць рыбу пад лёдам'. [Кука]. 'Драўляны малаток, якім глушаць рыбу пад лёдам' [Баханькоў, с. 222]; А я кукай тры рыбіны аглушыў [Русінава Сен.; Каспяровіч, с. 170]; [пабаешка]. 'Палка з адным патоўшчаным выгнутым канцом, якой глушаць рыбу пад лёдам' [Баханькоў, с. 223]; Як даў чакухою, дак зебра роставіў (шчупак) [Аздамічы Стол.; ТС, т. 5, с. 287]; [даўбешка, даўбня]. 'Прылада для глушэння рыбы' [Яшкін, с. 130].

**КУЗЮ'РКА**. 'Від кручковай снасці – з вілачкамі на адным канцы шнура і з трыма вялікімі з другога канца'. На кузюрку нажыўляіш плотачку і ставім на шчупука [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 249].

**КУ'КЛА**. 'Скрутак сеткавага палатна'. Сто підзісят мэтруў скручанай сеткі – кукла. Дзве куклы выпісуў [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 249].

**КУСТ**. 'Куча галля, ядлоўцу, накіданага ў возера і замацаванага рэдка забітымі колікамі'. Робяцца кусты як месца збору і сховішча рыбы, дзе яе лягчэй злавіць, аблажыўшы сеткай [Баханькоў, с. 222].

**ЛАТО'ЖЫЦЬ**. 'Заганяць рыбу ў буч'. Латожыш рыбу [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 2, с. 631].

**ЛАЎЛЯ' [ПОЛО'Ў, ПОЛО'В, ПОЛО'ВЪ]**. 'Лоўля рыбы'. Лаўля рыбы бродам. Трэці чалавек за прамую палку нажымая брот да зямлі – гэта называюць лаўля бродам [Альхоўка Навагр.; СПЗБ, т. 2, с. 633]; Рыба не боіцца полову, а поголову (прымаўка) [Бярэжцы Жытк.]. Рыбка не боіцца полову, да помору (прымаўка) [Цераблічы Стол.; ТС, т. 4, с. 147]; [полов]. 'Лоўля (рыбы)' [Крывіцкі, с. 171]; Сянни половъ рыбы хорошій бывъ [СБМН, с. 462].

**ЛЕ'СКАЎКА [ЛЕСКО'ЎКА, ЛЯСКО'ЎКА, ЛАСКІ'Р, ПЛАСКІ'Р, ПЛЁ'СКАЎКА], ЛЕ'ШЧАЎКА [ПАДЛЕ'ШЧАЎКА, ПАДЛЕ'ШЧЫК, ПАДЛЕШЧО'ЎКА, ПОДЛЕШЧО'ЎКА, ПУДЛЕ'ШЧІК], КРУГЕ'ЛЬ, КРУПЕ'ЛЬ, ЛЁ'ТКА**. 'Невялікі лешч'. У лескаўкі ойстра спіна [Дварэц Жытк.]. Лескаўка – шырока да тоненька рыба [Дварэц Жытк.; ТС, т. 3, с. 24]; [лескоўка, ляскоўка, ласкір, пласкір, плёскаўка, лешчаўка]. 'Невялікі лешч' [Крывіцкі, с. 169]; Паймалі сем падлешчавак [Пярэдзелка Лоеў.; ДСЛ, с. 234]; У Лучосе часам бяруцца падлешчыкі [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 218]; [падлешчык]. 'Невялікі лешч' [Баханькоў, с. 223]; Падлешчык меншы, ні дарос да ляшча [Магуны Паст.]. Лешч – вялікі, падлешчык – маленькі [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 3, с. 311]; Пудлешчовок і ловіць не вугодно, коб ужо добрэнного лешча споймаць [Белайчук, с. 227]; [подлешчоўка, пудлешчік]. 'Тое, што і *лескоўка*' [Крывіцкі, с. 171]; Кругель до кілограма бувае, у його перца жоўтые, а ў лешча – чорные [Альшаны Стол.; ТС, т. 2, с. 237]; [кругель,

крупель]. 'Невялікі лешч' [Крывіцкі, с. 169]; Я злавіў дзве лёткі [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 177].

**ЛЕШЧ [ЛЕШЧУ'К, ЛЯШЧ]**. 'Рыба лешч'. У сетку ўсё молькі попадаюць, а лешча зловіш – веселей робіцца [Белайчук, с. 227]; [лешч]. 'Звычайны лешч вялікага памеру' [Баханькоў, с. 223]; [лешч, лешчук]. 'Лешч' [Крывіцкі, с. 169]; Лішча густа ў Обстарні. Лешч ня йдзець у канаву. Ён болі нарастуіць па трасніках. У маі ідзець на нараст [Перабродддзе Мёр.]. Мой унучак з пару ляшчоў злавіўшы [Янова, Н. Сяло, Туркова Мёр.; Крыўко, с. 249]; У гэтым возеры раз выцягнулі невадам 50 пудоў ляшчоў [Астроўна Віц.; Каспяровіч, с. 177]; [ляшч]. 'Буйная рыба з шырокім плоскім целам' [ЖС, с. 71].

**ЛІ'БІДЗІЦЬ**. 'Лавіць ракаў'. Лібідзіў ракі на аблупленую жабу [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 2, с. 653].

**ЛІН [ЛІНО'К, ЛІ'НІК, ЛІНЁ'К, ЛІНІ'ШЧЭ, ЛІНО'ЧАК, ЛІНЬ]**. 'Рыба лін'. [Лін]. 'Рыба лін Tinca tinca' [Янкоўскі-2, с. 99]; Ліна многа ёсць у возіры [Перабродддзе Мёр.]. У ліна пёры крыглыі, сам таўсты [Янова Мёр.]. Ліноў налавіць – гэта дзела [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 249]; Лін – харошая рыба [Ахрэмаўцы Брасл.]. Я сёня паймаў ліна, велькі ён і смашны. Лін, лінке – найукуснейшая рыба [Кіралі Шчуч.; СПЗБ, т. 2, с. 655]; Лін любіць стыячую ваду [Паўлавічы Клім.]. Я пыймаў сяньні ліна і пяць кялбоў ды йшчэ адну аўдотку [Куравічы Мсцісл.; КСУМ, с. 250]; Ліна не есць моя баба [Бярэжцы Жытк.]. Лінок – вельмі смачная рыбіна [Тураў Жытк.; ТС, т. 3, с. 30]; Во, ліноў налавілі! [Лужасна Куз.; Каспяровіч, с. 178]; [лінок, лінік, лінёк]. 'Лінь' [Крывіцкі, с. 169]; От это ліні́шчэ поймаў! [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 3, с. 30]; Смошненна вельмі рыба лінок, любяць ее есці малые дзеці [Белайчук, с. 227]; Лінкі чысьціць цяжка, але смачнае мяса зь іх [Янкоўскі-2, с. 99]; [ліночак]. 'Памянш. ад *лін*' [Янкоўскі-2, с. 99]; Лінь залапатаў у крызя [Лядцо Пух.; Шатэрнік, с. 147]; [лін, лінік]. 'Рыба з брускаватым целам, пакрытым дробнай зеленавата-залацістай луской і густой сліззю, жыве ў зарасцях воднай расліннасці' [ЖС, с. 72].

**ЛУКА'**. 'Невялікі вузкі заліў у возеры'. Лука ў возеры – гэта заварот, за востраў заходзіць; у нас вун завуцца Маляўская лука, Дзедзінская лука. У луку заедзіш на лодцы і ловіш там [Перабродддзе Мёр.; Крыўко, с. 249].

**ЛУСКА', ЧЭШУЯ'**. 'Луска'. У місу луску чысці [Перабродддзе Мёр.; Крыўко, с. 249]; Краснапёрка – красныя пер'я і красныя глаза, а чэшуя бальшая [Валеўка Навагр.; СПЗБ, т. 5, с. 449].

**ЛУЧ**. 'Пук лучыны, вязка карчоў, якія паляць у казе, калі лучаць рыбу'. Німала накалоў шчук налуч [Баханькоў, с. 223].

**ЛУЧЫ'ЦЬ**. 'Калоць рыбу ноччу васцямі пры святле луча' [Баханькоў, с. 223].

**ЛЯПЕ'ШНІ**. 'Клешні'. Мы лавілі ракуў у Гоўчыцы. Ляпешні ў іх такіі сухіі; мы іх зовім сухалапыі ракі [Янова Мёр.; Крыўко, с. 249].

**ЛЯШЧЫ'НЕЦ**. 'Аднасценная сетка з вялікімі вочкамі на ляшчоў'. У насьлества ад дзеда, заядлага рыбака, разнай снасьці засталося, асобянна цэнны ляшчынец, яшчэ зусім новы [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 221].

**МАЛАКО' [МОЛОКО', МОЛОЧКО', МО'ЛОЧ]**. 'Семя самца рыбы, малокі'. Рас малако – малочнік, самец [Параброддзе Мёр.; Крыўко, с. 249]; [молоко, молочко]. 'Семя самца рыбы' [Крывіцкі, с. 170].

**МАЛО'ЧНІК**. 'Самец рыбы ў перыяд нерасту' [Баханькоў, с. 223]; Гэтат шчупак – малочнік [Манякова Мёр.]. Іжгуроў налавілі, болі малочнікі [Параброддзе Мёр.; Крыўко, с. 249].

**МАРЦО'ЎКА**. 'Шчупак, які нерастуе ў сакавіку' [Баханькоў, с. 223].

**МАТО'К, МАТУ'ХА, МЕ'ТКА**. 'Нізка рыбы (на шнурку, лазінцы і г.д.)'. Маток рыбы налавіў на вудачку [Параброддзе Мёр.; Крыўко, с. 250]; Во якую матуху рыбы Коля цягніць з Язніцы [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 250]; [метка]. 'Нізка рыбы' [Крывіцкі, с. 173].

**МАТЫ'РКА**. 'Доўгі шнур з кручком на канцы і нажыўленай рыбінкай, які апускаецца на дно вадаёма для прынады рыбы, што знаходзіцца больш на дне'. Матырка аш на дно апускаіцца. На кручок нажыўляіцца рыбіна, плотачку болі нажыўлялі. Шнур даводзюць аш на дно [Параброддзе Мёр.]. Ставюць матыркі на мінтузоў [Янова Мёр.]. На шнур нажывюць белыіі рыбы і апускаюць летам у раку. Гэта матырка [Н. Сяло Мёр.]. У матырцы такіі часці: жылка-міліметроўка, трайнік, вяроўка, палена-паплавок, зноў вяроўка. Нажыўляіцца трайнік мелкай рыбый, курынымі кішкамі, курыным мясам. Бярэцца на матырку сом, шчука [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 250].

**МЕХ**. 'Заварот палатна, які ўтварае рыба ў сетцы і ў якім заблытваецца' [Баханькоў, с. 223]; [мех]. 'Выгін, заварот палатна, што ўтварае рыба ў трохсценнай сетцы і ў якім заблытваецца' [Мазурына, Манякова, Цімошкава Мёр.; Крыўко, с. 250].

**МЕРО'ЖА [МЕРЭ'ЖА, МІРО'ЖА, МІРЭ'ЖА, МІРО'ЖКА, МІРО'ЖЫ, МІРО'ЖЫНКА, МІРО'Ш, МЯРО'ГА, МЯРО'ЖА, МЯРЭ'ЖА, МЯРЭ'ЖЪНА]**. 'Дзве рыбалоўныя стаўныя лавушкі з падходам і глухім заходам, звязаныя агульнай сеткай'. [мерожа, мерэжа]. 'Рыбалоўныя стаўныя лавушкі з падходам і глухім заходам, звязаныя агульнай сеткай (крылом)' [Крывіцкі, с. 170]; Мірожа – сетка рыбу лавіць [Груздава Паст.]. У мірожы два жырыла, пасрэдзіне сетка метраў чатыры-пяць [Істра Лудз.; СПЗБ, т. 3, с. 69]; Відаць, у мірожы заплыў вялікі шчупак, а яны старэнькія былі, парваў і вырваўся [Нарач Мядз.; СЦГ, с. 230]; Мірожынкі нада ў азяро ўторкнуць [Чапаеўскі В.-Дзв.; СПЗБ, т. 3, с. 69]; Горла ў мярожы нацягаваіцца. Сець нацягнута. Ставюцца драбіны ў відзі крыль. Между драбінамі ўкрапляіцца нарот [Параброддзе Мёр.]. Мярожый лавілі. Плавуном, сеткый, жаком, крыгый, браднём, невадам, шнуром, бучом, наратком, саком, блітней, матыркый [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 250]; [мярэжа]. 'Рыбалоўная снасць з двух сеткавых мяшкоў (кулькоў), нацягнутых на абручы і злучаных паміж сабой сценкай (стрэлкай)' [Баханькоў, с. 223]; Мярэжа ўжо на вадзе [Кузьміна Сен.; Каспяровіч, с. 194]; [мярэжъна]. 'Тое, што і *мярэжа*' [Баханькоў, с. 223]; [мярожа, мірожа, мірэжа, мярога, мірожка, мірош]. 'Рыбалоўная прылада' [ЛАБНГ, с. 133].

**МУ'ЛІЦА**. 'Ручка ў вясле'. У весле е муліца, шчоб рукі не муліло [Дварэц Жытк.; ТС, т. 3, с. 98].

**МУ'ТА**. 'Рыбалоўная сетка з маленькімі вочкамі'. Вочкі ў муце дробныя, маленькія, цяшка вырвацца рыбе з яе [Пасынкі Мядз.; СЦГ, с. 233].

**МУТ**. 'Глыбінны невад'. Мутамі яршоў ловім, гэтыя разбойнікі трымаюцца дна [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 233].

**НА'ПА**. 'Зачэп пры лоўлі рыбы сеткай, вудай'. Невода зачэпіло, то напа [Запясочча Жытк.; ТС, т. 3, с. 146].

**НА'СТАЎКА**. 'Рыбалоўная прылада, якой ловяць рыбу з лодкі'. Гэты дзед настоўкой на сусе поставіць, то поймае рыбу! (жарт) [Цераблічы Стол.; ТС, т. 3, с. 162].

**НАЖЫВІ'ЦЬ, НАДЗЕ'ЦЬ, ПОЧЭПІ'ЦЬ**. 'Прымацаваць, насадзіць на кручок прынаду'. Чарвічка склювалі, нажыўлю другога [Пераброддзе Мёр.]. Такіі чарвякі з зямлі, уюны называлісі, імі нажыўлялі кручкі [Восцевічы Мёр.; Крыўко, с. 250]; Надзень другога чарвіка, гэтага рыба склювала [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 250]; Почэпіць чэрвека на кручок не так ужэ й лёгко [Белайчук, с. 229].

**НЕ'ВАД[1] [НЕ'ВОД]**. 'Вялікая рыбалоўная сетка'. Невадам на возеры рыбу лавілі [Аскершына Беш.; Каспяровіч, с. 205]; Невад бальшы. Маторамі круцім. Нада сіла. Біз дзісяці чалавек зімой ня'бойдзісся, а летам – чатыры чалавекі, шэсць чалавек, два ў аднэй лодцы, два ў другой [Пераброддзе Мёр.]. Невадам ловюць на нашых азірах: на Бальшым, Сачоўцы, Налінцы, Сярэдніку, Глыбокім, Цяцерцы [Янова, Н. Сяло Мёр; Крыўко, с. 251]; [невад]. 'Вялікая рыбалоўная сетка з двума крыламі і кулём пасярэдзіне' [Баханькоў, с. 223]; Заехалі ў зарог, закідаюць з этого берэга невод, а з другого перэм'ёт, і зацягаюць того берэга, откуда і докуда воны должны ловіць рыбу [Старажоўцы Жытк.; ТС, т. 3, с. 179].

**НЕ'ВАД[2]**. 'Рыбалавецкая брыгада, якая ловіць рыбу невадам'. Мы кажды дзень піраймаім неват, калі яны едуць на санях праз нашу вёску, іншы рас рыбы купім [Міколцы Мядз.; СЦГ, с. 246].

**НЕ'РАСТ [НА'РАСТ, НО'РАСТ[2], НО'РЫСТ, НЕ'РАС, НЭ'РАСТ, НЕ'РЫСТ, НЕ'РІСТ, НЕ'РОСТ, НЕ'РЭСТ], БО'ЙЛО, КА'РАТКА**. 'Перыяд апладнення і адкладвання рыбай ікры'. Лінь пашоў на нераст [Лядцо Пух.; Шатэрнік, с. 177]; Лешч у маі ідзець на нараст [Пераброддзе Мёр.]. У маі болі рыба ідзець на нараст [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 251]; Пачаўся жабскі нораст, жабы квокчуць [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 3, с. 234]; Ужо пачаўся нораст і ў нашай рэчцы [Жалуды Куз.; Каспяровіч, с. 209]; [нораст]. 'Нераст' [Баханькоў, с. 223]; Рыба йдзець на нарасту гэну рэчку [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 251]; Нераст – нерастуя рыба [Рудня Астравітая Чэрв.]. Нараст – рыба нарастуіць, ідзёт на разлівы, на луга, на зелень [Валынцы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 3, с. 211]; То рыбечэ бойло, а то людске [В. Малешава Стол.; ТС, т. 1, с. 68]; Ішла каля Мышанкі і бачыла, што каратка пачалася [Падлаззе Лях.; ДСБ, с. 88]; [нераст, нэраст, нораст, норыст, нараст, нерас, нерыст, неріст, нерост, нерэст]. 'Перыяд, калі рыба пускае ікру і малако' [ЛАБНГ, с. 130].

**НЕ'РАТ [АНЯРО'Т, МЕ'РАТ, МЕ'РЕТ, МЕ'РІТ, МЕ'РЫТ, НА'РАТ, НАРАТЫ', НАРАТО'К, НАРО'Т, НЯРО'Т, НЕРО'ТА, НЭРО'ТА, НЯРО'ТА, НЕ'РЭТ, НО'РАТ]**. 'Рыбалоўная снасць, сплеценая з лазовых

дубцоў, у выглядзе доўгага конуса з кароткім конусападобным уваходам'. Улез у нерат: ні ўзад, ні ўперад [Яшкін, с. 128]; Кругла така нерота, а ў нероце е пелька [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 3, с. 194]; Шчупака злавіў у нерат [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 177]; Анярот, як куль, на канцы завостраны [Альхоўцы Лях.; СПЗБ, т. 1, с. 83]; Хтось-та патрос мае мераты і зыбраў рыбу [Вярбоўка Раснян.; КСУМ, с. 262]; Давай паходзім лі ракі з наратком [Манякова Мёр.]. Я і ў сажалцы з наратком болтаўся [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 251]; [нараток]. 'Нерат' [Баханькоў, с. 223]; [нараток]. 'Памянш. да *нерат*' [СПЗБ, т. 3, с. 175]; Наратамі рыбу ловіць [Гарадок Гар.; Каспяровіч, с. 202]; Рыбныя нараты былі з адным жаралом і з двумя жараламі [Істра Лудз.]. Нарот, а да яго крылья насаджваюць, за тычку прывязаваюць [Лісна В.-Дзв.]. Норат падобны да буча [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 3, с. 174]; У нараце рэбры ёсць з пруткоў. Горла ў жаку, і ў мярожак, і ў наратах – горла [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 251]; [нерота, нерэт]. 'Тое, што і *венцер*' [Крывіцкі, с. 170]; Пад страхой вісіць норат [Запруддзе Куз.; Каспяровіч, с. 209]; Як у нярот: ні ўзад, ні ўпярод [Янкоўскі-1, с. 132]; [нерат, нярот, мерет, меріт, мерыт, норат, нарот, нерота, нэрота, нherотка]. 'Рыбалоўная прылада' [ЛАБНГ, с. 132].

**НЕВОДНІ'К**. 'Член рыбалавецкай брыгады'. Як неводнікі лов'яц рыбу, воны прывозяц і ракоў [Запясочча Жытк.]. Пошоў к неводнікам да купіў рыбу [Верасніца Жытк.; ТС, т. 3, с. 179].

**НЕРАСТАВА'ЦЬ [НАРАСТАВА'ЦЬ, НЫРЫСТАВА'ЦЬ, НЕРЭСТОВА'ЦЬ, НЕРЭСЦІ'ЦЦА], БІ'ЦЦА, ІГРА'ЦІ, НЕРШЫ'ЦЬ**. 'Нераставаць, адкладваць ікру ў час нераста'. Шчукі нераставаюць [Мсцібава Ваўк.]. Ляшчы нарастуюць у маі [Ахрэмаўцы Брасл.]. Рыба пад кустом нарастуіць [Чапаеўскі В.-Дзв.; СПЗБ, т. 3, с. 212]; Ужо рыба нарастуіць [Пераброддзе Мёр.]. Цяперака шчука нарастуіць [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 251]; Рыба ўжо нараставала [Доўгае Беш.; Каспяровіч, с. 202]; Рыба ўжо пашла няраставаць [Лядцо Пух.; Шатэрнік, с. 177]; [нерэстоваць]. 'Выпускаць ікру і малокі (пра рыбу)' [Крывіцкі, с. 170]; Лінкоў не побачыш, ек нерэсцяцца [Верасніца Жытк.]. На Лексея нерэсцяцца шчукі [Крэмна Жытк.; ТС, т. 3, с. 194]; [біцца]. 'Тое, што і *нерэстоваць*' [Крывіцкі, с. 166]; [іграці]. 'Нераставаць' [Крывіцкі, с. 168]; [нершыць]. 'Тое, што і *нерэстоваць*' [Крывіцкі, с. 170].

**НЕРЭСТО'ЎКА**. 'Нерасцілішча'. Рыбакі называюць этэ место нерэстоўка, дзе рыбы б'юцца [Верасніца Жытк.; ТС, т. 3, с. 194].

**О'КІД**. 'Невялікі невадок, сетка з кармой' [Луткі Стол.; ТС, т. 3, с. 251].

**О'ПАР**. 'Палонка ў лёдзе, прамытая вадой'. У опары рыба стоіць. Рыба як пойдзе на опар, то вона опарыць лёд і зробіць пельку [Пагост Жытк.; ТС, т. 3, с. 258].

**ОСО'ЎКА**. 'Асінавы човен' [Рыдча Жытк.; ТС, т. 3, с. 269].

**ОЎДЗЮ'ШКА**. 'Рыба галень'. Оўдзюшка така без лускі [Чэрнічы Жытк.; ТС, т. 3, с. 292].

**ПАДВАЛО'КА**[1]. 'Від рыбалоўнай сеткі, меншай за невад'. Падвалока лавіць рыбу [Янова Рас.]. Падвалокаю лавілі рыбу [Лоск Валож.; СПЗБ, т. 3, с. 300]; Мы ў возеры ловім рыбу падвалокай [Астроўна Віц.; Каспяровіч,

с. 216]; [падвалòка]. ‘Сетка, меншая за невад, але большая за заезнік; невадок’ [Баханькоў, с. 223]; Ёсь і рачныі падвалокі і азёрныі. Летам падвалокый лавілі чалавек пяць-шэсь на азірах, і тры лодкі нада було [Мазурына Мёр.]. Рачная падвалока была меншая за азёрную [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 251].

**ПАДВАЛО'КА²**. ‘Рыбалавецкая брыгада, якая ловіць падвалокай’. На чале нашай падвалокі стаіць вопытны брыгадзір [Мікольцы Мядз.; СЦГ, с. 259].

**ПАДДА'ЧА**. ‘Месца, дзе апускаюць сеткі’. Паддачу замяло за ноч сьнегам – прышлося раніцай чысьціць і толькі тады апускаюць невад пад лёд [Чараўкі Мядз.; СЦГ, с. 260].

**ПАДСА'КА [ПАДСА'ЧАК], ПАДХВА'ТНІК [ПОДХВА'Т, ПОДХВА'ТКА, ХВА'ТКА]**. ‘Рыбацкая прылада – сетка, нацягнутая на асадку, якая нагадвае палову рэзанага конуса’. Хадзілі на рыбу с падсакаю [Янкоўскі-1, с. 136]; Падсака – сачок, што падхватуюць рыбу [Пярэдзелка Лоеў.]. Там без падсакі не абойдішся [Карпаўка Лоеў.; ДСЛ, с. 236]; Патсачак с старой сеткі робяць, а хто з марлі, як малькоў лавіць [Ляхавічы Дзярж.; СЦГ, с. 266]; Патхватнік на рыбу, патхватнік робіцца зь нітак, сетка такая, нацягваецца на дрот або абруч [Нізок Уздз.; СЦГ, с. 269]; Подхват – сачок такі на рыбу [Сямурадцы Жытк.; ТС, т. 4, с. 113]; Трэба іты позычыты в сусіда подхватку [Чарнаўцы Брэсц.; ДСБ, с. 173]; [хватка]. ‘Падсака, пад’ёмнік для лоўлі рыбы’ [Крывіцкі, с. 173].

**ПАДУ'ЗДА [ПАДУ'СТА]**. ‘Рыба падуст’. Падузда – красівая, белая, бальшая рыба, пат сподам як бы абрэзана [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 3, с. 322]; Падуста – рыба, форма сялёдкі, адна з іх жаўтаватая, а другая форма – белая, савершэнно рот у яе пад рыльцам [Мішневічы Шум.; СПЗБ, т. 3, с. 322]; Сягонні добра бярэцца падуста [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 221].

**ПАДХВА'ТКА**. ‘Маленькая сетка, употребляемая для ловли рыбы зимой’. Пайду рыбу лавіць падхваткаю, шмат задушкавалася каля мосту [Лядцо Пух.; Шатэрнік, с. 191].

**ПАЛЕ'НА-ПАПЛАВО'К**. ‘Паплавок з палена, які прымацоўваецца пасярэдзіне матыркі’. Палена-паплавок пасярэдзіні вяроўкі прычэпліваіцца [Туркова Мёр.]. У палена-паплаўка вяроўка прывязываіцца з двух бакоў унізу ат яе – грус, а ў вярху – жылка, а далі – трайнік [Цімошкава Мёр.; Крыўко, с. 251].

**ПАЛО'НКА [ПОЛО'НКА ПОЛО'МКА, ПУЛО'НКА], ПЕ'ЛЬКА [ПЕ'ЛЯ], ПРАЛО'МКА, ПРО'ГА, ПРО'ЛАБКА, ПРО'РАБ, ПРО'ДУХ, ПРО'ЛУБКА, ПРО'ЛУПКА, ПРО'ЛАБКА, ПРО'ЛАПКА, ПРО'ЛУМКА, ПРО'ЛАМКА, ПРО'ЛУБ, ПРО'ЛУП, ПРО'ЛУБА, ПРО'ЛАБА, ПА'НІЎКА ЛУ'НКА**. ‘Палонка, прадушына, прабітая ў лёдзе для лоўлі рыбы’. Зімой праб’еш пешкый прогу, сядзіш і ловіш рыбу [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 252]; У пролабцы зімой ловюць [Перабродззе Мёр.]. Пролубка мая замёрзла [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 252]; Прораб праб’еш зімой іш возеры і ловіш [Камянполле Мёр.; Крыўко, с. 253]; Шчукі пазадыхаліся – продуху не было [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 4, с. 109]; Пролубка на рэчцы [Чычалі Швянч.; СПЗБ, т. 4, с. 109]; Пролумка прасечана [Рудня Чэрв.; СПЗБ, т. 4, с. 109]; Пролуб праруБліваецца [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 4, с. 110]; Прабіваюць

пролубу [Солы Смарг.; СПЗБ, т. 4, с. 110]; [праломка, проламка, пролуб, пролубка, полонка, пулонка, пелька, пеля, лунка, прадуха, паніўка]. 'Палонка, прабітая ў лёдзе для лоўлі рыбы' [ЛАБНГ, с. 134].

**ПАМАГА'ЛА**. 'Падсобны часовы работнік, які добраахвотна памагае арцельным рыбакам цягнуць невад'. Пайду у памагалы, можа рыпкі дадуць [Баханькоў, с. 223].

**ПАНАЛО'ЎЛІВАЦЬ**. 'Налавіць многа чаго-небудзь'. Паналоўлівалі торбу віюноў [Гемзы Шальч.; СПЗБ, т. 3, с. 388].

**ПАПЛАВО'К [ПЛАВУ'К, ПЛЫВУ'К, ПОПЛАВО'К, ПО'ПЛАЎ, ПЛАВО'К, ПЛАВЕ'Ц, СПЛАВО'К], ПРО'БКА [ПРО'ПКА], КО'РОК [КО'РЫ]**. 'Паплавок'. Папллавок з корка і піра робюць [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 252]; Плавук пры вудаццы [Дакудава Лід.]. У трыгубіцы плавукі з бяросты [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 3, с. 528]; Не бачыш уночэ, дзе той плавок [Луткі Стол.; ТС, т. 4, с. 54]; Дзёрнуў пробку; на паплавок – пробка [Мішневічы Шум.; СПЗБ, т. 4, с. 108]; Добрэ було б, коб му той поплавок не згубілі, а то новуй трэбо купляць [Белайчук, с. 229]; [плавок, плавец, сплавок]. 'Невялікі спецыяльна апрацаваны кавалак лёгкага матэрыялу, які прымацоўваецца да верхняй часткі рыбалоўных снасцей для ўтрымлівання іх ад пагружэння на дно пры рыбнай лоўлі' [Крывіцкі, с. 171]; [корок, коры]. 'Паплавок' [Крывіцкі, с. 168].

**ПАТРАШЫ'ЦЬ, РАСПЛАТА'ЦЬ, ТРЫБУШЫ'ЦЬ, ХАНДО'ЖЫЦЬ**. 'Вымаць вантробы з рыбы'. Нада ш во ішчэ рыбу брацца патрашыць [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 252]; Перад тым, як жарыць, рыбу трэбо расплатаць [Белайчук, с. 230]; Бярыся во, дзеўка рыбу трыбушыць [Мазурына Мёр.; Крыўко, с. 255]; [хандожыць]. 'Патрашыць рыбу' [Баханькоў, с. 225].

**ПЕ'ШНЯ [ПЕ'ШКА], ДЖЫ'ГА, ШТЫЛЬ**. 'Плоскі лом з драўлянай ручкай для прабівання палонак'. Пойдом му на лёд дэ прорубаем штылём некалькі пель [Белайчук, с. 230]; Пешніі прабівалі лёд [Перабродзе Мёр.]. Пешній праб'еш прораб зімоі і ловіш [Янова Мёр.]. Пролабку пешніі прабіваім [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 252]; Зімой праб'еш пешкай прогу, сядзіш і ловіш рыбу [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 252]; У джыгі верх – дзеравянны, ніз – жалезны, ёй лёт прарубаюць [Галубы Маст.; СПЗБ, т. 2, с. 38]; [пешня]. 'Плоскі востры лом з драўлянай ручкай для прабівання палонак пры лоўлі блешняй' [Баханькоў, с. 223]; Штылём лёд прарубаюць [Прудок Маз.; Станкевіч, с. 310].

**ПЕРО' [ПЯРЫ'НА], КРЫЛО' [КРЫ'ЛУШКІ, КРЫ'ЛЦЫ]**. 'Плаўнік у рыбы'. Колючы ў ерша пёра, важко скрэбці, дэ і рукі абдзерэш [Белайчук, с. 228]; Ліпень – красівая рыба, пярына па цэлым хрыпце [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 4, с. 218]; Відзіш, якіі ў гэтыі рыбы пёры – і вялікіі й красныі [Перабродзе Мёр.; Крыўко, с. 252]; Сопліведц крыла ростопурыць! Да колецца! [Альпень Стол.; ТС, т. 2, с. 243]; Рыба крылушкі распастрэ і плыве [Баброўнікі Гарад.; СПЗБ, т. 2, с. 544]; У рыб хвост і крылцы [Лоск Валож.; СПЗБ, т. 2, с. 544].

**ПЕРЭПО'НА, ПЕРЭМЁ'Т**. 'Доўгі шнур з нажыўленымі кручкамі на павадках, нацягнуты паміж двума каламі на пэўнай глыбіні (для лоўлі рыбы)'. [перэпона]. 'Шнур з нажыўленымі кручкамі на павадках, нацягнуты паміж

двума каламі на пэўнай глыбіні (для лоўлі самоў, шчупакоў)' [Крывіцкі, с. 171]; [перэмёт]. 'Доўгі шнур з некалькімі дзесяткамі кручкоў з прынадай, які расцягваецца і замацоўваецца на дне вадаёма' [Крывіцкі, с. 171].

**ПЕЧКУРО'ЎКА**. 'Вудачка, прыстасаваная лавіць печкуроў'. На пячкуроўку акуня выцяг. Мне тато зрабіў печкуроўку й шчуччынку [Янкоўскі-2, с. 137].

**ПЛАВУ'Н**. 'Снасць у выглядзе сеткі, якой перагароджвалі ўпоперак раку'. Плавуном лавілі. Упопірак ракі яго ставілі [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 252].

**ПЛАСКУ'ХА**. 'Рыба, падобная да ляшча'. Пласкух налавіў [Янкоўскі-1, с. 147].

**ПЛАТА'ЦЬ**. 'Разразаць рыбу ўздоўж цела па хрыбетніку для прасолкі і правяльвання' [Баханькоў, с. 223]; [платаць]. 'Разразаць уздоўж хрыбта рыбу' [Крывіцкі, с. 171].

**ПЛЁС [ПЛЁ'СО]**. 'Шырокі ціхі участак ракі паміж перакатамі або астравамі'. Ець ат берага ў плёс, там рыбы болі [Баханькоў, с. 223]; Там далей на рацэ таке шыроке плёсо е [Цераблічы Стол.; ТС, т. 4, с. 60].

**ПЛО'ТЧЫНКА**. 'Вудачка, прыстасаваная лавіць плотак ці іншую дробную рыбу' [Янкоўскі-2, с. 138].

**ПО'ДТЫЧ**. 'Калкі для прасушкі рыбацкай сеткі'. Просты невод на подтычы вісіць, просыхае [Верасніца Жытк.; ТС, т. 4, с. 112].

**ПО'ПЛАЎ**. 'Сетка для падлёднай лоўлі рыбы'. Зімою бувае поўны поплаў уплуве рыбу [Сямігосцічы Жытк.; ТС, т. 4, с. 169].

**ПО'ЛАЗ**. 'Полаз як частка снасці (крыга)'. Удвух крыгай ловюць. Палазом жмець-жмець. Карася, ліна жмуць і ловюць, і злаўліваюць [Пераброддзе Мёр.]. У крызі два палазы [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 252].

**ПРІСІ'Х**. 'Двурогія драўляныя вілы, да якіх прымацоўваецца сачок ці невялікія рухомыя прастыя лавушкі ў выглядзе сачка' [Крывіцкі, с. 171].

**ПРО'ВІСЬ, РАГА'ТКА, СЕ'ТКА[1] [СЕЦЬ], ЦЕ'НЕТО**. 'Рэдкае палатно, звязанае з нітак, для вырабу рыбалоўных снасцей (сеткавае палатно)'. Дастаў провісь для рыбака [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 4, с. 109]; І сетка ест рагатка рыбу лавіць [Баброўнікі Гарад.; СПЗБ, т. 4, с. 236]; Сто підзісят мэтруў скручанай сеткі – кукла [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 254]; Купіў два метры капронавай сеткі [Баханькоў, с. 224]; Сець нацягнута ў мярожы [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 254]; Чотурохвугольные більца обшувае ценетом або полотном – то кульбель [Запясочча Жытк.; ТС, т. 5, с. 268].

**ПРЫ'ГАТКА**. 'Гаток з праходам для рыбалоўнай снасці' [Пагост Жытк.; ТС, т.4, с. 238].

**ПРЫТЫ'КА**. 'Тонкая пругкая палка патрэбнай даўжыні, якая ўтыкаецца ў дно вадаёма для прывязвання лодкі, нацягвання і прымацавання кулькоў мярэжы і інш.' [Баханькоў, с. 224].

**ПУ'НДА**. 'Невялікая рыбіна'. Пунда – адна рыбка. Пунды – небальшыя, грубенькія, пласкія рыбкі [Руднікі Шальч.; СПЗБ, т. 4, с. 187].

**ПУП**. 'Мяшэчак з ікрой у целе рыбы'. У акунёў пупы бальшыі, відаць, нарастуюць [Баханькоў, с. 224].

**ПУЖО'К**. 'Схованка для рыбы ў карме лодкі'. Набралі цэлы пужок рыбу [Луткі Стол.]. У пужку ідзі сядзь, а я ў носку сяду [Сямігосцічы Стол.; ТС, т. 4, с. 267]

**ПЯ'ЛА**. 'Аснова рыбалоўнай снасці'. Зробяць пяла з прутоў і нацягня палатно, сетку з нітак [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 4, с. 214].

**ПЯШКУ'Р**. 'Рыба бычок'. Вялізнага пяшкура злавіў [Жораўкі Сміл.; Шатэрнік, с. 238].

**РАК**. 'Рак'. Ляпешні – ногі ракуў [Янова Мёр.]. Ракуў бучамі лавілі, можна й браднём. Буч на рака здзелана з лучыны [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 253].

**РАКІ'**. 'Прыстасаванне ў лодцы для ўмацавання вясла'. Ракі называюцца, куды кладзецца апачына [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 4, с. 266].

**РІБА'ЛКА[2]**. 'Лоўля рыбы'. Хлапцы пашлі на рібалку зраньня і дасюль ні вярнулісь – быгата рібы прінясуць [Мсціслаў; КСУМ, с. 388].

**РЫ'Б'І [РЫ'Б'Я], РЫ'БЕЧЧЫ**. 'Рыбін, які належыць рыбе'. Сало рыб'е добрэ помазаць от мошок ноздры і шыю, і подкурваюць салом [Хотамель Стол.; ТС, т. 4, с. 339]; Выкінь катам гэныі рыб'я кішкі [Мазурына Мёр.]. Рыб'я вока блішчыць. Рыб'я жыр – гэта ш лікарства [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 253]; Паехаў на рэгент, дак ранка – як рыбеччае вочка [Чаплін Лоеў.; ДСЛ, с. 314].

**РЫ'БА [РЫ'БІНА]**. 'Рыба'. Ён добры рыбаловец, рыбу добра ловіць [Старое Сяло Зэльв.; СПЗБ, т. 4, с. 322]; Раншэй лозы булі – рыба годоваласа [Сямігосцічы Стол.; ТС, т. 4, с. 339]; Рыбіна ж жоўцею горка [Луткі Стол.; ТС, т. 4, с. 339]; Рыбіну злавіў бальшую [Опса Брасл.; СПЗБ, т. 4, с. 322]; [рыба]. 'Рыба' [Крывіцкі, с. 172].

**РЫ'БНЫ**. 'Багаты рыбай'. А шчэ хваліўса, шо место рыбнэ ведаеш, дзе ж твоя рыба? [Запясочча Жытк.; ТС, т. 4, с. 339]; Рыбіныя катлеты [Гемзы Шальч.]. Рыбіны расол елі з бульбай [Ёдлавічы Брасл.; СПЗБ, т. 4, с. 322]; Рыбную поліўку варылі [Рагулішкі Даўг.; СПЗБ, т. 4, с. 322].

**РЫБА'ЛКИНЪ, РЫБА'ЦКІЙ**. 'Рыбацкі'. Рыбалкинъ човенъ [СБМН, с. 570]; Рыбацкія сеци. Рыбацкая отвага [СБМН, с. 570].

**РЫБАКОВА'ЦІ [РЫБАКОВА'ЦЬ]**. 'Лавіць рыбу, займацца рыбалоўствам'. [Рыбаковаці]. 'Займацца рыбалоўствам' [Крывіцкі, с. 172]; Его бацько рыбаковаў, то я купляла рыбы колько ў іх [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 4, с. 339].

**РЫ'БКА[1]**. 'Памянш. ад *рыба* (як улоў)'. Злавіў я маліцькіх дзьве рыбкі за дзень [Канічы Касцюк.; КСУМ, с. 392].

**РЫ'БКА[2]**. 'Маленькая рыба як прынада'. Калі рыбкай нажывіш, пападзець мянтус і угорач [Перабродзе Мёр.; Крыўко, с. 253].

**РЫБОЕ'Д**. 'Жук-рыбаед' [Аздамічы Стол.; ТС, т. 4, с. 339].

**РЫБАЛО'ЎСТВА, РЫБА'ЦТВА, РЫБОЛО'ЎЛЯ, РЫБОЛО'Ў**. 'Рыбалка, рыбная лоўля'. Рыбалоўства – добрая справа: кожный дзень сьвежыя рыбка ёсьць [Канічы Касцюк.; КСУМ, с. 392]; Дзе ж ты кініш рыбацтва, яно ж длі мяне ўсё – і работа і азарт [Перабродзе Мёр.; Крыўко, с. 253]; Такому – то своя рыболоўля: уюны [Цераблічы Стол.; ТС, т. 4, с. 339]; От, кажэ, добры рыболоў у мене [Цераблічы Стол.; ТС, т. 4, с. 339].

**РЭДЗЬ [РЭЗЬ, РЭЦЬ, РЭЖ, РЭ'ЖА, РЕДЗЬ, РЯЖ, РІ'ЖА, РОЖО'ЎКА, РЭЖО'ЎКА]**. 'Сетка з трох палотнаў з буйнымі вочкамі'. Рэдзь робіцца болі з таўсцейшых нітак. У тры палатны – рэдзь [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 253]; [рэдзь, рэзь, рэць]. 'Крупнаячэістае палатно ў рыбалоўных прыладах' [Крывіцкі, с. 172]; [рэжоўка]. 'Тое, што і *рэдзь*' [Крывіцкі, с. 172]; [рэдзь]. 'Знешнія сценкі сеткі, абарца з рэдкага палатна, дзякуючы якім рыба робіць мех і заблытваецца' [Баханькоў, с. 224]; У трыгубіцы з бакоў сетка была, рэдзь такая [Чуркі Ашм.]. Рэдзь на каблук нацягваецца [Беразіно Докш.]. Рэць – така сетка, рэткія вочкі ў ей [Руднікі Шальч.; СПЗБ, т. 4, с. 329]; Рожоўкай добрэ рыбу ловіць, вугодно: рыба нейк больш поподае [Белайчук, с. 230]; [редзь, рэдзь, рэць, рэзь, рэжа]. 'Сеткавае палатно' [ЛАБНГ, с. 134].

**РЭБРО'**. 'Рабро ў рыбы'. Рэбра з рыбу му не кідаем дзе попало, бо ены вельмі шкодные, колючые [Белайчук, с. 228].

**РЭ'БРЫ**. 'Лазовыя дубцы, якімі сплятаюць нерат'. У нераце рэбры робюцца з пруткоў, абпінаюцца крыллямі [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 253].

**СА'ДЗІК [САДО'К]**. 'Сетка для змяшчэння злоўленай рыбы, якая знаходзіцца ў вадзе'. Садзік – сетка, якая апускаецца з рыбай у раку, кап не псавалася злоўленая рыба [Дакудава Лід.; СПЗБ, т. 4, с. 344]; В сатку рыбу жывую дзержат [Прэдэ Даўг.; СПЗБ, т. 4, с. 344].

**СА'ЖАЛКА, [СА'ЖОЛКА, СА'ЖАЎКА, СА'ДЖАЛКА, СА'ДЖАЎКА, СА'ДЖОВКА, СА'ДЗЯЎКА]**. 'Сажалка'. Сажалку выкапваюць на рыбу [Быстрыца Астр.]. Сажаўка ў нас [Новікі Гродз.]. Саджаўку выкапалі [Альхоўцы Лях.]. Саджалка е ў нас [Навасёлкі Свісл.; СПЗБ, т. 4, с. 346]; У гэтай саджалцэ ёсць карасі [Ісачкава Аз.; Каспяровіч, с. 274].

**САЗА'Н**. 'Рыба сазан'. Сазан – чорна рыба, хішчны сазан [Валеўка Навагр.]. Сазан пахож на карпа, сладкі, пах, як у парніковага агурца [Месянцы Брасл.; СПЗБ, т. 4, с. 347].

**САК [САЧО'К], СО'МЕЦЬ [СО'МЦІК]**. 'Прылада для лоўлі рыбы ў канавах: конусападобны сеткавы мяшок, нацягнуты на драўляны каркас'. У саку горлачка лішняя. Плотка болі пападаіцца ў сак [Пераброддзе Мёр.]. У якоя возіра лавіць пойдзіці з саком? [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 253]; [сак]. 'Прылада для лоўлі рыбы' [Баханькоў, с. 224]; Саком добро ў рэчцы чэрпаць [Ульянавічы Сен.; Каспяровіч, с. 274]; Сак рабіўся з сеткі і душка, а тады палка доўгая [Вузла Мядз.] Нада здзелаць сак, у ім дуга, палка і сетка [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 4, с. 349]; Паўлюк пайшоў рыбу лавіць сакам [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 251]; [сачок]. 'Сеткавы чарпак на доўгай ручцы для выбірання рыбы з невада і іншых мэт' [Баханькоў, с. 224]; Рыба ідзе ў прадуху, бяры сачок і лаві за ноч [Валеўка Навагр.]. Сачок дзелаюць з дугі, палкі і сеткі [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 4, с. 377]; Сомець, як сетка: каблук, чаранок да каблука, дзяржыць за чаранок і заганяе боўцем [Парэчча Гродз.; СПЗБ, т. 4, с. 520]; Сомцік, як бучка, вязаны, сомцікам чэрпаям малую рыбу [Стральцы Гродз.; СПЗБ, т. 4, с. 520]; У чаратах паставиў сомець, налапаў сомцям цело вядро рыбы [Касцянева Шчуч.; Сцяшковіч, с. 447].

**САЛАКІ'**. 'Назва азёрнай рыбы сярэдніх памераў'. Салакоў многа ў нашых азірах [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 253].

**СЕ'ТКА²**, **БАЎЦЯ'К**, **ДРЫГАВІ'ЦА**, **СВІРО'ЎКА**. 'Прылада для лоўлі рыбы, зробленая з сеткавага палатна'. Бывала, рабілі сеткі рыбу лавіць [Груздава Паст.]. Сеткі вязалі з ляных нітак [Альхоўка Навагр.; СПЗБ, т. 4, с. 417]; Сеткі ставілі. Самадзялковыі робілі сеткі [Янова Мёр.]. Улоў быў нічога з сеткый [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 254]; Трыгубіца была: палатно з бакоў, сетка была [Чуркі Ашм.; СПЗБ, т. 4, с. 417]; [сетка]. 'Рыбалоўная трохсценная сетка' [Крывіцкі, с. 172]; Колі набудзеш добрую сетку, лічы, што і рыбалоў з цебе вуйдзе [Белайчук, с. 230]; [сетка]. 'Рыбалоўная трохсценная снасць, якая расцягваецца на месцах пераходу рыбы' [Баханькоў, с. 224]; [сетка]. 'Рыбалоўная трохсценная сетка' [Крывіцкі, с. 172]; Баўцяком добра лавіць рыбу [Кузьміно Сен.; Каспяровіч, с. 36]; [дрыгавіца]. 'Тое, што і *сетка¹*' [Крывіцкі, с. 167]; [свіроўка]. 'Тое, што і *сетка¹*' [Крывіцкі, с. 172].

**СЕ'ЖА²**. 'Від стаўной лавушкі на рэках у выглядзе сеткавага мяшка з крылом і прывязаным да яго шнурам, за які трымаецца рыбалоў, седзячы на беразе, каб пачуць торганне, якое азначае, што рыбіна трапіла ў лавушку'. Сежа такая сетка. На рацэ ставіцца. Іна ў відзі мішка, як хвост мярожы. Забіта калок ілі на каліні. А тут крыло. Шнур зачапіўшы. І сядзіць на бірагу і дзяржыць у руках гэтат шнур. Рыба йдзець у мяшок, ен чуіць, тады цягніць [Пераброддзе Мёр.; Крыўко, с. 253].

**СЕТНО', СЕ'ТІШЧЭ, СЕ'ТКА [СЕЦЬ], ЦЕ'НЕТО, ПАЛАТНО, ПОЛОТНО', ПЫЛАТНО'**. 'Сеткавае палатно'. [Сетно]. 'Дробнаячэістае палатно для рыбных сетак' [Крывіцкі, с. 173]; Ценето колі порвецца, то зашываюць вілочкамі [Белайчук, с. 230]; [ценето]. 'Дробнаячэістае палатно для рыбалоўных сетак' [Крывіцкі, с. 171]; [полотно]. 'Тое, што і *ценето*' [Крывіцкі, с. 172]; [сетка, сець, палатно, пылатно]. 'Сеткавае палатно' [ЛАБНГ, с. 134].

**СІБЕ'ЛЬ, СІЛЯ'ВА [СЯЛЯ'ВА¹, СІЛЯ'ЎКА]**. 'Рыба сялява'. Сібель – рыбка як сялёдачка, точна камса [Бывалькі Лоеў.; ДСЛ, с. 324]; Сібель, яна бальшая ні расце. Пашоў налавіў сібялёў [Лапічы Асіп.; СПЗБ, т. 4, с. 421]; Сілява – рыба, водзіцца ў возяры [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 4, с. 426]; Сіляўка поверху ходзіць, яна саўсем худая [Збляны Лід.; СПЗБ, т. 4, с. 426]; Сялява – рыба такая [Малькуны Ігн.; СПЗБ, т. 4, с. 426].

**СІК**. 'Лічынкі ўюноў'. Сік – лічынкі ўюноў, як карандашы, ловяць шчук, акуней, галаўня [Ухвала Круп.; СПЗБ. т. 4, с. 424].

**СКА'ЛКА [СКА'ЛЬКА]**. 'Вид рыболовной сети'. Я пайшоў бы рыбу лавіць, але скалькі няма [Зямцы Сір.; Каспяровіч, с. 281].

**СЛЮДА'**. 'Жылка для вуды'. На плотку тонка трэ слюда [Пагост Жытк.; ТС, т.5, с. 58].

**СНАСЦЬ, СТА'ТКІ, СТРУМЕ'НТ, ЗАПА'С**. 'Прылады рыбнай лоўлі'. [Снасць]. 'Тое, што і *статкі*' [Крывіцкі, с. 172]; Мае рыбацкіі снасці пад страхой вун [Пераброддзе Мёр.]. Ужо я дужа стары, ні лаўлю, усе снасці паскладаў [Янова Мёр.; Крыўко, с. 254]; Ні лаўлю цяпер рыбы, запасу ніякага німа [Баханькоў, с. 221]; [струмент]. 'Тое, што і *статкі*' [Крывіцкі, с. 168].

**СНО'ПУРХА, [СНЕ'ПУРКА, СО'ПУРКА], СЕ'ЧКА, ШЧЫ'ПАВКА**. 'Рыба галец, шчыпоўка'. [Снопурха, снепурха сопурка]. 'Галец і шчыпоўка'

[Крывіцкі, с. 172]; [шчыпавка]. 'Шчыпоўка' [Крывіцкі, с. 173]; Сечка так укусіць, то печэ [Дварэц Жытк.; ТС, т. 5, с. 32].

**СОМ [СОМО'К, СОМЕНЯ', СО'МІК], САМО'ШЫШЧА, САМІ'ШЧА, ЧАРНАКО'Л**. 'Рыба сом'. У сома чатыры вялікіх і чатыры маленькіх вусэ [Валеўка Навагр.]. Самы былі забіўшы (лунку) [Завельцы Астр.; СПЗБ, т. 4, с. 520]; Глядзі, і мальцы сама ўлавіўшы [Янова Мёр.]. Сама есць у азёрах многа [Н. Сяло Мёр.]. У Дзвіне самы водзюцца [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 254]; Само сому лоўляць, ек бліскае [Бярэжцы Жытк.; ТС, т. 5, с. 72]; Вось дзе смашна рыба сом, дэ штось мало яна ловіцца [Белайчук, с. 228]; [сом, сомок]. 'Сом' [Крывіцкі, с. 172]; Сомкі беруцца небольшые [Луткі Стол.; ТС, т. 5, с. 72]; [соменя]. 'Невялікі сом' [Альшаны Стол.; ТС, т. 5, с. 72]; [сомік]. 'Сом' [Крывіцкі, с. 172]; [чарнакол]. 'Сомік' [Крывіцкі, с. 173]; [самочышча, самішча]. 'Сом' [Яшкін, с. 122].

**СПІ'НІНГ [ШПІ'НІНГ]**. 'Спінінг, кручковая рыбалоўная прылада для лоўлі драпежных рыб'. Мы ў Дзвіне на спінінх ловім [Цімошкава Мёр.; Крыўко, с. 254]; Федзя на шпінінх ловіць рыбу ў Язніцы [Манякова Мёр.; Крыўко, с. 256].

**СТАРО'ЖНЯ [ПО'СТАРАЖНЯ], ПАСТАЎНЯ'**. 'Рыбацкая прылада – вудачка, наматаная на рагульку (вілачку)'. Усе адно – пастаўня ці старожня [Янкоўскі-1, с. 174]; Постаражня – снасць лавіць шчупакоў, як вуда, толькі таўшчэйшая [Альхоўцы Лях.; СПЗБ, т. 4, с. 55]; Пастаўню днём ні стаў, – на ноч [Янкоўскі-1, с. 142].

**СТО'РОЖ[1]**. 'Нацягнуты шнурок у рыбалоўнай прыладзе, які сігналізуе аб наяўнасці рыбы'. Стораж дзержыш у руцэ і вон показвае, шо рыба е [Запясочча Жытк.; ТС, т. 5, с. 100].

**СТО'РОЖ[2]**. 'Стаўная вуда на шчупакоў' [Луткі Стол.; ТС, т. 5, с. 100].

**СТРЭ'ЛКА**. 'Прамая сеткавая сценка, якая злучае кулькі мярэжы і скіроўвае ў іх рыбу' [Баханькоў, с. 224].

**СТУ'БЛО**. 'Невялікі вадаём'. Коло нашого сыла е нывылыке стубло [Вулька Дастоеўская Іван.; ДСБ, с. 219].

**СТЫ'НКА [СТЫ'НЬКА]**. 'Назва азёрнай рыбы невялікага памеру і сіняватага адцення (корушка)'. Стынка – сінінькая малая рыбка [Перабродзе Мёр.]. Стынка водзіцца ў Самоўцы, і ў Налінцы, і ў другіх азірах. Я з мальцам стынак налавіўшы, ёсць нескулькі і ўклеік, а болі пасці ніякый і нет [Н. Сяло Мёр.; Крыўко, с. 254]; Стынка – рыба такая, у ёй ніякай костачкі німа [Рагулішкі Даўг.]. Стынька ест у нашай рэчцы [Сапоцкіна Гродз.; СПЗБ, т. 5, с. 6]; Стынкі налавіў [Іванск Чаш.; Каспяровіч, с. 295].

**СУДА'К [ЦУДА'К]**. 'Рыба судак'. Судак шэршаву, ек окунь, але большы і светлейшы і голова, ек у остромусіка [Пагост Жытк.; ТС, т. 5, с. 114]; Судак – самая лепшая рыба, пахож на шчуку, толькі святлейшы [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 5, с. 10]; [судак]. 'Судак' [Крывіцкі, с. 173]; [судак]. 'Судак рачны' [Баханькоў, с. 224]; Судакі ў Дзвіне ёсь [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 254]; Цудак тожа ёсць у нашых азірах. Цудак дужа добрая рыба [Янова Мёр.; Крыўко, с. 255].

**СЦЕ'РЛІК, СТЭ'РНЯ**. 'Рыба сцерлядзь'. Сцерлікаў прынёс сегодні мой сын [Крупейкі Лоеў.; ДСЛ, с. 348]; Стэрня не наша рыба, заплуўна [Пагост Жытк.; ТС, т. 5, с. 114].

**СЦЯБЛО'**. 'Рыбалоўная прылада'. Падай мне сцебло, ено лежыць на хаце, пайду мо рыбкі злаўлю [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 349].

**СЯЛЯ'ВА²**. 'Ракушка'. Сяляву злавіў [Маркаўшчына Віц.; Каспяровіч, с. 305].

**ТАПТА'ЦЬ**. 'Заганяць (рыбу) у сак, боўтаючы нагамі па водарасляхʼ. Натаптаў цэлую міску іжгуроў [Баханькоў, с. 224].

**ТАПТУ'ХА [ТАПТУ'Н, ТАПУ'Н, ТО'ПЕНЬ, ТОПТУ'ХА, ТОПЧА'НКА, ТУ'ПОЛО], КОШЫ'ЦА, НЕ'НЬКА**. 'Рыбацкая прылада, сплеценая з лазы'. Таптуха – дзве палкі і сетка, нагамі тапталі і заганялі рыбу [Мыто Лід.; СПЗБ, т. 5, с. 87]; У таптуху налавіў уюноў [Лядцо Пух.; Шатэрнік, с. 276]; Пойдзем лавіць рыбу таптуном [Храпавічы Куз.; Каспяровіч, с. 308]; Тут патсака ні гадзіцца, каб топень, то ўюна б узяў [Янкоўскі-1, с. 182]; Топень усодзіць у воду, нагой патопае – і рыба [Пасека Ст.-Дар.; СПЗБ, т. 5, с. 106]; Нашлапіш ту топтуху, туды зверху руку да мацаеш, ці е рыбіна [Пагост Жытк.; ТС, т. 5, с. 144]; Топтуха наша нешто ўжэ поломалася, старая стала [Белайчук, с. 230]; [топтуха]. 'Тое, што і *кошыца*' [Крывіцкі, с. 173]; [топчанка]. 'Родъ рыболовнаго снаряда, который втаптываютъ въ грязь для ловли вьюновъ' [СБМН, с. 636]; [туполо]. 'Від рыбалоўнай снасці' [Бярэжцы Жытк.; ТС, т. 5, с. 164]; [кошыца]. 'Рыбалоўная рухомая лавушка з адным адкрытым заходам (звычайна лазовая)' [Крывіцкі, с. 169]; [ненька]. 'Тое, што і *кошыца*' [Крывіцкі, с. 170].

**ТОНЬ¹, ТО'ПЕНЬ [ТО'ПІНЬ]**. 'Месца, дзе можна закінуць невад, тоня'. Тоню залажылі скажуць. Тонь – апрадзілённая места, дзе закідываіш невад [ПерабродДзе Мёр.]. [Топень, топінь]. 'Тое, што і *тонь*' [Бухалава Мёр.; Крыўко, с. 254].

**ТОНЬ²**. 'Вялікі невад'. Тонь – большая сетка [Старыя Трокі Трак.; СПЗБ, т. 5, с. 105].

**ТОНЬ³**. 'Частка вуды, лескі'. Тонь – удачкі кусок, лескі [Жылі Іўеў.; СПЗБ, т. 5, с. 105].

**ТРАЙНІ'К**. 'Вялікі кручок на тры зубы ў выглядзе якара, які прымацоўваецца да матыркі'. Трайнік нажыўляіцца дробнай рыбай, курынымі кішкамі, курыным мясам [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 254].

**ТРАН**. 'Рыбін тлушч'. Мазаяцца транам [Граўжышкі Ашм.]. Транам мажаць струпы [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 5, с. 114].

**ТРУ'БАЧКА [ТРУ'БКА]**. 'Выдзеўбаная з асіны лодка'. Трубачка з асіны робіцца. Біз ніводнага гваздзя. Распараная. Распарываіцца тапаром, шклютом. У трубцы заплывеш на сярэдзіну возіра і ловіш рыбу [Перабродзе Мёр.; Крыўко, с. 254].

**ТРЫГУ'БІЦА [ТРЭГУ'БІЦА, ТРУ'БІЦА]**. 'Сеткавая рухомая прылада, трыгубіца'. Трыгубіцай ловяць рыбу: доўгая, закладаюць у рэчку, па зямлі цягнуць [Солы Смарг.]. Трыгубіца – тры сеткі разам [Альхоўцы Лях.; СПЗБ, т. 5, с. 136]; Мацьвей налавіў у трыгубіцу рыбы [Турэц Сміл.; Шатэрнік, с. 279];

Трубіца да буча падобна. Трубіца, як кошык [Старыя Смільгіні Воран.; СПЗБ, т. 5, с. 128].

**ТЫ'ЧКА**. 'Приспособление из шеста и шнура с крючком для ловли рыбы: шест вбивается в реке в землю'. Поставілі ў рацэ тычку на рыбу [Жораўкі Сміл.; Шатэрнік, с. 282].

**УЖО'Р**. 'Рыбінка, заглынутая драпежнай рыбінай'. У шчукі бальшый ужор [Баханькоў, с. 224].

**УЗЯ'ЦЦА**. 'Зачапіцца на кручок'. Пад вечар два ляшчы ўзялося, а днём ні браліся [Баханькоў, с. 225]; Глядзі, ікая вялікая плотка ўзілася на вуду [Цімошкава Мёр.; Крыўко, с. 255].

**УКЛЕ'ЙНІЦА**. 'Сетка для лоўлі верхаводкі'. Укляю уклейніцамі ловюць [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 5, с. 198].

**УЛО'Ў**. 'Колькасць налоўленага, здабыча'. Улоў быў нічога з сеткый [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 255].

**УШВЕ'ЙКА [УШЛЕ'ЙКА]**. 'Назва дробнай рыбы, блізкай да ўклейкі'. І ушвейкі там ловюцца, і курмялі, і ўклейкі, і другая рыба [Манякова Мёр.]. Скажыш і ушвейка і ушлейка [Бухалава Мёр.; Крыўко, с. 255].

**УЮ'Н [УЮНО'К, В'ЮН, В'ЮНО'К, ВАЮ'Н, ВІЮ'Н, ЮН, ЮНЬ], ПІСКУ'Н [ПІСКУ'Р], СЛІЖ [СЛІ'ЖЫК]**. 'Рыба ўюн'. Я многа ўюноў нылавіў у етый грязі; вон, знаць, адзін уюн яшчэ шаволіцца там [Арцёмаўка Міласл.; КСУМ, с. 468]; Скураю ўюна лечаць [Заронава Куз.; Каспяровіч, с. 325]; Уюн падобен да ужа. Уюн жывушчы, пасып на яго солі – ён скача і пішчыць [Парэчча Гродз.]. Уюны вядуцца ў гразі [Кузьмічы Люб.; СПЗБ, т. 5, с. 257]; Уюноў то тут до холеры было [Велямічы Стол.]. Уся постаць у его, як у рыбы, во ўюна [Луткі Стол.]. В'юн – то двадцатое поколенье вужа (вераванне) [Бярэжцы Жытк.; ТС, т. 5, с. 225]; [в'юн, в'юнок, уюн, уюнок]. 'В'юн' [Крывіцкі, с. 166]; Смошненна ето рыба вьюн, дэ мало ее водзіцца ў нашай Муцьві [Белайчук, с. 227]; Я гэтых в'юноў гаджуся есьці [Мікалаеўшчына Стаўб.; СЦГ, с. 78]; Ваюн закапаўся ў пясок [Падбярэззе Віц.; Каспяровіч, с. 55]; Ваюн – рыпка невялікая, рабая, як гадзюка [Папоўка Мядз.; СЦГ, с. 57]; Віюн – рыба такая. Налавіў віюноў [Чычалі Швянч.]. В'юны цёмныя і многа меншэ за піскуна [Лісна В.-Дзв.]. Наловыв юныв, можэ, с поввыдра, а быльш ныякыі рыбы ны було [Сіманавічы Драг.; СПЗБ, т. 1, с. 318]; Юнь у багнах водзіцца. Юнь – як п'яўка, толькі галава большая [Сапоцкіна Гродз.; СПЗБ, т. 5, с. 541]; Піскуны пішчаць над карчамі [Пераброддзе Мёр.]. Мы сягоння болі піскуноў налавіўшы [Янова Мёр.]. Піскуноў многа мы лавіўшы [Н. Сяло Мёр.]. Піскуны такіі вёрткіі [Туркова Мёр.; Крыўко, с. 252]; Піскун – круглы, да змяі падобны [Ахрэмаўцы Брасл.]. Злавілі піскуна, рыба такая, яна, праўда, пішчыць [Палік Барыс.; СПЗБ, т. 3, с. 523]; [піскун]. 'Уюн' [Баханькоў, с. 223]; Піскур дліны, тонкі [Вострава Маст.; СПЗБ, т. 3, с. 523]; На нашай речцы водзяцца пискуре, пискур натто гижушчы [Бершты Шчуч.; Сцяшковіч, с. 359]; [уюн, віюн, ваюн, юн, піскун, піскур, сліж, сліжык]. 'Рыба Misgurnus fossilis L.' [ЛАБНГ, с. 130].

**ФАРЭ'ЛЬ, ВАНСА'Ч, [ПСТРО'НГА, СТРОНГ, СТРОНК]**. 'Рыба стронга (фарэль)'. Фарэль любіць чыстыя рэчкі [Месянцы Брасл.; СПЗБ, т. 5,

**ДУПЛЁ'НКА [ДУПЛЯ'НКА[3]]**. 'Дзежачка для мёду'. У дуплёнцы стаіць мёт [Саланое Віл.]. У дуплянкі мёт з вашчынамі складалі [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 208]; Дуплянка мы называям пасудзіну для трымання мёду пад рукой [Забалоцце Смал.; СЦГ, с. 126].

**ДЫМА'Р [ДЫМА'РЬ, ДЫМА'РКА, ДЫМЛЯ'РКА, ДЫМЯ'РКА, ДЫМАДЫ'ШКА, ДЫМАКУ'Р, ДЫМАКУ'РКА, ДЫМО'ЎКА, ДЫ'МКА, ДЫМА'К], КУРАДЫ'МАЧКА [КУРАДЫ'МКА, КУРО'ДЫМ, КУРАДЫ'М], КУ'РНІК, КУРЫ'ЛА [КУРЫ'ЛКА], КУРЭ'НЬ[1] [КУРЭ'ЛЬ, КУРА'Ч], ПАДКУ'РАЧ [ПАТКУ'РАЧ], ЧМУ'ХАЛКА**. 'Прылада для абкурвання пчол перад аглядам вулея'. Дымар узяў пчол падкурваць [Глівін Барыс.]. У дымар закладваюць гніллё трухлявая і падкурваюць [Шкаўна Лудз.; СПЗБ, т. 2, с. 112]; Ну і зямец с цябе, пакуль дымарь распаліш, дык і рой уцячэ [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 243]; Дымарка – для падкурвання пчол [Ухвала Круп.]. Дымярка – пчол падкурваць [Мсцібава Ваўк.; СПЗБ, т. 2, с. 112]; Хацеў ужо сёня пайсци да пчол, але не знайшоў дымлярку [Шчанец Шчуч.; Сцяшковіч, с. 135]; Як задымлю дымадышкай, дык пчолы, як сонныя [Малмыгі Віл.; СЦГ, с. 127]; Дымакур – пчол адганяць [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 112]; Нясі дымакур, а то пчолы зыкусалі [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 243]; Я яшчэ малы быў, але помню, вельмі любіў мёд. А тады мёд быў ого які смачны, бо ўволю яго не было. Я, помню, узяў дымакур, налажыў шчэпак і парашыў сам дастаць мёду з вульля [Беларучы Лаг.; ММГ, с. 44]; [дымакур]. 'Дымар' [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 208]; Дымакур купляюць, але ў мяне самадзелкавы [Бясяды Лаг.; СЦГ, с. 127]; Аграбалі ў лупку рой – гнілякоў насыпаюць у кацялок, а цяпер дымакурка, яна фук-фук – і дыміць [Малькуны Ігн.; СПЗБ, т. 2, с. 112]; Даўней людзі не баяліся пчол, нейкія былі трывушчыя. Гэтых дымовак ніхто ні ведаў [Пруды Стаўб.; СЦГ, с. 128]; Рой выйшаў! Палі хутчэй дымку! [Баяры Маладз.; СЦГ, с. 128]; Я ніколі дымака ні бяру, пчолы мяне знаюць [Баяры Маладз.; СЦГ, с. 127]; Курадымачкай кураць пчол [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 211]; Курадымка з бляхі пчолы падкураваць [Прудава Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 576]; Куродым раней рабілі с парцянак, с старога палатна і паткуравалі пчол, бяростай апкручвалі, кап не пускала быстра гарэць [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 2, с. 582]; Узяў куродым, пайду да вулея: первае раеньне, нада паткурыць, кап пчолкі ні ўцяклі [Мікалаеўшчына Стаўб.; СЦГ, с. 207]; Ложаць патруху ў сярэдзину курника, патпальваюць и кураць пчол [Сонічы Гродз.; Сцяшковіч, с. 227]; Курылка – што пчол паткурваць, туды кладзецца парахня, дым з яе ідзець [Валынцы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 2, с. 585]; Курэнь – курадымка [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 587]; Падкурач у мяне свой стаіць у хаце [Пруды Стаўб.; СЦГ, с. 262]; Паткурач – ім укурвалі пчол парахнёй [Бакшты Іўеў.]. Паткурач – пчол паткурваць [Мсцібава Ваўк.; СПЗБ, т. 3, с. 310]; [чмухалка]. 'Дымарь' [ПТП, с. 364]; [курэнь, курэль, курач, падкурач, курыла, куродым, дымар, дымакур]. 'Прылада для абкурвання пчол' [ЛАБНГ, с. 128].

**ЖЫНЬ, ЛА'ЗІВА [ЛЕ'ЗВА, ЛЕ'ЗІВО], ЛЯЖО'ЙКА, ПЛЕЦЬ[1]**. 'Прыстасаванне з вяровак для ўзнімання пчаляра на дрэва'. Колысь булы жэні, булы колоды з пчоламы [Хаціслаў Малар.; ДСБ, с. 67]; [лазіва]. Вяроўка, пры

дапамозе якой пчаляры лазілі на дрэва [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 211]; Лазіва – плецьь, па якой лезлі на дрэва, вяроўка, па якой лазілі на дрэва. Лазіва – лазіць на дрэва, плець і седзелка называюць лазіва [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 2, с. 610]; Бортнік лез на дзерава, лезва было. Лезва з канапель ці з лёну, апасаецца бортнік і лезе на борць, даўбе борці [Парэчча Гродз.; СПЗБ, т. 2, с. 639]; Лезіво – така дошчэчка з дзіркамі і вороўка доўга, кіне ее за сук, вороўку цягне і сам себе цягне [Мачуль Стол.; ТС, т. 3, с. 19]; Плець перакладваецца ў ляжойку, там дзеравянны кручок для ходу плеці [Ухвала Круп.; СПЗБ, т. 2, с. 713]; Была длінная плець, зямец зачэпіць за сука, а другі канец бярэ і цягне і лезе на дрэва, плець плялі з пяці канацікаў пяньковых [Азяраны Раг., Малыя Аўцюкі Калінк.; Мацкевіч, с. 214]; [плець]. 'Вяроўка, пры дапамозе якой пчаляры лазілі на дрэва' [Цімашкова, с. 246].

**ЗАБІ'ЦЬ**. 'Запоўніць (ячэйкі пяргой)'. Як заб'юць пчолы ячэйкі пяргой, засохня, тады рямку выкідай [Цімашкова, с. 243].

**ЗАКРО'П ДАВА'ЦЬ, КРАПІ'ЦЬ**. 'Крапіць вулей пахучай вадой'. Закроп даюць з малінавага цьвету, кап селі пчолы [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 209]; Да ліпы прывязвалі улей і прынадай крапілі [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 211].

**ЗАКРО'П, КРОПІ'ЛО, МАЛІ'ЗА, НА'ПЫРСК, ПРІМА'НКА, ПРЫВА'БА, ПРЫНА'ДА, ПРЫТВО'Р, ТВО'РБА [ТВОРБА']**. 'Прыманка з пахучай травы ці мёду, настой для апырсквання вулляў для прываблівання пчол'. Закроп даюць, кап селі пшчолы; запах з малінавага цвету, выціраюць сценкі улья [Граўжышкі Ашм.; СПЗБ, т. 2, с. 220]; Трэба попрыхаць по вулью кропілом [Хотамель Стол.]. Далі некого кропіла од жукоў [Бярэжцы Жытк.; ТС, т. 2, с. 235]; [маліза]. 'Пахучая трава, якой націраюць вулей у сярэдзіне і зверху' [Старыя Смільгіні Воран.; Мацкевіч, с. 212]; Хто нальле напырск у бутылку і ставя ў муравейнік, мурашкі налезуць туды, дык ён станя кісьлінькій [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245]; Напырск – прыманка для іску пчол [СПЗБ, т. 3, с. 171]; Прынясі ў вядзёрца напырск рой апырскаць [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 170]; [пріманка]. 'Мядовы раствор, розныя пахучыя расліны, якімі націраюць або абпырскваюць вулей для прываблівання пчол' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246]; Для прывабы пчол уляй шмаруюць мёдам [Мсцібава Ваўк.]. Прываба – пахучая трава ці мёт, які клалі ў вулей для прываблівання пчол [Вялікія Нястанавічы Лаг.; СПЗБ, т. 4, с. 124]; Прынадай крапілі вулей [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 215]; [прытвор]. 'Прыманка для пчол у пустым вуллі'[В. Малешава Стол.; ТС, т. 4, с. 257]; Творба – гэто ягода з крухі, вошчына, солодзяць і кропяць колодку [Аздамічы Стол.]. Вучаўкі з меду перэварваеш да варыш творбу для вулея [Цераблічы Стол.; ТС, т. 5, с. 136].

**ЗАКУПО'РЫЦЬ, ЗАСКЛЕ'ПІЦЬ [ЗАСКЛЯПІ'ЦЬ, ЗАСКЛЕ'ПЛЮВАЦЬ, СКЛЯПІ'ЦЬ], КРЫЦЬ, ЗАПЭЧА'ТВАТ' [ПІЧА'ТЫЦЬ], ЗЫПІЧА'ТЫЦЬ**. 'Закрываць запоўненыя мёдам соты'. Пчолы закупорылі чэр [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 209]; Пчолы засклеплюююць мёд, як поўныя чарачкі [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 209]; А як у рамкі засклепіць, ён выпараўшы і можа стаяць [Быстрыца Астр.]. Пчолы заскляпілі рамкі [Малахоўцы Бар.; СПЗБ, т. 2, с. 252]; Пчолы пачынаюць скляпіць мёт [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 4, с. 453]; Вірясовый мёд пчолы, ня крыюць, ён

густэй [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; Мэд пчолы запэчатвајут', трэба зризаты да выкачуваты [ПТП, с. 332]; Зыкладзіныя матышнікі пчолы зыліваюць мылачком і пічатыюць. Вірясовый мёд пчолы ні пічатыюць, ён густэй [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246]; Пчолы пэчатај'ут' мэд [ПТП, с. 348].

**ЗАЛЕ'ПАНКА**. 'Пчаліныя ячэйкі з мёдам у трысцінках'. У залепанцы мед е, вон у чэрэціні і залеплены землей, а ў серэдзіні подзелены на колодочкі, і там е чэрвячок маленькі [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 2, с. 104].

**ЗАЛЕ'ПВАЦЬ**. 'Залепліваць'. Залепвае воском дзірку пчола [Сямігосцічы Стол.; ТС, т. 2, с. 104].

**ЗАНА'ДА, ПАДКАРМЯ'ЧКА [ПАТКАРМЯ'ЧКА, ПАТКО'РМКА]**. 'Падкормка, якую робіць пчаляр для пчол'. Занада для пчол, наварыў, заліў [Масілавічы Сл.; СПЗБ, т. 2, с. 233]; Паткармячка ўжо кончылася, цяпер пчолы сами будуць насиць мёд [Урцішкі Іўеў.; Сцяшковіч, с. 316]; [паткармячка]. 'Падкормка для пчол' [Старыя Смільгіні Воран.; Мацкевіч, с. 214]; [паткормка]. 'Раствор цукру ў выглядзе сіропа для падкармлівання пчол' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246].

**ЗАСКЛЕ'ПЛЕНЫ, ЗАБРУШАВА'НЫ, ЗАЛІ'ТЫ, ЗАКРЫ'ТЫ, [КРЫ'ТЫ], ЗАПЯЧА'ТАНЫ, [ЗАПЕЧА'ТАНЫ, ЗАПІЧА'ТАНЫ, ЗАПЫЧА'ТАНЫ, ЗАПЫЧЯ'ТАНЫ, ЗАПЭЧА'ТАНЫ], ПЯЧА'ТНЫ**. 'Запячатаны ў сотах мёд' [ЛАБНГ, с. 127].

**ЗАСКЛЕ'ПКА [ЗАСКЛЁ'П]**. 'Рамка, запоўненая мёдам'. Гета рамка засклепляна, пчолы ўжо зрабили засклепку [Урцішкі Іўеў.; Сцяшковіч, с. 159]; У рамках поўно мёду – гэто засклёп [Малахоўцы Бар.; СПЗБ, т. 2, с. 252].

**ЗА'СЯДЗЬ, ЗАПЛО'ДА [РАСПЛО'ДА], ЦЭР, ЧА'РА [ЧАРВА', ЧАЎРА', ЧЭ'РА, ЧЭР, ЧЭРВ, ЧЭРФ, ЧЭРЬ]**. 'Лічынкі і кукалкі пчол'. У маіх пшчол мёду мала, адна засяць [Жылі Іўеў.; Мацкевіч, с. 209]; Поставіў у той улей заплоду [Здзітава II Бяроз.; ДСБ, с. 73]; Расплоду кармяць ні адным мёдам, а і сіропам [Опса Брасл.; СПЗБ, т. 4, с. 281]; У гочках цэр матка палажыла, то мёт не ўзліёць [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 5, с. 377]; Матка чарыць, чары многа [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 5, с. 404]; Поўна рамка чарвы [Міратычы Кар.]. Чэрв [Старыя Смільгіні Воран.; Мацкевіч., с. 217]; Чарва ва ўсіх вульлях [Лісна В.-Дзв.]. Чарву матка чарвіць [Бакшты Іўеў.]. Поўна рамка чарвы [Міратычы Кар.; СПЗБ, т. 5, с. 407]; Чаўры многа ў рамках [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 5, с. 418]; Чэра – чарвячок, з яго пшчала палучаяцца [Жодзішкі Смарг.]. Тры рамкі чэры стаіць [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 5, с. 447]; Дзелая соты, закладая чэр [Азяраны Раг.]. Чэр закладаць [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 5, с. 447]; Матка ў соты закладая чэр [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 217]; Чэр у етай калодзі дужа ладная [Лужасна Куз.; Каспяровіч, с. 344]; Чэрв – вусень пчол [Старыя Смільгіні Воран.]. Чэрф залажыўшы пшчолы [Гемзы Шальч.; СПЗБ, т. 5, с. 448]; [чэрь]. 'Адкладзеныя ў соты яечкі, з якіх выводзяцца лічынкі пчол' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 248].

**ЗАШЫ'ЦЬ**. 'Уцяпліць вулей'. Вуллі на зіму зашываюць ад севера [Хачэнь Жытк.; Станкевіч, с. 284].

**ЗВІ'ЦЦА**. 'Сабрацца клубком (пра пчол рой)'. Звіўса на ём, на ёго голове рой [Цераблічы Стол.; ТС, т. 2, с. 141]; Рой высыпаў і звіўся на дрэве [Рыбчына Віл.; Мацкевіч, с. 209].

**ЗРАІ'ЦЦА**. 'Аслабнуць у выніку шматразовага раення (пра пчаліную сям'ю)'. [Зраіцца]. 'Зменшыцца, аслабнуць у выніку шматразовага раення' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 243]; Пчолы зраіліся, слабая сям'я [Старыя Смільгіні Воран.; СПЗБ, т. 2, с. 325]; Мае пшчолы зраіліся, слабыя, мёду не нанасілі [Старыя Смільгіні Воран.; Мацкевіч, с. 209].

**ЗУ'БЯЛЬ [ЗУ'БЕЛЬ, ЗУ'БЭЛ', ЗУ'БЛЕНІЦА, ЗУБЛЯ'НКА]**. 'Дымар у выглядзе рагацінкі, якім падкурваюць пчол'. З гнілога дзерава рабілі зубяль, яго запаляць, ён курыцца, яго бяруць ік воку і дымяць [Мацкевіч, с. 209]; Колыс' дымаров нэ було, а запал'увалы зубле [ПТП, с. 333]. [зубель, зубэль, зубяль, зубленіца, зублянка]. 'Прылада для абкурвання пчол' [ЛАБНГ, с. 128].

**ЗЫКЛЮЧА'ЦЬ**. 'Адсаджваць і закрываць (матку ў матачніку)'. Матку зловіш у лубцы і ў матышнік зыключаіш [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244].

**ЗЫМО'ВНЫК, ПЧАЛЯ'РНЯ**. 'Спецыяльнае памяшканне для зімовага захавання вулляў'. На зыму пчыл зносять в зымовныкы [Макраны Малар.; ДСБ, с. 80]; Пчалярня – месца куды зносяць вуллі на зіму [Пярэдзелка Лоеў.; ДСЛ, с. 295].

**ЗЫСА'ХЫРІЦЦА, ЗАЦУКРАВА'ЦЦА**. 'Зацукравацца'. Зрелый мёд зысахырiцца, а нязрелый закісьня [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; Зробюцца крупкі і мёд зацукруецца [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 209].

**ЗЬБІЦЬ**. 'Прымусіць (рой) сесці'. Каб рой ні пыляцеў, нада зьбіць вадой ці пяском [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244].

**ЗЯМЕ'ЦКІЙ**. 'Пчалярскі'. Замецкыя прілада нібыгатыя: дымарь, сетка ды нож бальшэй [Гарадок Раснян.; КСУМ, с. 213].

**ІСК [ПО'ІСК, ПО'ЙСК, ПО'ІСКО], РАЗВЕ'ДКА, СКА'ЛЛІ [СКАДЛЯ, СКА'ЛЛЯ, СКА'ЛЯ, СКАЛЬ, СКАЛА' СКЫЛЬЛЯ']**. 'Пчаліная разведка (спецыяльны атрад пчол, які шукае новае месца для рою)'. Перад раеньням пчолы ідуць на іск [Мікалаеўшчына Стаўб.; СЦГ, с. 173]; У пустом вульлі я бачыў іск [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 124]; Іск ідзець [Саланое Віл.]. У гэтай стаўца іск лётаіць [Груздава Паст., Жылі Іўеў.; Мацкевіч, с. 210]; [іск]. 'Пчаліная разведка ў час раення' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; Іск – ішчуць пчолы, ішчуць, дзе ўдабней [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 347]; Дзьве сям'і ня могуць быць у вуллі, яны боруцца – катора катору выгане. Тады матка пакідае вулей, калі іск нойдзе добрае месца. Абычна ў лесе, на старым дзераве з дуплом, любяць гніль, запах [Беларучы Лаг.; ММГ, с. 56]; Воны поіска посылають – нравіцца вулей, сюды ведуць [Старажоўцы Жытк.]. Вулей пускае пойскі [Аздамічы Стол.; ТС, т. 4, с. 127]; Поіско плохое [Запясочча Жытк.; ТС, т. 4, с. 127]; У пчалах ёсць разведка, яны паляцяць у лес [Дзёрнавічы В.-Дзв.]. Пчолы паляцелі на разведку [Мсцібава Ваўк.; СПЗБ, т. 4, с. 249]; [скаллі]. 'Пчаліная разведка' [Малыя Аўцюкі Калінк.; Мацкевіч, с. 216]; З вулля выляцеў скаль, паскалюя и прыляціць [Прывалка Гродз.; Сцяшковіч, с. 433]; Скалля леціць, шукае места, і тады выходіць рой [Пярэдзелка Лоеў.; ДСЛ, с. 325]; Каля

дупля скаль летае [Навасёлкі Свісл.; Мацкевіч, с. 216]; Бачыш, вжэ скаль прылытіла, хутко і другыі пчолы прылытять [Бабровічы Івац.]. Впэрот пчолы посылають скалю, шоб нашла квэткы [Спорава Бяроз.; ДСБ, с. 204]; Ля вульля скаль скалюе [Янкоўскі-2, с. 160]; Скаль прылятае, пчаліная разветка [Парэчча Гродз.]. Скаль – пчаліна разветка [Навасёлкі Свісл.; СПЗБ, т. 4, с. 437]; Скала – пчолы разветку робяць для роя [Стральцы Гродз.; СПЗБ, т. 4, с. 435]; Скала абляцела вуляй – хутко рой сядзя [ДСЗ, с. 144]; Скыльля места для роя шукая [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; [іск, поіск, скаль, скала, скалля, разведка]. 'Пчолы-разведчыкі пры раенні' [ЛАБНГ, с. 125].

**ІСКАВА'ЦЬ [ІСКЫВА'ЦЬ, ПАІСКАВА'ЦЬ, ПО'ІСКАВАЦЬ, ПАЙСКАВА'ЦЬ, ПОІСКОВА'ЦЬ, ПОЙСКОВА'ЦЬ], СКА'ЛІЦЬ [СКА'ЛЛІЦЬ, СКАЛЯВА'ЦЬ, СКАЛЕВА'ЦЬ, СКАЛО'ВАЦЬ, СКОЛЯВА'ЦЬ, СКЫЛЬЛІВА'ЦЬ]**. 'Ляцець, разведваць, шукаць месца для рою (пра пчол)'. Іскуюць пчолы, скора рой выйдзіць [Саланое Віл.]. Пшчолы іскуюць [Жылі Іўеў.; Мацкевіч, с. 210]; Іскавыя пчолы ідуць да поіску месца, іскуюць, шукаюць [Бакшты Іўеў.]. Пчолы іскуюць – шукаюць доміка [Мярэцкія Глыб.]. Іскуюць пчолы [Рудня Астравітая Чэрв.]. Іскуюць пчолы на рой [Данілавічы Дзярж.; СПЗБ, т. 2, с. 348]; Пайскуюць пчолы [Бакшты Іўеў.; Мацкевіч, с. 214]; Поіскуе вулей, ужэ коло вулья лётаюць пчолы [Бярэжцы Жытк.; ТС, т. 4, с. 127]; Ужо скаліць вуляй, можа скора рой прыляцець [Малыя Аўцюкі Калінк.; Мацкевіч, с. 215]; Ля вульля скаль скалюе [Янкоўскі-2, с. 160]; Ужо полы скалююць, ужо цёпла будзя [Бершты Шчуч.; Сцяшковіч, с. 433]; [скыльліваць]. 'Выдзяляць скальлю ў час раення (пра пчол)' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; [іскаваць, іскываць, скаляваць, паіскаваць, пайскаваць, поіскаваць, скалліць, скаліць, скалеваць, скаловаць, сколяваць]. 'Праводзіць пошукавы палёт' [ЛАБНГ, с. 125].

**ІСКАВЫ'**. 'Пошукавы'. Іскавая пчала ішчэць места сабе [Лісна В.-Дзв.]. Іскавыя пчолы шукаюць места [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 2, с. 348].

**ІСЦІ' НА ЖЫР**. 'Ляцець за ношкай'. Ідуць пчолы на жыр у поле, у лес [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 210].

**КА'ДАЎБ (КАДЛУ'Б, КА'ДАЎБА)**. 'Бочка з калоды (вялікага памеру) для мёду'. Мёт у кадаўбах стаяў [Дзяніскавічы Ганц.]. У калдубы злівалі мёт і муку ссыпалі [Жылі Іўеў.]. Кадаўба пешняй рабілі [Рагачоў; Мацкевіч, с. 210].

**КАЛО'ДА², ПЕНЬ²**. 'Сям'я пчол, адзінка пры лічэнні сем'яў пчол'. У нас было дзве калодзе пчол [Дзяніскавічы Ганц.]. У нас тры калоды пчол было – начоўкамі мед бралі [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 377]; Веля калоткаў у цябе? [Старыя Смільгіні Воран.; Мацкевіч, с. 210]; Тры пні пчол маю [ДСЗ, с. 122].

**КАМСА', МАЛАЧКО' [МЫЛАЧКО', ПЧЭЛІ'НОЕ МОЛОКО'], ПА'ША, ПЕРГА' [ПЯРГА', ПІРГА', ПЭ'РГА], ПЧАЛІ'НЫ ХЛЯБЕ'Ц, [ПЧАЛІ'НЫ, ПШЧАЛІ'НЫ ХЛЕБ, ПЧО'ЛНЫ ХЛЕБ, ПЧО'ЛНЫ ХЛЕП], ПЭ'РФА, СЫТА'**. 'Падкормка, якую робяць пчолы для лічынак'. Камса жоўценькая для корму пчол [Ухвала Круп.; СПЗБ, т. 2, с. 391]; [малачко]. 'Падкормка для лічынак пчол' [Мярэцкія Глыб.; Мацкевіч, с. 212]; Зыкладзіныя матышнікі пчолы зыліваюць мылачком і пічатыюць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245]; Пчэліное молоко соберите [Прэдэ Даўг.; СПЗБ, т. 4, с. 203];

Трэба пакінуць пчалам пашы [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 3, с. 473]; Трэба пакінуць пчалам пашу, палавіну мёду адрэзаць сабе, а палавіну ім на корм [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 214]; Пергой маладых пчол падкармліваюць [Глівін Барыс.]. Перга – маладых пчол карміць [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 3, с. 506]; Пчала пергу збирая па лапках, бяс перги жыць няможа [Сонічы Гродз.; Сцяшковіч, с. 392]; [перга]. 'Падкормка для лічынак пчол' [Бакшты Іўеў., Азяраны Раг., Малыя Аўцюкі Калінк.; Мацкевіч, с. 214]; Як заб'юць пчолы ячэйкі пяргой, тады ўжо рямку выкідай [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246]; Пчаліны хлябец даюць дзятве – пылок такі з цвятоў [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 4, с. 202]; Пчаліны хлеп з верасу бяруць, многа мёду [Альхоўка Навагр.]. Пчалінага хлеба ня відзяў – малачко як быццам такое [Мярэцкія Глыб.; СПЗБ, т. 4, с. 202]; [пчолны хлеб]. 'Падкормка для лічынак пчол' [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 215]; Пчолны хлеп жоўценькі [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 4, с. 202]; Пэрфа кіславата-слаткаватая, пчолы кормяць маладоя пакалення [Навесёлкі Свісл.; СПЗБ, т. 4, с. 211]; [сыта]. 'Раствор мёду або цукру для падкормлівання пчол' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; Пчолы хлябец закладаюць у чарачку [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 216].

**КАРО'БАЧКА [КАРО'БКА, КАРО'ПКА], КАШЭ'ЛЬ, КУ'ЗКА, КО'ЗУБ, КУ'БАР, КАТО'МКА, ЛУ'БКА [ЛУ'ПКА, ЛУБО'К], ПЧАЛЬНІ'ЦА, РАЕ'ЛЬНІК [РАЕ'ЛЬНЯ, РАЁ'ЎКА, РАЁ'ЎНІК, РАЕ'ЎНІЦА, РАЁ'ЎНІЦА, РАЁ'ЎНЯ, РЫІ'ЎНЯ, РАЙНІ'ЦА, РАЙНІ'К, РО'ЙНІК], РЭ'ШАТА, СІВА'ЛКА**. 'Раёўня, прыстасаванне для лоўлі пчалінага рою'. Каробачка здзелана з ліпы, дно прашываецца з палатна, аграбе пчол у каробачку, накрыя скацеркай і завяжа [Азяраны Раг.]. У каробачку пчол збіралі [Рудня Астравітая Чэрв.; Мацкевіч, с. 211]; Была каропка с кары с плеценым дном, як у рэшаце; пчол аграбалі ў каропку [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 2, с. 420]; [каробка]. 'Раёўня' [Малыя Аўцюкі Калінк.; Мацкевіч, с. 211]; Раней з бярёсты кузкі дзелылі і рой агрібалі [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; Раней называлі раёўніца, а цяпер – лупка [Міратычы Кар.; Мацкевіч, с. 212]; У пчальніцу трэба рой абіраць [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 4, с. 202]; У раельнік збіраюць рой [Масілавічы Сл.; СПЗБ, т. 4, с. 243]; З карыны ліповай рабілі раёўку [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 4, с. 243]; [раёўнік]. 'Тое ж, што і *раельнік*' [Мярэцкія Глыб.; СПЗБ, т. 4, с. 243]; З карыны з ліповай рабілі раёўку [Саланое Віл.]. Райніца ёсць пчолы абіраць, як матка пойдзе, і усе за ёю [Мірацічы Кар., Рыбчына Віл., Жылі Іўеў., Старыя Смільгіні Воран., Мярэцкія Глыб., Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 215]; Палоньнікам ці ложкуй бяруць пчол і ў рыяўню ўкідаюць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; Јак пчолы силы, то стр'анув јих уројныц'у [ПТП, с. 355]; Рой збіралі ў раеўніцу [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 4, с. 243]; У раёўню садзілі пчол [Лісна В.-Дзв., Мярэцкія Глыб.; СПЗБ, т. 4, с. 243]; Райнік фінерны з ліпы, дно падаш'ець [Шкаўна Лудз.]. Рой аграбаюць у ройнік [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 4, с. 264]; Рой аграбаюць у ройник, кали патпильнуюць рой [Прывалка Гродз.; Сцяшковіч, с. 414]; [Ройнік]. 'Тое, што і *раельнік*' [Рыбчына Віл.; Мацкевіч, с. 215]; [ройнік]. 'Раёўня' [Аздамічы Стол.; ТС, т. 4, с. 309]; [раёўня, райніца, раельня, раёўка, лубка, лубок, каробка,

козуб, кашэль, рэшата, сівалка, катомка, кубар]. 'Пасудзіна, куды аграбаюць рой' [ЛАБНГ, с. 126].

**КЛЕ'ШЧЫ [КЛЕШЧО'ТКІ], СКАМЫ'**. Д'раўляныя ціскі для выціскання мёду, прасавання воску'. Мёд і воск клешчамі выціскалі [Рыбчына Віл., Азяраны Раг., Старыя Смільгіні Воран., Малыя Аўцюкі Калінк.; Мацкевіч, с. 211]; [клешчы]. 'Ціскі для выціскання воску' [Цімашкова, с. 244]; Клешчоткі бяруць і воск давяць [Глівін Барыс.; СПЗБ, т. 2, с. 475]; Былі скамы, скамамі выціскалі мёт [Бакшты Іўеў.; Мацкевіч, с. 216]; Скамамі выціскалі мёт [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 4, с. 437].

**КЛІН, СУ'МКА**. 'Спецыяльная палатняная сумка для выціскання воску'. [Клін]. 'Палатняная торба ў выглядзе кліна выціскаць воск' [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 211]; У сумку воск кладуць і выціскаюць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247].

**КОРМИ'Л'НИЦА**. 'Кормящая пчела' [ПТП, с. 336].

**КОСЯ'К**. 'Пласт сотаў, які вісіць у вуллі наўскасяк' [Запясочча Жытк.; ТС, т. 2, с. 225].

**КРОМ**. 'Хвоя са спіленай вяршыняй для борцей' [Мачуль Стол.; ТС, т. 2, с. 235].

**КУРА'ЎКА [КУРА'Ч, КУРЫ'ЛА, КУРЭ'ЛЬ, КУРЭ'НЬ], ПАДКУРА'ЧКА [ПАДКУРАЧЫ'], ГНІЛУ'ШКІ**. 'Скручаная ануча, сухое спарахнелае дрэва, якімі падкурвалі пчол'. Даўней кураўкай курылі пшчол [Саланое Віл.]; А патом жалезну кураўку зрабілі курыць пшчол [Старыя Смільгіні Воран.; СПЗБ, т. 2, с. 578]; [кураўка]. 'Прылада абкурваць пчол' [ЛАБНГ, с. 128]; [кураўка]. 'Скручаная ануча, якою падпальвалі і дымілі пчол' [Старыя Смільгіні Воран.; Мацкевіч, с. 211]; Курачом пчолы вуганяём з вулья, ек мед достаём [Кароцічы Стол.; ТС, т. 2, с. 252]; Дзед скручваў вярчом трапку і ішоў падглядаць пчол. Дзед казаў: "Зрабіця курыла!" [Лапічы Асіп.; СПЗБ, т. 2, с. 585]; Курэль запальвалі і падкурвалі пчол [Груздава Паст.]. Альховы пень згніўшы высахніць, запаліш яго, і ён курыў, называлі курэль [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 587]; [курэнь]. 'Сухія гнілушкі, якімі падкурваюць пчол' [Рыбчына Віл.; Мацкевіч, с. 211]; Падкурачку закладваюць у дымар, падпальваюць і дымяць [Пруды Стаўб.; СЦГ, с. 262]; Паткурачы – гнілыя такія аскабалкі, іх распальваюць і паткурваюць пчол, дастаюць мёд [Пруды Стаўб.; СЦГ, с. 262]; У дымакур гнілушкі кладуць, яны даюць многа дыму [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 243].

**КУРАЦЁ'**. 'Падкурванне'. Даўней ня было кураця, так падглядалі пшчол [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 211].

**КУ'РЫЦЬ [КУРЫ'ЦЬ, КУ'РАЦЬ, КУРИ'ТИ, КУРИ'ТЫ, ПАДКУРЫ'ЦЬ, ПАТКУРЫ'ЦЬ, ПОДКУРЫ́ЦЬ, ПЫТКУРІ'ЦЬ], ДАЦЬ ДЫМКУ'**. 'Падкурыць дымам (пчол)'. Курыць пчол [Валынцы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 2, с. 586]; Курaць пшчол куралём [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 211]; Як падглядаюць пчол, паткурыць трэба [Рыбчына Віл.]. Бралі гнілоя дзерава, парцяначку запаляць, пусцяць дым – і падкураць пчол [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 3, с. 310]; Подкурыць пчол трэба [ЛутKi Стол.]. Воны зноў за рукі кусаюцца, то я зноў подкуру [Дварэц Жытк.; ТС, т. 4, с. 96]; Парцянучку запаліць або

гнілое дзерава і падкурыць [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 214]; Укініш у лубку ложкі дзьве пчол, а тады паткуріш і самі пойдуць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; Я так рой усыпаю: пыстаўлю достычку к лёццы, лубку рызвяжу, рыссцялю абвязку, дам дымку і пашлі ў лётку [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 243].

**КЫТА'ЦЬ**. 'Выкачваць, выдаляць мёд з сотаў з дапамогай медагонкі'. Нада мідагонку ўзяць, будзім мёд кытаць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244].

**ЛА'ДЗЬБІНЫ**. 'Частаванне ў дзень падбору мёду'. Была на ладзьбінах, угашчалі мёдам. [Малыя Аўцюкі Калінк.]. Як падглядаюць пчол і частуюць мёдам, то кажуць, што ў таго сёння ладзьбіны [Саланое Віл., Жылі Іўеў.; Мацкевіч, с. 211].

**ЛАЗБАВА'ЦЬ, ЛА'ЗІЦЬ, ВЫБІРА'ЦЬ [ВУБІРА'ЦЬ, ВЫБІРА'ЦІ], ПАДАБРА'ЦЬ [ПАДБІРА'ЦЬ], ПАДГЛЯДА'ЦЬ [ПАДГЛІДА'ЦЬ, ПЫДГЛІДА'ЦЬ, ПАТГЛІДА'ЦЬ, ПАДГЛЯ'ДАВАЦЬ], ПЕРАГЛЯДА'ЦЬ [ПІРІГЛІДА'ЦЬ, ПРАГЛЯДА'ЦЬ], ПРЫГЛЕ'ДЗЕЦЬ [ПРЫГЛЕДА'ЦЬ], ПАДЛА'ДЗІЦЬ, ПАДЛА'ДЖВАЦЬ, ПАДРАЗА'ЦЬ, ТРАСЦІ', ХАЖА'ТЫ [ХОДЖА'ЦІ]**. 'Даставаць мёд з вулля, пакінуўшы пчолам неабходную колькасць'. Лазбуюць – дастаюць мёт [Жодзішкі Смарг.]. Пчолы лазбавалі [Магуны Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 610]; П а д г л я д а ц ь пчол [Рудня Астравітая Чэрв.]. Будам скора падглядаць пчол [Азяраны Раг., Бакшты Іўеў.]. Ужо пара падглядаць пчол [Рыбчына Віл.]. П а д г л я д а в а ц ь пчол [Азяраны Раг.]. П а д л а д ж в а ц ь пчолы [Рыбчына Віл.]. П а д л а д ж а ц ь пчол [Мярэцкія Глыб.; Мацкевіч, с. 213]; Пчол нада падбіраць [Кураполле Паст.]. Падбіраць мёт [Граўжышкі Ашм.; СПЗБ, т. 3, с. 298]; Нада мідагонку ўзяць, будзім пчол пыдглідаць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246]; Падглядаяш пчол [Рыбчына Віл.]. Пашоў падглядаць пчол [Дзяніскавічы Ганц.]. Падглідаць пчол, а вясною падчышчаць [Ухвала Круп.; СПЗБ, т. 3, с. 304]; Сьцяпан падглядая пчолы [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 187]; [пераглядаць пчол]. 'Рабіць агляд пчол адзін раз у тыдзень' [Рыбчына Віл.; Мацкевіч, с. 214]; Пераглядаць буду пчол кожны тыдзень [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 3, с. 487]; [піріглідаць]. 'Рабіць час ад часу агляд пчол' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246]; Як іх, пчол, праглядаць, так ні дай бох [Крэва Смарг.; СПЗБ, т. 4, с. 71]; Прыгледзець вулья трэба [Альшаны Стол.; ТС, т. 4, с. 238]; Полез на хвою прыгледаць пчол [В. Малешава Стол.; ТС, т. 4, с. 238]; [падглядаць, падладзіць, патглідаць, падглядаваць, падладжваць, выбіраць, вубіраць, выбіраці, лазіць, хажаты, ходжаці, падразаць, лазбаваць, трасці]. 'Збіраць мёд з вулляў' [ЛАБНГ, с. 127].

**ЛА'ЗБЕНЬ [ЛА'ЗЬБЕНЬ, ЛАЗЬБЕ'НЬ, ЛАЗО'БКА, ЛАЗО'БОЧКА, ЛАЗУ'БЕНЬ, ЛАЗУ'БЭНЬ]**. 'Кадачка, выдзеўбаная з ліпавага дрэва, або зробленая з лубу, якая выкарыстоўваецца для збору мёду'. Поўны лазьбень мёду прыдалі [Вербеж Чэрык.; КСУМ, с. 246]; Принесъ целый лазбень меду [СБМН, с. 264]; Лазбень – на мед така коробка з лутка на вуглы, робяць з вечком [Цыхун, с. 195]; Абдзяруць кару з ліпу, шшыюць чатырохкантовы лазбень, вечко ў ім було [Кузьмічы Люб.]. Наброў меду поўный лазбень. Лазбень – драўляная пасуда на мед [Малыя Аўцюкі Калінк.; СПЗБ, т. 2, с. 610];

Лазобку меду продавъ [СБМН, с. 264]; Лазобка поўна мёду [Юркаўка Крыч.]. Высып ты гэтую грачышку ў лазобку [Добрае Мсцісл.; КСУМ, с. 246]; Наліў на зіму лазобку мёду – і спокоін [ДСМ, с. 119]; Лазобочка гарцы въ три [СБМН, с. 264]; А шчэ колысь мэд дэржалы в лазубнэвы [Забалацце Малар.; ДСБ, с. 120]; А шчэ колысь мэд дэржалы ў лазубнэвы [Цыхун, с. 195]; Наброў мёду поўны лазьбень [Малыя Аўцюкі Калінк.; Мацкевіч, с. 212].

**ЛЕ'ЖАНЬ [ЛЕ'ЖЫНЬ, ЛЕЖА'К, ЛІЖА'К, ЛЫЖА'К, ЛЯЖА'К].** ‘Ляжачы калодачны вулей, які ўстанаўліваецца на козлах’. Дуплі находзілі і рабілі лежні, па пяць-шэсць лежняў было [Груздава Паст.; Мацкевіч, с. 212]; [лежынь]. ‘Тое, што і *ліжак*’ [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; [лежак]. ‘Ляжачы вулей, калода’ [Хотамель Стол.; ТС, т. 3, с. 18]; Раней дзелылі і ліжакі, і стыякі [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; Ляжак – калодны вуляй на казлах [Рыбчына Віл.]. Ляжак на козлах ляжаў, а стаяў – борць, барцявы вулей [Пацаўшчына Дзятл.; СПЗБ, т. 2, с. 712]; [ляжак]. ‘Калодачны вулей, які ў верхняй частцы апіраецца на козлы’ [Рудня Астравітая Чэрв., Старыя Смільгіні Воран., Рыбчына Віл., Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 212]; Рамачныя вулеі ў гэтым годзе прадала, няма каму даглядаць. Асталіся ляжакі, ляжаць пад яблынямі ў агародзе [Бясяды Лаг.; СЦГ, с. 219]; Рамачныя вулеі ў гэтым годзе прадала, няма каму даглядаць, асталіся калоды-ляжакі, ляжаць пад яблынямі ў агародзе [Бясяды Лаг.; ММГ, с. 72]; [лежань, лежынь, лежак, ліжак, лыжак]. ‘Ляжачы вулей’ [ЛАБНГ, с. 123].

**ЛЁ'ТКА[1] [ЛЁ'ТАЧКА, ЛЁ'ТВА, ЛЯТВО', ЛЯТО'К, ВЫЛЯТО'К, ПРАЛЁ'Т, УЛЁ'ТКА], ВЕ'КА, ЗАПАТЫ'ЛАК[2] , ВО'КА [О'КО, О'ЧКО].** ‘Спецыяльная адтуліна ў корпусе вулея для ўваходу і выхаду пчол’. У лётку пчолы ляцяць [Мярэцкія Глыб.]. У доміках верхняя і ніжняя лётка [Прэдэ Даўг.; СПЗБ, т. 2, с. 651]; Каб матка ня вылізла з вульля, на лётку ставіцца ряшотка [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; [лётка, лётва, ляток, пралёт, вока, очко]. ‘Ляток у вулей (уваход)’ [ЛАБНГ, с. 125]; [лётка]. ‘Ляток у вуллі’ [Мярэцкія Глыб.; Мацкевіч, с. 212]; Верхняя лётка меншая за ніжнюю [Ваўкалатка Віл.; СЦГ, с. 215]; Стары добра даглядаў пчолак. На зіму абложа пчол картаплянікам, сенам, пакіне аткрытай лётачку, каб дыхаць ім можна было [Бясяды Лаг.; СЦГ, с. 215]; Малая дзірачка, праз якую пчолкі вылятаюць, завецца лётка [Бясяды Лаг.; ММГ, с. 70]; Штосьці пчолы праз верхнюю лётву не вылазяць [Ляхавічы Дзярж.; СЦГ, с. 215]; Шырокае лятво ў вуллі [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 723]; Рой можна ціріз ляток упусціць, а можна крышку зьняць і стряхнуць туды пчол [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; [ляток]. ‘Дзірачка або проразь у вуллі, праз якую вылятаюць пчолы’ [Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 212]; Ляток у вуллі [Бакшты Іўеў.; СПЗБ, т. 2, с. 723]; Выляток зробляны ўнізе вульля, для вылёту пчолак з вульля зробляны [Мікалаеўшчына Стаўб.; СЦГ, с. 72]; Улётка: пчолы ўлятаюць у ўлётку [Малахоўцы Бар.; СПЗБ, т. 5, с. 204]; Века збоку ў калодзі [Саланое Віл.; Мацкевіч, с.207]; [вока]. ‘Ляток у калодачным вуллі’ [Азяраны Раг., Малыя Аўцюкі Калінк.; Мацкевіч, с. 207]; Око – куды пчолы ўлятаюць [Дзяніскавічы Ганц.; СПЗБ, т. 3, с. 259]; Око, куды пчолы улятуюць [Дзяніскавічы Ганц.;

Мацкевіч, с. 213]; У вульлі ест два запатылкі: верхні і ніжні. Праз ніжні запатылак лазяць пчолы [Пруды Стаўб.; СЦГ, с. 151].

**ЛЁ'ТКА**[2]. 'Дошчачка каля лятка вулея для пчол' [Хотамель Стол.; ТС, т. 3, с. 29].

**ЛЁКА'ЛА**. 'Латок, па якім пчолы запаўзаюць у вулей'. Лёкала – латок такі, достачка апшываецца з двух старон палатном, па ім пускаюць пчол у вуляй [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 650].

**ЛІ'НА [ЛІ'НЯ, ЛІ'НКА], ГУЖ, ПЛЕЦЬ**[2] **[ПЛЯЦЁ'НКА], ЦЯЖ**. 'Тоўстая вяроўка, пры дапамозе якой падымаюць вулей на дрэва'. Ліня – гэто тоўста, як канат, і доўга вяроўка, вулье цягаюць на дзераво [Дзяніскавічы Ганц.; Мацкевіч, с. 212]; Вяроўка, которай вулья цягаюць, называюць ліня; гэто тоўста, як канат, вяроўка і доўга! [Дзяніскавічы Ганц.; СПЗБ, т. 2, с. 656]; Лінкі – вяроўкі спецыяльныя паднімаць вулей [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 2, с. 656]; [цяж]. 'Раменная вяроўка, пры дапамозе якой падымалі вуллі' [Хотамель Стол.; ТС, т. 5, с. 285]; [гуж, ліна, плець, пляцёнка]. 'Прыстасаванне для ўзнімання на дрэва' [ЛАБНГ, с. 126].

**ЛІ'ПАЎКА, ЛУ'БКА-МЯДО'ЎКА, СТАВЭ'НЬКА**. 'Бочачка, выдзеўбаная з кавалка дрэва для мёду'. З ліпы выдоўблівалі, даўна мёд злівалі, а не было мёду, то ссыпалі калапні [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 212]; Знаходзілі ліпу з гнілым дуплом, устаўлялі дно ілі рабілі з клёпак з абручамі і дзенца, а зверху закрываць вечка [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 212]; Ставэнька, чылі бочка, была на мьёд [Калясное Міхал.; СПЗБ, т. 4, с. 561].

**ЛІ'ПОЧКА**. 'Невялікая каробка для мёду з ліпавай кары' [Цыхун, с. 195].

**ЛІПО'ВЫ МЁД**. 'Мёд, сабраны з ліпы ў час цвіцення' [Саланое Віл.]. Л і п ц о в ы мёд [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 212].

**МА'ЛЯС**. 'Штучны мёд'. Скіпку хліба намазав малясом [Вулька Дастоеўская Іван.; ДСБ, с. 131].

**МА'НА, НЕКТА'Р [НЭКТА'Р]**. 'Нектар'. Пчала бярэ самыя маны с кветак [Альхоўцы Лях.; СПЗБ, т. 3, с. 29]; Вот, як толькі зачнуць цьвісьці кветкі, так пчолы і сабіраюць нектар [Гілікі Валож.; СЦГ, с. 246]; Нэктар збыраје сэмја [ПТП, с. 344].

**МА'ТАЧНІК**[1] **[МА'ТЭЧНІК, МА'ТЫШНІК**[1]**]**. 'Вялікая ячэя ў сотах, у якой выводзіцца пчаліная матка'. Матачнік – дзя матка выводзіцца [Вялікія Нястанавічы Лаг.]. Пчолы закладаюць матэчнік і матку выводзяць [Мсцібава Ваўк.; СПЗБ, т. 3, с. 42]; Раз матышнікі зыклалі, значыць скора будзя рой атхадзіць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244].

**МА'ТАЧНІК**[2] **[МА'ТАЧНІЦА, МА'ТАШНІК, МА'ТОЧНІК, МА'ТУШНІК, МА'ТЫШНІК**[2]**], КЛЕ'ТОЧКА, НА'КРЫВКА**. 'Прыстасаванне для адсадкі пчалінай маткі пры раенні, зарашэчаная каробачка'. Дзелаюць вялікі матачнік – такая шышка нападобія жолудзя [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 3, с. 42]; У матачнік саджаюць матку, каб затрымаць рой [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 212]; Матачніца – дзе матку саджалі [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 3, с. 42]; Матку заперлі ў маташнік [Лядцо Пух.; Шатэрнік, с. 156]; Оддзеляюць матку от пчол і саджаюць у маточнік [Старажоўцы Жытк.; ТС, т. 3, с. 67]; Матку (пчаліную) у матушнік паставіць у

дзіравянны [Дзёрнавічы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 3, с. 44]; Зловіш у лубцы матку і ў матышнік зыключаіш [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; [клеточка]. 'Приспособление в виде трубки с торцовыми пробками и продухами, служащее для изоляции и транспортировки матки' [ПТП, с. 335]; Накрывка, шо накрываты матку [ПТП, с. 343].

**МА'ТКА**. 'Самка ў пчол, якая адкладвае лічынкі пчол'. Матку поймуць і дзержаць [Старыя Смільгіні Воран.; Мацкевіч, с. 212]; [матка]. 'Самка ў пчол' [Запясочча Жытк.; ТС, т. 3, с. 67]; Біз маткі пчолы жыць не будуць [Дзёрнавічы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 3, с. 42]; С першім роім старая матка ляціць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 244]; Матку поймаць [СБМН, с. 281].

**МАХА'ТЫ**. 'Махая крыльями, регулировать температуру'. А друга партија махајут'' крыл'мы, холод гон'ат', шоб жара нэ проходыла [ПТП, с. 341].

**МЁД [МЁТ, М'ЁТ, МЯДЫ', МЕД]**. 'Мёд'. Ідзём у садок, там дзед мёду нам дасьць [Бяседавічы Хоцім.; КСУМ, с. 263]; Самы лепшы мёт с палявых цвятоў, ліпавы не так [Груздава Паст.]. М'ёт пчолкі бяруць [Беразіно Докш.; СПЗБ, т. 3, с. 64]; Меды булі на бору [Кароцічы Стол.; ТС, т. 3, с. 71]; Вірясовый мёд. Высільковый мёд. Грячнёвый мёд. Крушынный мёд. Ліпывый мёд. Майскій мёд. Свірепкывый мёд [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245]; Водачку пілі, меды елі – ена, баба, роскошная була [Ручаёўка Лоеў.]. П'яць вуллеў у нас, дак столькі меду сей год вукачалі [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 192]; Над мёт няма лепшага лякарства [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 213].

**МЕДАБРА'НЯ**. 'Медазбор'. Пасля пяннаццатаго аўгуста закрываяцца медабраня, трэбо старацца на зіму абяспечыць [Мсцібава Ваўк.; СПЗБ, т. 3, с. 55].

**МЕДАВЫ' [МІДАВЫ', МЕДОВУ'], МЕДОДА'ЙНЫ**. 'Меданосны, багаты на мёд'. Медавая пчала доўга не жывець [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 3, с. 55]; Як перву бабку побачыш жоўценьку, то масляны год будзе, а як чырвону, то медову (прыкмета) [Хачэнь Жытк.]. Медодайны год [Альпень Стол.; ТС, т. 3, с. 71].

**МІТАВІ'ШЧА**. 'Месца, дзе сядзеў рой' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245].

**МІТА'ЦЦА [ЗЬМІТА'ЦЦА]**. 'Высыпаўшы з вулля, садзіцца на што-небудзь (пра рой)'. Як выйдзя рой, пакружыцца і мітаіцца. Рой ны яблынцы зьмітаўся [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245].

**МЫГАЗІ'Н**. 'Скрыня з дадатковымі рамкамі, якая ўстаўляецца ў вулей, калі пчолы запоўняць гнездавыя рамкі'. Калі ўзяткі харошыя, дык пчолы і мыгазін запоўнюць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245].

**МЭДОВИ'ЦА**. 'Пчела, носящая мед' [ПТП, с. 342].

**НА'БОРТЕН'**. 'Колодочный улей, поставленный на дереве в лесу' [ПТП, с. 343].

**НА'КРЫЎКА**. 'Накрыўка'. Карой пакрывалі калодачны вулей – гэта накрыўка [Вялікія Нястанавічы Лаг.; СПЗБ, т. 3, с. 155].

**НАДЫБА'ЦЬ РОЙ**. 'Знайсці ў лесе дупло з роем'. Хто надыбая рой, той можа забраць яго [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 213].

**НАКРЫ'ВЫ**. 'Васковая абалонка, якой пчолы закрываюць соты'. Накрывы на каждая вочка (сота) [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 3, с. 154].

**НАЛІ'ЦЬ**. 'Запоўніць мёдам'. Пры харошым узятку пчолы і ныстаўкі нальлюць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245].

**НАСІ'ЦЬ**. 'Дастаўляць у вулей'. Пчолы мёд носюць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245].

**НАСТА'ВОЧКА**. 'Дадатковыя соты ў вуллі' [Мачуль Стол.; ТС, т. 3, с. 162].

**НАШЧЭБІ'ЦЬ**. 'Уставіць новую вашчыну ў вулей'. Нашчэбіў добро вулья хорошым воском [Мачуль Стол.]. Натыкаў воск, то і нашчэбіў [Мачуль Стол.; ТС, т. 3, с. 176].

**НО'ЖКА [НО'ШКА]**. 'Орган руху пчалы, ножка'. Пчолы ліцяць, на ношках касмаценькіх мядок [Дзёрнавічы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 3, с. 233].

**НЫНАУЗІ'ЦЬ**. 'Прымацаваць наўзу ў калодзе' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245].

**НЯ'НЬКІ, НЯЛЁ'ТНЫЯ ПЧО'ЛЫ**. 'Пчолы, якія выхоўваюць патомства'. Пчолы, якія неразьвітыя насіць мёт, даглядаць, называюцца няньні [Ляхавічы Дзярж.; СЦГ, с. 250]; Нялётныя пчолы кормяць дзетку і вінцілірують гняздо [Ігрушка Круп.; СЦГ, с. 250].

**О'ЧКІ, ПАЧА'ТКІ, ЧА'РАЧКІ [ЧА'РКІ]**. 'Соты'. Пшчолкі очкі робяць і наліваюць мёд [Судэрва Вільн.; СПЗБ, т. 3, с. 267]; Пчолы вядуць такія пачаткі з галавы да подаку [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 214]; Гатовыя вашчурыны купляюць, на вашчурыны ставяцца чарачкі для наліцця мёду [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 216]; Чаркі ў рамках [Валынцы В.-Дзв.]. Вашчына – гэта аснова, палатно, купляюць гатовую, а чаркі самі пчолы робяць [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 5, с. 408].

**ОДНИМА'ТЫ**. 'Удалять состарившуюся матку' [ПТП, с. 346].

**ОПЭЧА'ТКА**. 'Восковые крышечки ячеек'. Од двацщат' чэтырох д'он воны проjидаjут' опэчатку и выход'ат' навэрх [ПТП, с. 345].

**ОСА'ДА**. 'Сидение пчел перед роением'. Осада – то пчола сыдыт' на гул'л'ах, маjе буты руj [ПТП, с. 345].

**ПАД, ПЭ'РХЕЛЬ**. 'Мядовая раса, падзь'. Пад такі паў на ліст солодкі, то пчолы і беруць ёго [Мачуль Стол.; ТС, т. 4, с. 6]; Пэрхель на лісцях, он не очань абыкнавенны, многа вадзічкі мае [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 4, с. 211].

**ПААДПАДА'ЦЬ, ШШО'РЫЦЦА**. 'Павымірацъ (пра пчол)'. Пчолы паадпадалі – вуліі пустыя [Масілавічы Сл.; СПЗБ, т. 3, с. 270]; Рой быў улес у дупло, алі матка шшорылася [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 217].

**ПАДБО'Р**. 'Даставанне мёду'. Падбор робіцца, калі рамка запоўнена мёдам [Саланая Валож.; СЦГ, с. 258].

**ПАДМО'Р [ПАМО'Р, ОТМО'Р]**. 'Вымерлыя за зіму пчолы'. Падмор выграбаюць, як падглядаюць пчолы [Малыя Аўцюкі Калінк.]. У калодзя падмор – памёршыя пчолы, кусочкі вашчыны [Лапічы Асіп.; СПЗБ, т. 3, с. 313]; Вясной вымітаю з вульля падмор [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245]; Пасьля аблёту пчолы ачышчаюцца. Яны самі выносяць памор, але ім многа работы і людзі памагаюць ачышчацца [Ляхавічы Дзярж.; СЦГ, с. 282]; После

зімы одмор дзелаецца ў пчол, можэ, поўроя одморыцца [Мачуль Стол.]. У неўкоторых на два палцы тоўшчыны получыцца отмору [Дварэц Жытк.; ТС, т. 3, с. 283].

**ПАСЕ'Д**. 'Пчолы, якія сядзяць на вуллях перад пачаткам раення або ў гарачае надвор'е'. Бывая, і ўзятык харошый, а пасед будзя сядзець [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246].

**ПА'СЕКА [ПА'СІКА, ПА'СЯКА], ЗА'ВОДЪ, ПЧЭ'ЛЬНЯ**. 'Месца, дзе размешчаны вуллі з пчоламі'. У каго вульёў багато – пасека [Дзяніскавічы Ганц.; СПЗБ, т. 3, с. 425]; В леси пасека, в поли, у саду – скроз' пасека [ПТП, с. 347]; Великую завевъ пасеку [СБМН, с. 394]; [пасіка]. 'Месца, дзе размешчаны вуллі з пчоламі' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246]; [пасяка]. 'Месца, дзе размешчаны вуллі з пчоламі' [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 214]; Заводъ пчолъ [СБМН, с. 162]; У пчэльні многа лётаіць пчол [Марцінкова Куз.; Каспяровіч, с. 259].

**ПА'СЕКОВЫЙ**. 'Относящійся къ пчельнику'. Пасековый сторожъ. Пасековая будка [СБМН, с. 394].

**ПА'ТЫКА**. 'Патока'. Патыки меду давъ на канунъ [СБМН, с. 394].

**ПАСЕ'ЧНИКЪ**. 'Пасечный сторожъ'. Пасечникъ сядзиць въ пасеке [СБМН, с. 394].

**ПАТСЦЕ'НАК**. 'Кавалак сотаў з мёдам, выразаны з калоды' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246].

**ПЕ'ШНЯ [ПЯШНЯ']**. 'Долата з доўгім чаранком для выдоўбвання вулляў з калод'. Вулье высекалі пешнёй [Хачэнь Жытк.; Станкевіч, с. 288]; Пешняй вуллі дзелаюць для пчол, шула робяць ёю ў хлеў [Хатынічы Ганц.]. Пешня – на палцы далато, можна секці вульі [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 3, с. 513]; Пешнімі калоды высікалі [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246]; Пјешнэју у живому дэрэви борт' довбалы [ПТП, с. 348]; Пяшня – робяць вуллі, долата доўгая на палца, метр даўжыні [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 4, с. 228]; Пешня – гэта на палцы долато, можна секці вульі [Азяраны Раг., Дзяніскавічы Ганц., Бакшты Іўеў.; Мацкевіч, с. 214].

**ПЕРАГАНЯ'ЦЬ**. 'Рассяляць (пчол)'. Папка будзя пчолы пераганяць [Вострава Маст.; СПЗБ, т. 3, с. 486].

**ПЕРВА'К [ПІРВА'К, ПІРША'К, ПЫРШО'К]**. 'Рой пчол, які першым пакідае вулей'. Первак – самы хорошы рой [Чаплін Лоеў.; ДСЛ, с. 297]; Первак – первый рой пчол [Янова Рас.]. Ад пірвака маткі ні пяюць [Валынцы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 3, с. 505]; С піршаком старая матка вылітая [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246]; Есть тры роі: пыршок, другок, трытек [Макраны Малар.; ДСБ, с. 189].

**ПЕЦЬ**. 'Ствараць розныя гукі (звінець, "кохаць" і інш.) у час раення (пра матку)' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246].

**ПІЛНАВА'ЦЬ, ПІЛЬНАВА'ЦЬ, ПІЛЬНЯВА'ЦЬ**. 'Сачыць (пра пчол)'. Як рой – я пілнаваў [Саланое Віл.]. Я пільнюю пчол [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 3, с. 517].

**ПІЧА'ТЫНЫЙ**. 'Закрыты ў сотах'. Пічатыный мёд [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246].

**ПЛЕ'ЧИКИ**. 'Детали рамки, выступы бруска, которые упираются в фальцы стенок рамочного улья и удерживают рамку от вертикального смещения' [ПТП, с. 349].

**ПО'НЦЫ**. 'Рамка ў калодачным вулеі'. У борць понцы ўстаўлялі, і пчолы на іх рабілі вузу [Парэчча Гродз.; СПЗБ, т. 4, с. 47].

**ПОДУ'ШКА**. 'Стеганая ватная прокладка, применяемая для утепления рамочного улья'. На стул' ложыцца т'опла подушка [ПТП, с. 350].

**ПРАЕ'СЬЦЬ**. 'Прагрызці (васковую крышку матачніка)'. Як праесьць матка ячэйку і вылізя, тады другак атсыпая [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246].

**ПРАПА'ЛІС [ПРАПАЛІ'С, ПРАПО'ЛІС, ПРО'ПУЛІС], КЛЕЙ [КЛЕЙ ПЧАЛІ'НЫ, КЛЯЁ'К, ПЧАЛІНЫ', ПЧОЛІ'ННЫ, ПШЧАЛІ'НЫ КЛЕЙ], ПЧАЛІ'НЫ КІТ, ПШЧО'ЛЬНІК**. 'Пропаліс'. Прапаліс – пчаліны клей [Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб.]. Прапаліс – клей, вешчаство, якім пшчолы на зіму закрываюць велькія шчэлі для цеплаты [Альхоўка Навагр.]. Пропуліс – пчаліны клей [Малыя Аўцюкі Калінк.; СПЗБ, т. 4, с. 90]; Прапалісам пчолы закрываюць чашачкі [Азяраны Раг., Рудня Астравітая Чэрв.]. П р а п о л і с [Бакшты Іўеў.]. П р о п у л і с [Малыя Аўцюкі Калінк.; Мацкевіч, с. 214]; [прaполіс]. 'Пчаліны клей' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 246]; Клей пчаліны, калі яго размякчыць і прылажыць да скулы, выцягаваіць добра [Валынцы В.-Дзв.]. Праполяц цяпер, а даўней клей звалі [Крэва Смарг.; СПЗБ, т. 2, с. 473]; Пшчолы ўжо шчыльна рамкі заклеілі кляйком [Гемзы Шальч.; СПЗБ, т. 2, с. 486]; Пчаліны клей – ім лечуцца, у спірт укласці нада [Дзёрнавічы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 4, с. 202]; Пчаліны кіт, у другіх мястах – праполіс [Малахоўцы Бар.; СПЗБ, т. 4, с. 202]; Спірытус піла с пшчольнікам [Новікі Гродз.; СПЗБ, т. 4, с. 204].

**ПРО'ДУХ**. 'Движение свежего воздуха в улье'. Ныжниј литок прыкрывјем зусим, вэрхниј – половина, а половына дајем продух [ПТП, с. 352].

**ПРО'ЙГРА**. 'Апладненне пчалінай маткі'. Матка с трутнями вылятая на пройгру, у час пройгры матка апладняяцца і ляціць у вулей [Каробчыцы Гродз.; Сцяшковіч, с. 376]

**ПЧАЛА' [ПЧАЛА' МЕДАВА'Я, ПЧОЛА', ПЧЭЛА', ПШЧАЛА', ПШЧО'ЛА, ПЧАЛІ'НА, ПЧАЛІ'НКА, ПЧЭЛІНА', ПЧО'ЛАЧКА, ПЧО'ЛКА, ПЧЫЛА']**. 'Пчала'. Пчолы залажылі чэр. [Валынцы В.-Дзв.]. Пшчалы няможна забіваць [Солы Смарг.]. Восак пшчолы робяць [Парэчча Гродз.; СПЗБ, т. 4, с. 201]; Пшчолы ў Лаўрэнка дужа кусьлівыі [Лужасна Куз.; Каспяровіч, с. 259]; Медавая пчала мёд носіць, другая нясець пылок, ваду берыць [Груздава Паст.; Мацкевіч, с. 215]; Пчола ў пчолы не позычае, а з голоду здыхае (прыказка) [Мачуль Стол.; ТС, т. 4, с. 275]; [пшчала, пшчола]. 'Пчала' [Старыя Смільгіні Воран., Жылі Іўеў.; Мацкевіч, с. 215]; Пчаліна жывёла не вялікая, а пажывы дае многа [Балакеры Мсцісл.; КСУМ, с. 362]; Пчаліна ўкусіла мяне [Вялікія Нястанавічы Лаг.]. Зругаю пчаліну, абізацільна пакусаіць [Дзёрнавічы В.-Дзв.; СПЗБ, т. 4, с. 202]; Пчалінка з цьвяткоў мёд зьбіраець [Меншая Багацькаўка Мсцісл.; КСУМ, с. 362]; Гудзе пчолачка [Дзераўное Стаўб.; СПЗБ, т. 4, с. 202]; Пчола бэра мэд з усих цвэтов [ПТП, 322];

Пчолак шмат лётае [Плябанцы Ашм.; СПЗБ, т. 4, с. 201]; Ён жа ні рызьбярэ – што асва, што пчыла [Старое Сяло Мсцісл.; КСУМ, с. 362]; [пчала, пчола, пчыла, пчэла, пшчала, пшчола, пчаліна, пчолка, пчэліна]. 'Пчала' [ЛАБНГ, с. 121].

**ПЧАЛАВО'ДНАЕ СТО'ЙЛА**. 'Дрэва, у дупле якога жывуць пчолы'. Такое дзерава называлі пчалаводнае стойла, дзе пчолы вяліся ў дуплах [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 4, с. 201].

**ПЧАЛІ'НЫЙ [ПЧАЛЯ'НЫ, ПЧО'ЛЬНЫ, ПЧОЛО'ВУ]**. 'Пчаліны'. Нейдзі пчаліны рой шуміць! [Горкі Краснап.; КСУМ, с. 362]; Домікі пчаляныя [Старыя Трокі Трак.; СПЗБ, т. 4, с. 202]; Матка ў пчолаў – пчольная матка [Горск Бяроз.; СПЗБ, т. 4, с. 203]; У чэрушэчках мед пчоловы [Дварэц Жытк.; ТС, т. 4, с. 275].

**ПЧАЛЬНА'Я ПРЫВА'ДА**. 'Некалькі вулляў для прываблівання рою'. Пчальная прывада, каб пчолы сабіраць [Прэдэ Даўг.; СПЗБ, т. 4, с. 202].

**ПЧАЛАДЗЁ'Р [ПЧОЛОД'О'Р]**. 'Той, хто выдзірае пчолы (мёд), злодзей'. Ву ж радакцыя! Я заявіла вам на етаго пчаладзёра – злодзея [Янкоўскі-3, с. 104]; [пчолод'ор]. 'Человек, расхищающий пчел, выдирающий мед, вор' [ПТП, с. 353].

**ПЫТКАРМІ'ЦЬ**. 'Даць (пчолам) дадатковы корм' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247].

**ПЯРЕ'ХРІСТНІ**. 'Яловыя палачкі, якія ўмацоўваюцца накрыж унутры калоды для падтрымання сотаў'. У сярэдзіну калоды ставюцца пярехрістні, каб ні абарвалася наўза [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247].

**ПЯРІ'НА**. 'Частка гусінага крыла, якой ачышчаюць вулей, абмятаюць з рамак пчол і інш.' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247].

**РА'МКА [РЯ'МКА], НЫСТА'ЎКА**. 'Рамка для сотаў у рамачным вуллі'. Пчаляр рамкі ў вуляй ставіць [Міратычы Кар.; Мацкевіч, с. 215]; Як заб'юць пчолы ячэйкі пяргой, тады ўжо рямку выкідай [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; [ныстаўка]. 'Невялікая рамка, якая ўстаўляецца ў мыгазін' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 245].

**РАІ'ЦЦА [РО'ІЦЦА, РОІ'ЦЦА]**. 'Збірацца вакол маткі, утвараючы рой (пра пчол)' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; Ек пчолы рояцца, то перву – сільны рой [Бярэжцы Жытк.; ТС, т. 4, с. 308]; Пшчолы роюцца, то раенне пчол [Опса Брасл.]. Як рояцца пчолы, нада вадой крапіць іх [Мсцібава Ваўк.; СПЗБ, т. 4, с. 302].

**РОЙ**. 'Сям'я пчол, якая вылецела з вулля'. Пускае роя вулей [Хачэнь Жытк.]. У его було роёў п'яць за лето [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 4, с. 309]; Рой звіўся, пчолы сядзелі шапкай [Дзёрнавічы В.-Дзв.]. Рае пазбіраю і асаджу [Галубы Маст.; СПЗБ, т. 4, с. 302]; Шчэрпаў рой у ройніцу [Старыя Смільгіні Воран.]. Скрэпяць рой вадой, і ён сядая [Граўжышкі Ашм.]. Рой ідзець са старой маткай [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 215].

**РОЙО'ВА ГАРА'ЧКА**. 'Возбужденное состояние пчелиной семьи в период роения' [ПТП, с. 355].

**РЯШО'ТКА**. ‘Прыстасаванне для затрымання маткі ў вуллі’. Каб матка ня вылізла з вульля, на лётку ставіцца ряшотка [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]

**СЕ'ДЗЕЛКА**. ‘Сядзенне на канцы вяроўкі, пры дапамозе якой лазілі на дрэва’. Да плеці прывязавалі седзелку, куды садзіўся зямец [Азяраны Раг.; Мацкевіч, с. 215].

**СЕ'ТКА, СІТЦО'**. ‘Ахоўная пчалярская сетка‘. [Сетка]. ‘Капюшон з сітцам для аховы ад пчол’ [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 215]; [сетка]. ‘Ахоўная пчалярская сетка’ [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; Пчаляр ідзець, сітцо на галаву адзяець [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 215].

**СЕБРАНЫ'Я ПШЧО'ЛЫ [СЯБРО'ЎСКІЯ ПЧО'ЛЫ, СЯБЭ'РНЫЯ ПЧО'ЛЫ], СЯБЭ'РКА [СЯБЭ'РСТВА]**. ‘Пчолы, якімі сумесна карыстаюцца два гаспадары’. Калі рой у чужую раёўку ўцёк – гэта себраныя пшчолы: мёд дзеляць папалам гаспадар пшчол і раёўкі [Кальнішкі Шальч.; СПЗБ, т. 4, с. 407]; Некалькі калодак дае адзін гаспадар другому, той даглядая – гэта сяброўскія пчолы [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 5, с. 62]; Еслі пчаляр прымя каго у сябэрства, то сябэрныя пчолы [Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 216]; Еслі той, к каму прыляцелі пчолы, прымя ў сябэрства, то сябэрныя пчолы [Граўжышкі Ашм.; СПЗБ, т. 5, с. 63]; Бываіць сябэрка на пчолы: калі гаспадар прыгнаўся за сваімі пчаламі, а пчолы прыляцелі ў чужую стаўку – значыць, пчолы ў сябэрцы, перайшлі ў сябэрку [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 5, с. 63].

**СЕМ'Я'**. ‘Рой пчол у вуллі’. Пропалі пчолы, осталосо дзве сем’е [В. Малешава Стол.]. У его сто піісят семей пчол, то там сіла! [Дварэц Жытк.; ТС, т. 5, с. 28].

**СКРЫЛЬ**. ‘Соты з мёдам у раме’. Дасталі раму і палавіну скрыля выразалі [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 216].

**СЛЕ'ПЕТ**[2]. ‘Мед з дупляных лясных вулляў’. Надрали ў лесе слепяту, наелися [Данілкі Бераст.; Сцяшковіч, с. 441].

**СТАЯ'К**[2] **[СТЫЯ'К], СТА'ЎКА, СТО'ІНЬ**. ‘Стаячы калодачны вулей’. Стаяк хужэй да раёў [Валынцы В.-Дзв.]. Стаяк на пчол – круглы вуль на суку стаіць, прывязваецца да дзерава [Мярэцкія Глыб.]. Стаякі стаяць, а ў лежаках мёду болей [Багушэвічы Бярэз.; СПЗБ, т. 4, с. 585]; [стаяк]. ‘Калодачны вулей’ [Саланое Віл.; Мацкевіч, с. 216]; Раней дзелылі і ліжакі, і стыякі [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; Стаўка стаіць на дубу [Клюі Куз.; Каспяровіч, с. 292]; [стоінь]. ‘Тое, што і *стыяк*’ [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247].

**СТРА'ЦІЦЦА**. ‘Прапасці, не вярнуцца ў вулей’. Бывая, матка выйдзя на аблёт і страціцца [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247].

**СЦЕЛЬНІ'К [ШЧЭЛЬНІ'К]**. ‘Пласт вашчыны з мёдам (у калодзе)’. Сцельнікі до самой подкі [В. Малешава Стол.]. Шчэльнік [Мачуль Стол.; ТС, т. 5, с. 124].

**СЫЧ**. ‘Калок у вуллі, на якім трымаліся пляйстры з мёдам’ [В. Малешава Стол.; ТС, т. 5, с. 129].

**ТРАЦЯ'К [ТРЫЦЦЯ'К]**. ‘Трэці рой пчол’. Рой трацяк выходзіць у трэци дзень за ўтараком, другим, трацяк ужо слабы рой [Каробчыцы Гродз.;

Сцяшковіч, с. 486]; [трыццяк]. 'Трэці рой' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 248].

**ТРУ'ЦЕНЬ [ТРУ'ЦЯНЬ, ТРУ'ЦІНЬ, ТРУДНІ'], ВАДАНО'С, ГУЛЬТА'Й, ПІГОНО'К**. 'Самец у пчол, які апладняе матку'. Трутням пчолы самі аторваюць крылы, і яны падаюць далоў [Дзёрнавічы В.-Дзв.]. Трутні толькі мёд ядуць [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 5, с. 134]; Труцень нічога не робіць, толькі камандуе [Козенкі Маз.; Станкевіч, с. 291]; Рой без трутнёў не можэ лецець [Луткі Стол.]. Пчолы трутня за крыла да вон [Альпень Стол.; ТС, т. 5, с. 158]; Як узяткі кынчаюцца, пчолы выкідаюць трутніў з вульля [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 248]; Трудні ляцяць уверх галавой, засямяняюцца ў воздуху [Гемзы Шальч.; СПЗБ, т. 5, с. 130]; Трутні ваду носяць [Старыя Смільгіні Воран., Граўжышкі Ашм.; Мацкевіч, с. 206]; Пазней пшчолы знішчаюць гэтых ваданосаў [Граўжышкі Ашм.; СПЗБ, т. 1, с. 266]; Гэных гультаёў у вульлі разьвялося многа [Малмыгі Віл.; СЦГ, с. 105]; [гул'т'ај]. 'Трутень' [ПТП, с. 328]; Пігонкоў пчолы выкідаюць на зіму [Валынцы В-Дзв.; СПЗБ, т. 3, с. 515].

**ТРУТНЁ'ВКА [ТРУТНЁ'ЎКА, ТРУТО'ЎКА]**. 'Пчала, ад якой выводзяцца трутні'. Трутнёвка трутней стала чарыть [Прэдэ Дауг.; СПЗБ, т. 5, с. 133]; Есьлі матка ні абгуляіцца, то ета ўжо будзя трутнёўка [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247]; Трутоўка – абыкнавена пчала, калі пагібае матка, пчолы яе кормяць спецыяльным малачком, яна аткладвае трутнёў, бо не спараная [Мыто Лід.; СПЗБ, т. 5, с. 133]; [трутоўка]. 'Тое, што і *трутнёўка*' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 247].

**ТРУТНЯ'ВЫ**. 'Які мае адносіны да трутня'. Трутнявую вашчыну выразалі [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 5, с. 133].

**УКРО'Й**. 'Пасудзіна з клёпак на мёд'. Укрой, бу дзежа на мед [Альшаны Стол.; ТС, т. 5, с. 192].

**УКУСІ'ЦЬ**. 'Уджаліць'. Ня йдзі блізка к хізону, а то пчыла укуся [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 248].

**УХО'ДЗІЦЬ**. 'Ляцець у другое месца'. Первый рой не уходзіць [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 5, с. 248].

**УЦЕ'Ч**. 'Праляцець у невядомым напрамку (пра рой)'. У етым гаду ў мяне рой уцёк [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 248].

**ЦАДЗІ'ЦЬ**. 'Прапускаць расплаўлены воск праз палатно, ачышчаюцы ад прымесей'. Каб воск быў качыствінный, яго цэдзюць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 248].

**ЦЭ'РЭП**. 'Вадкі мёд'. Незалеплены жыткі мёт завецца цэрэп, ён не мае вартасці – плахі мёт. Пчолы зробяць цэрэп, то машуць крыламі, кап воду выпарыць [Мсцібава Ваўк.; СПЗБ, т. 5, с. 378].

**ЦЯГНУ'ЦЬ [АЦЦЯГНУ'ЦЬ]**. 'Будаваць соты'. Наніжыш наўзу ны грябёнку, а пчолы цягнуць аж у самую пяту [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 248].

**ЧАРЫ'ЦЬ [ЧЕРИ'ЦЬ, ЧЭ'РВІЦЬ, ЧЕРИ'ЦЬЦА]**. 'Адкладваць яечкі (пра пчаліную матку)'. Матка чарыць [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 248]; Пчолы черюць цеперъ, начерили ўжо [СБМН, с. 697]; Матка чэрвіць, зачэрвіла

рамку [Старыя Смільгіні Воран.; Мацкевіч, с. 217]; Пчолы черицьца стали, начерились [СБМН, с. 698].

**ЧМЕЛЬ [ЧМІЛЬ, ЧМЭЛЬ, ШМЕЛЬ, ЧМЕ'ЛІК, ДЖМЕЛЬ, ШЧАМЕ'ЛЬ, ШЧЫМЕ'ЛЬ], ПШЧО'ЛКА, БАДУ'Н**. 'Чмель'. Чмель гудзіць [Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв.]. Чміль чэло упускае [Дзмітравічы Кам.; СПЗБ, т. 5, с. 423]; Чмэлі ў земле чорные, а на купіне – жоўцейшые [Хачэнь Жытк.; ТС, т. 5, с. 292]; Во чмель гудзе, лётая, каб дзе гняздо сабе зрабіць [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 305]; Во чмялі нашоў [Лужасна Куз.; Каспяровіч, с. 344]; Чмелік мае жало [В. Малешава Стол.; ТС, т. 5, с. 292]; Джмель большы за пчалу [Нізок Уздз.; СЦГ, с. 115]; [шчамель]. 'Чмель' [Шаламы Слаўгарад.; Цімашкова, с. 248]; Ня трогый шчамлёў: пукусаюць [ДСМ, с. 226]; Пшчолкі ў зямлі, у пузыры яны [Старыя Трокі Трак.; СПЗБ, т. 4, с. 204]; [чмель, чмэль, шмель, чміль, джмель, шчамель, шчымель, бадун]. 'Чмель' [ЛАБНГ, с. 128].

**ЧМЕЛІ'НЫ [ЧМЕЛЁ'ВУ, ЧМЯЛІ'НЫ, ЧМЯЛЬКО'ВЫ], ШЧАМЛІ'НЫЙ**. 'Чмяліны'. Чмеліны мед лекарсцвенны [Старажоўцы Жытк.; ТС, т. 5, с. 292]; Чмелёвы мед для глаз хорошэ лекарство [Лугкі Стол.; ТС, т. 5, с. 292]; Каб дзе дастаць на лякарства чмялінага мёду [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 305]; Ні разу ня пробываў шчамлінага мёду, а гаворыць, дужа смашын [ДСМ, с. 226].

**ШАРСЁ'Н**. 'Шэршань'. Шарснэ водзяцца пат стрэхамі, гняздо, як бы каптур гайдаецца [Кіралі Шчуч.; СПЗБ, т. 5, с. 465].

**ШПА'ЛЯЧКІ**. 'Прымітыўная рамка ў калодачным вуллі ў форме перакрыжаваных пруцікаў'. Шпалячкі такія закладаюцца ў калоду (замест рамак) [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 5, с. 494].

**ШЧЭ'БЕЛЬ**. 'Ліст вашчыны, які чапляецца на кожны зуб у борці' [Мачуль Стол.; ТС, т. 5, с. 347].

# БОНДАРСТВА

**АБІЧА'ЙКА [БИЧА'ЙКА, ОБИЧА'ЙКА], ВЕ'КА [ВЕ'КО, ВІ'КО].** 'Века, накрыўка дзяжы, скрыні'. У скрыні абічайка роўная [Жодзішкі Смарг.; СПЗБ, т. 1, с. 34]; [бичайка]. 'Лубочный решетный ободъ' [СБМН, с. 26]; Обичайка коробатая [СБМН, с. 347]; Згубілася века ад дзежкі [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 44]; Векам закрыў ваду ў дзежцы [Свеча Беш.; Каспяровіч, с. 55]; Накрый дзяжу веком [Падлаззе Лях.]. Здыймэ віко і побач, ек там хліб [Павіцце Кобр.; ДСБ, с. 31]; Коровай стаўяць у веко [Бярэжцы Жытк.]. Кошэль бувае з веком і без века [Велямічы Стол.; ТС, т. 1, с. 110].

**АБРУ'Ч [АБРУ'ЧЫК, АБРУ'Д, АБРЭ'НЧ, ОБРУ'Ч, БРУЧ, ОБРУ'ЧИКЪ], БІЧА'ЙКА, ГОРЕ'ХВА, КОРО'БКА [КУРО'БКА].** 'Абруч у бандарным вырабе'. Ны вядры абруч лопнуў, нада другі ныцянуць, ато цячэць [Randomly Варадзькава Крыч.; КСУМ, с. 32]; Абручы лопнулі ў вадзянцы [Косы Віц.; Каспяровіч, с. 6]; Зь етыя лескі абручык ны вядро выйдзя [Бродкі Крыч.; КСУМ, с. 32]; У цэбары выламаўся абруд [Турэц Сміл.; Шатэрнік, с. 5]; На бойцы абрэнч лопнуў [Дзяражычы Лоеў.]. Абрэнч – абруч на бочцы, дежцы, бойцы [Чаплін Лоеў.; ДСЛ, с. 16]; У жаку п'яць обручоў: меншы, большы і ешчэ большы [Запясочча Жытк.]. Бруч у бочцы злез, то от і процекае [Пагост Жытк.; ТС, т. 3, с. 235]; Солянка обручиками скреплена. На корцу обручикъ лопнувъ [СБМН, с. 353]; Новую бічайку зробіў [Мікалаева Куз.; Каспяровіч, с. 39]; На колодіці на концох горехвы [Гарадная Стол.; ДСБ, с. 49]; Набы коробку на бочку [Сварынь Драг.; ДСБ, с. 105].

**АБЭ'РДЖНЯ.** 'Вялікая бочка'. Перастанаві аберджню ў той куток, заўтра будзям капусту шынкаваць і саліць [Крышылоўшчына Кар.; Сцяшковіч, с. 19].

**АБЯЧА'ЯК [АБЯЧА'ЙКА].** 'Ободок, образующий края сита, решета, кузова или "века" для "дзяжы"'. У веку паламалася абячайка [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 8].

**АДБО'РНІК.** 'Гэблік з вузкім лязом для выстругвання фігурнай паверхні чаго-небудзь'. Адборнік для паталка, што б доска адна за адну захадзіла б [Скрудалена Даўг.; СПЗБ, т. 1, с. 53].

**АДНАЛЁ'ЗКА.** 'Гэбаль з адным лязом'. Адалжы ты мне свае аднальёзкі, дошку нады пачысьціць [Хвёдараўка Краснап.; КСУМ, с. 46].

**АДТО'П.** 'Пасудзіна, у якой адтопліваюць малако'. Ты пасядзі, дачушка, я зарас малако табе ў аттопе прынясу [Рудня Чэрв.; СЦГ, с. 23].

**АКІЯ'НКА.** 'Піла з тонкім палатном'. Акіянка – войстрая, тоненькая піла, екая добра рэжа [Пярэдзелка Лоеў.; ДСЛ, с. 31].

**АСІ'НАЎКА.** 'Вялікая бочка з асінавай клёпкі'. Намалацілі цэлую асінаўку жыта [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 37].

**БАКЛА'ГА [БАКЛА'ШКА, БАТЛА'ШКА, БІКЛА'ЖКА, БІКЛА'ШКА].** 'Невялікая сплюшчаная з бакоў бочачка для вады (каля 10 л.) з почапкай'. Бралі баклагі з вадой калісь, як ішлі касіць [Малыя Аўцюкі Калінк.;

СПЗБ, т. 1, с. 154]; Баклашку з дзерава рабілі, літраў шэсць-дзесяць, повадам зачэплююць і на сенакос ідуць з баклашкай [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 1, с. 154]; Выпілі цэлаю біклажку вады [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 31]; Біклашка з клепок – воду бралі ў поле [Цыхун, с. 186]; Біклашка, у ёй два дзянцы (дны), ваду бралі на поля [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 1, с. 186].

**БАЛЕ'Я [БАЛЯЯ'], ВАГА'Н, ВА'ЛЬНЯ, КАПА'НЬКА [КАПЯ'НКА], НАЧО'ЎКА [НАЧО'ВКА, НАЧО'ЎКІ, НАЧО'ВАЧКА, НАЧО'ВАЧКІ, НО'ЧАЎ, НО'ЧВАЧКІ, НО'ЧВЫ, НОЧО'ВОЧКІ, НОЧО'ЎКІ].** 'Выдзеўбанае з дрэва карыта, начоўкі для купання і мыцця бялізны'. Балея рассохлася [Лёзна Лёзн.; Каспяровіч, с. 33]; У балеі добра паласкаць плацьця. Пакупала дзіцця ў балеі [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 28]; У адной баляя мыям адзежду, а ў другой малоя дзіцця купаям [Каты Смарг.; Сцяшковіч, с. 52]; Прыняси сюды ваган, буду мыць пялушке [Прывалка Гродз.; Сцяшковіч, с. 75]; Дзеці поўную вальню налілі воды [Пясчанка Бяроз.; ДСБ, с. 29]; Нали вады ў капаньку и памый ноги [Ціхаволя Свісл.; Сцяшковіч, с. 199]; Налыла воды в капаньку, замочу сорочкы [Драгічын; ДСБ, с. 87]; Капянка была, выдаўбана з дрэва, у ёй дзеці маленькія купалі [Верхлессе Крын.; СПЗБ, т. 2, с. 411]; Былі дзеравянныя начоўкі [Солы Смарг.]. Начоўку цяслой робюць [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 3, с. 197]; Стала мыць плацьця, а начоўкі пацяклі [Ісачкава Аз.; Каспяровіч, с. 205]; Памый галаву хоць у начоўках [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 174]; Начовачка вузенькая і поляць (палаюць) [Кураполле Паст.]. Дзве ўжэ папэнкалі начовачкі [Старыя Трокі Трак.; СПЗБ, т. 3, с. 197]; [ночаў]. 'Вялікія начоўкі' [Цыхун, с. 197]; [ночвачкі]. 'Памянш. да *ночвы*' [Вялікія Баяры Шчуч.; СПЗБ, т. 3, с. 235]; У ночвах бел'ё сьціраюць, помуцца можно [Цыхун, с. 197]; Налі лычоўкі ў ночвы ды намачы сарочкі [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 174]; Ночвы з дрэва выдзяўбаныя [Пацаўшчына Дзятл.]. Ночвы зрабіў [Дзяніскавічы Ганц.; СПЗБ, т. 3, с. 235]; [ночовачкі]. 'Невялікія начоўкі, у якіх апалалі куццю, проса і інш.' [Цыхун, с. 197]; У мэнэ зара е на горы вэлыкуі ночоўкы; пэклы раньча булкы, рошчынее поўны ночоўке [Цыхун, с. 197].

**БАНДА'Р [БО'НДАР, БО'НДЫРЬ, БОНДА'РКА[1], БО'НДАРЬ], КЛЯПО'ЧНІК.** 'Бондар, майстар, які займаецца вырабам драўлянага посуду з клёпак'. Бандар рабіў бочкі, вёдры [Мярэцкія Глыб.]. Гэты, што рабіў цэбры, кублы, бочкі, называўся бондар [Груздава Паст.; СПЗБ, т. 1, с. 163]; Бондар у нас называлі того, шчо бочкі, дзежкі потчыняў [Сямігосцічы Стол.; ТС, т. 1, с. 72]; Ведама сам бондар, усякага посудку нарабіў [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 34]; Бондар робіць кадкі [Бабінічы Віц.; Каспяровіч, с. 41]; Бондырь на бочку набіў абруч іна і цеч пірістала [Міцькаўшчына Мсціл.; КСУМ, с. 90]; Сыны его бондаркі да бочкі робяць [Запясочча Жытк.; ТС, т. 1, с. 72]; [бондарь]. 'Бочарь' [СБМН, с. 30]; Бацька клепочнік быў [Янкоўскі-1, с. 98].

**БАНДА'РКА[1], БО'НДАРСТВА, БО'НДАРСТВО.** 'Выраб драўлянага посуду'. Бацька бандаркай займаўся [Дакудава Лід.; СПЗБ, т. 1, с. 163]; Забыўся і на сваё бондарства [Ілінова Чаш.; Каспяровіч, с. 41]; [бондарство]. 'Бочарничество' [СБМН, с. 30].

**БАНДА'РКА[2].** 'Спецыяльная пілачка'. Каб дно падагнаць, упусьціць у пазы, яго аппільваюць бандаркай [Бытча Барыс.; СЦГ, с. 35].

**БАНДА'РЫЦЬ [БАНДАРАВА'ЦЬ, БО'НДАРИЦЬ, БОНДАРОВА'ЦЬ]**. 'Займацца вырабан бандарнай прадукцыі'. Сам умея бандарыць, ня трэба прасіць лудзей, каб набілі абруч [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 29]; Бандар рабіў цабры, вёдра, балейкі – бандарыў [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 1, с. 163]; Кінуў бандараваць [Лятоўшчына Куз.; Каспяровіч, с. 33]; Мой гаспадар усё ўмеў рабіць – сталяравоў і бандаравоў [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 1, с. 163]; [Бондариць]. 'Бочарничать' [СБМН, с. 30]; [бондаровaць]. 'Тоже, что *бондариць'* [СБМН, с. 30]; Вон на комбінаце бондаровaць вучыўса [Дварэц Жытк.; ТС, т. 1, с. 72].

**БАНДАРО'НАК [БОНДАРЁ'НОКЪ]**. 'Сын бондара'. Бандаронак пабег [Лятоўшчына Куз.; Каспяровіч, с. 33]; [бондарёнокъ]. 'Сынъ бондаря' [СБМН, с. 30].

**БАНДАРО'ЎНА [БОНДАРО'ВНА]**. 'Дачка бондара'. ...Ты мужык, ты дурак, а я – бандароўна [Запруддзе Сен.; Каспяровіч, с. 33]; [бондаровна]. 'Дочь бондаря' [СБМН, с. 30].

**БАРА'Н**. 'Рубанак з дзвюма ручкамі'. Барана ты возьмеш толькі ў плотнікаў [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 46]; Баран – як рубанак, толькі з ручкамі [Дакудава Лід.]. Баран – гэблік з дзвюма ручкамі [Пацаўшчына Дзятл.; СПЗБ, т. 1, с. 168]; Бараном габлявалі да вечара [Мікалаева Куз.; Каспяровіч, с. 34].

**БАРЫ'ЛА [БАРЫ'ЛАЧКА, БАРЫ'ЛКА, БАРЫ'ЛАК, БАРЫ'ЛКО, БАРЭ'ЛЦЭ, БАРЫ'ЛО, БОРЫ'ЛО, БАРЫ'ЛОЧКА, БАРЭ'ЛКА, БОРІ'ЛКА, БАРІ'ЛЦА]**. 'Заднёная з двух бакоў невялікая бочачка з дзіркай збоку для вадкасцей'. Прывезуць бочку піва, шчэ гарэлкі барыла, а барыла гаварыла: калі мене не вуп'еце, то па постаці пакачусь да да каплі разаллюсь (З нар. песні) [Чаплін Лоеў.; ДСЛ, с. 47]; Налі ваду з барыла [Горкі Аз.; Каспяровіч, с. 35]; Барылу пива выпили [СБМН, с. 16]; На табе барылачку малака, занесі цёццы Мар'і: да ее унукі прыехалі [Ручаёўка Лоеў.; ДСЛ, с. 47]; Ты адно машыну спэўні, а ўжо барыш за мной будзе, гарэлкі нойдзіцца барылачка [Порычы Валож.; СЦГ, с. 36]; Былі барылкі пукаценькія, два дны, бокам ляжыць. Ваду бралі ў барылкі, як ішлі ў поля жаць, касіць. Заткай заткнуць барылку [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 1, с. 172]; Я назьбірала поўную барылку бярозавага соку [Чабаі Валож.; СЦГ, с. 36]; Пад веселле зрабілі поўнае барылко квасу [Калоднае Стол.; ДСБ, с. 18]; Поўнэе барыло налыв квасу [Глушэц Пруж.; ДСБ, с. 18]; У нас коліся ў гэто барыло лілі горэлку [Сямігосцічы Стол.; ТС, т. 1, с. 43]; [барылочка]. 'Боченочекъ, неболее какъ съ полведра' [СБМН, с. 16]; Барэлка бачонак, два дны, шпунточкам забівалася [Мярэцкія Глыб.; СПЗБ, т. 1, с. 173]; [барэлка]. 'Невялікая бочка (для вады, гарэлкі)' [ДСЗ, с. 22]; Борілка рассохлысь – цякець [Журбін Бялынкав.; КСУМ, с. 90]; Барілца з вадой стаіць пад возым, ідзі напісь [Іванаўка Хоцім.; КСУМ, с. 82].

**БА'СА [ПАС, ПА'СА, ПА'САЧКА], ДО'ШНІК, НАПО'Л, СУДЗІ'НА**. 'Вялікая кадушка (для сечкі, збожжа)'. Басу сечкі нарэзалі на сьвято [ДСЗ, с. 22]; Баса – з клёпак, у басу дзве бочкі жыта сыпалі [Старое Сяло Зэльв.; СПЗБ, т. 1, с. 173]; У пас ссыпалі жыто, квасілі капусту [Навасёлкі Свісл.; СПЗБ, т. 3, с. 420]; Поўна паса насыпана збожжа [Пачаевічы Чаш.; Каспяровіч,

с. 231]; Насыпалі пасу жыта [Турэц Сміл.; Шатэрнік, с. 205]; Пасачка – на масла, нападобіі вядзерка з вушкамі і крышкай [Вялікія Нястанавічы Лаг.; СПЗБ, т. 3, с. 423]; У дошнік аўса насыпалі [Барсукі Аз.; Каспяровіч, с. 96]; У клеці стаіць напол з жытам [Півецкая Краснап.; КСУМ, с. 278]; Сёліта мала нымалацілі аўса – усяго толькі адну судзіну [Дзяніскавічы Навазыбк.; КСУМ, с. 425]; [судзіна]. 'Вялікая кадушка (на 30-50 пудоў зерня)' [ДСЗ, с. 155].

**БАЧО'НАК [БАЧО'НАЧКА, БАЧО'НЫК, БАЧЭ'НАЧАК, БО'ЧАЛКА, БОЧА'ЛОЧКА], БАСЭ'ТЛЯ**. 'Невялікая бочка (для вады, гарэлкі і інш.)'. Выгнаў бачонак самагонкі [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 30]; Бачонак вады выпілі да абеду жанцэ, і ішчэ ні хваціло [ДСЗ, с. 22]; Бачонак доўгенькі, а біклашка плоская [Рудня Астравітая Чэрв.; СПЗБ, т. 1, с. 177]; Яму бачоначку была сагнаўшы вада, але нашлі [Ністанішкі Смарг.; СПЗБ, т. 1, с. 177]; Ны вясельлі выпілі целый бочонык піва [Слаўнае Мсцісл.; КСУМ, с. 83]; Ест бачэначак квас рабіць [Саланое Віл.; СПЗБ, т. 1, с. 177]; Ек у бочалку, кварту воды ўрэжэ – і нішчо [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 1, с. 77]; [бочалочка]. 'Памянш. ад *бочалка*' [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 1, с. 77]; [басэтля]. 'Вялікая бочка' [ДСЗ, с. 22].

**БЕРЭ'СЦІЦЬ**. 'Пакрываць, аплятаць бяростай'. Верэньку робяць з лозы і берэстом берэсцяць [Кароцічы Стол.; ТС, т. 1, с. 56].

**БЕРЭСЦІ'НА**. 'Бяроставы кубак (для піцця вады на балоце, на полі)'. Онь о берэсціна, ідзі да напіс воды [Лутiкі Стол.; ТС, т. 1, с. 56].

**БЛІНО'ЎКА [БЛІНО'ЎНІЦА, БЛІНЦО'ЎКА], РА'ЖАЧКА [РЯ'ЖЕЧКА], РАШЧЫНО'ВАЧКА [РАШЧЫНО'ЎКА], СТАВЕ'НАЧКА**. 'Драўляная пасудзіна з клёпак, у якой рашчыняюць цеста для бліноў'. Памый, дачушка, бліноўку, а я бацьку кайстру зьбяру [Суцін Пух.; СЦГ, с. 40]; Пастаў бліноўку на стол [Бешанковічы Беш.; Каспяровіч, с. 40]; Зам'ас'ила ў бл'иноўн'ицы ц'еста [Догі Шчуч.; Сцяшковіч, с. 59]; Была дзежачка – блінцоўка, блінцэ, латкі пяклі [Дзяніскавічы Ганц.]. У блінцоўцы бліны падчынялі [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 1, с. 194]; Ражачка з клёпкаў была, блінцэ рашчыняць [Кіралі Шчуч.]. Ражачка была з ручкай [Навасёлкі Лід.; СПЗБ, т. 4, с. 243]; Расчыніла блінцэ ў ражачцы [ДСЗ, с. 135]; Рашчыновачкі былі для бліноў [Магуны Паст.; СПЗБ, т. 4, с. 296]; Рашчыноўка – дзяжурка такая, дзе бліны рашчыняют [Кураполле Паст.; СПЗБ, т. 4, с. 296]; Ставеначка – што квасіць блінэ, на квас [Новікі Гродз.; СПЗБ, т. 4, с. 560].

**БО'ДНЯ, ВУША'ТКА**[1]. 'Кубел з векам для адзення, сала, солі і інш., звычайна звужаны ўверсе, з накрыўкай (прыціскаўся пры дапамозе кійка, прасунутага ў вушы)'. Тые бонне за кухрэ былі [Мачуль Стол.]. Такі ўжэ кабан буў велікі, што дзве бонні наложылі сала [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 1, с. 67]; Старые люды клалі ў бодню сало, а тэпэр бодэнь нэмае [Цыхун, с. 186]; Бодня така з вушамі – вушатка з обечком колісь була [Сямурадцы Жытк.; ТС, т. 1, с. 185].

**БОЕ'Ц, ВА'ЛАЧКА**. 'Кіёчак з планачкамі на канцы, дэталь бойкі, калатоўка ў бойцы'. Масьлёнка – гэта такая высокая дзежачка с крышкай і бойцам [Якімаўка Круп.; СЦГ, с. 40]; Валачка – кіёчак з крыжачком, чым масла б'юць [Мсцібава Ваўк.; СПЗБ, т. 1, с. 273].

**БО'ЙКА [БІЯ'НКА, БІЁ'НКА], ЗБО'ЙКА, МАСЛАБО'ЙКА.** 'Драўляная пасудзіна, у якой збіваюць масла'. Бойка – масла біць [Судэрва Вільн., Альхоўка Навагр., Альба Нясв., Малахоўцы Бар.; СПЗБ, т. 1, с. 200]; Новую бойку купіў [Кабішва Куз.; Каспяровіч, с. 41]; Му й цепер б'ём ішчэ масло ў бойцы [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 1, с. 68]; Трэба купіць бойку на масла [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 34]; [бойка]. 'Тое, што і *біянка*' [Цыхун, с. 186]; Карову прадала й бойку аддала [Янкоўскі-2, с. 31]; Злываеш молоко, ото й краплю зоб'еш у тый біянцы [Цыхун, с. 186]; Збойку прынісла, буду масла біць [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 2, с. 278]; Масла б'юць у маслабойкі [Філіпаўцы Красл.; СПЗБ, т. 3, с. 39]; [маслабойка]. 'Бойка для збівання масла' [Цыхун, с. 196].

**БО'НДА**. 'Бочка, кадь' [СБМН, с. 30].

**БО'НДАРИХА**. 'Жена бондаря' [СБМН, с. 30].

**БО'ЧКА [БОЧА'НКА, БОЧО'НКА, БАЧУ'РАЧКА, БАЧУ'РКА].** 'Бочка'. Бочка з клепок, а кадоўбы не [Бярэжцы Жытк.; ТС, т. 1, с. 78]; Агурке пасалілі ў боцца ат сялядцоў [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 34]; Бочка з дзерава зроблена [Судэрва Вільн.] [СПЗБ, т. 1, с. 209]; [бочанка, бочонка]. 'Бочачка' [Чэрнічы Жытк.]. Бочонка [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 1, с. 78]; Мала гуркоў пысаліла – адну бачурічку [Горкі Краснап.; КСУМ, с. 83]; Купіў сабе невялікую бачурку ны капусту [Пачаны Краснап.; КСУМ, с. 83].

**БОНДА'РКА**. 'Бандарныя вырабы'. Дзед бондароваў, робіў усю бондарку [Сямурадцы Жытк.; ТС, т. 1, с. 72].

**БОНДА'РНЯ**. 'Бандарня' [М. Малешава Жытк.; ТС, т. 1, с. 72].

**БЭ'ЛЬКА, ЛА'ГВА [ЛАГВІ'ЦА, ЛАГУ'ЦЬКА].** 'Высокая бочка з накрыўкай, у якой трымаюць муку, крупы, сала і інш.' Вэльмі гладкій був выпрук, наклалы цілу бэльку сала [Дубраўкі Драг.; ДСБ, с. 27]; [лагва]. 'Высокая бочка для ўтрымання круп, сала і інш.' [Цыхун, с. 195]; Лагвіца с крышкою, коб сало коцікы нэ зьзілы [Цыхун, с. 195]; [лагуцька]. 'Тое, што і *лагвіца*' [Цыхун, с. 195].

**ВА'ЛЕНАЧКА**. 'Дзежачка'. Валеначка была на масла, с клёпак рабілі. Даўней свеціць вазілі ў тых валеначках: валеначку накладуць і вязуць [Кіралі Шчуч.; СПЗБ, т. 1, с. 273].

**ВАГА'Н**. 'Драўляная міска, цёрла'. У вагану церлі мак, ваган быў дзеравянны [Малыя Аўцюкі Калінк.; СПЗБ, т. 1, с. 264].

**ВАДЯ'НКА [ВАДЗЯНІ'К, ВОДЗЯ'НКА].** 'Дзежка для вады'. Вадянка па-калісьнему, цепер – дежачка для вады [Пярэдзелка Лоеў.; ДСЛ, с. 62]; Выкынуць выдзянку с-пат паветкі, ніхай трошку апсохніць [ДСМ, с. 48]; Нешта наша вадзянка цячэць [Азярэцк Сен.; Каспяровіч, с. 51]; Маці, дзе наш вадзянік, мыцца трэба [Рудня Чэрв.; СЦГ, с. 49]; Повна водзянка воды [СБМН, с. 63].

**ВАРО'ХА, КУГЭ'ЛЬКА, ЛО'ЖКА, МЕША'ЛКА, ОПОЛО'НЫК, ТРЭ'ПАЧКА.** 'Вялікая драўляная лыжка, якой мяшаюць і разліваюць страву' [Цыхун, с. 188]; Зварaную дэню росколотэлэ кугэлькою [Перавысь Малар.; ДСБ, с. 114]; Тыі лошкі выдоўбувалы з дэрэва [Цыхун, с. 195]; Тэй мешалкой налывалы ў мыску [Цыхун, с. 196]; Набырае упулоныком з чугуна і льле

[Цыхун, с. 197]; [трэпачка]. ‘Драўляная лыжка для памешвання стравы ў гаршку’ [Цыхун, с. 201].

**ВАРСТА'Т [ВЯРСТА'Т, ВЯРСТА'К]**. ‘Сталярны станок’. На варстаце лепяй сталяраваць [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 43]; Вярстатам занялі ўсю хату [Амельна Пух.; Шатэрнік, с. 60].

**ВАРЭМНЫ'ЦЯ**. ‘Вялікая бочка для капусты або гуркоў, што стаяла ў спецыяльным памяшканні – “варэмні”, дзе захоўвалася гародніна’ [Цыхун, с. 188].

**ВЕ'КА [ВЕ'ЧКА]**. ‘Крышка скрыні, дзежкі’. Веко раскідаласо [Янкоўскі-1, с. 48]; Вечко раскідаласо вацетай дзежаццэ [Янкоўскі-1, с. 48].

**ВЕДРАВІ'К**. ‘Драўляная бочачка, якая змяшчае адно вядро вадкасці’. Ведравік – само меншэ барылка [Судэрва Вільн.; СПЗБ, т. 1, с. 293].

**ВЕДРО' [ВЯДЗЁ'РКА, ВЯДРО', ВЯДРЫ'ШЧА], ЦІБА'РКА**. ‘Драўлянае вядро’. Колісь відра робілі дэрэв’яныі [Цыхун, с. 188]; Цэлаю вядзёрку нацякло бярозавіку [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 59]; Выліў вядро вады [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 59]; Зрабіў нейкая дурноя вядрышча, аж ня панесьці вады ў ём [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 59]; У цібарку налэлі воды [Цна Лун.; ДСБ, с. 249].

**ВІ'НКЕЛЬ**. ‘Навугольнік’. Вінкель ляжыць у сталюзе [Гарывецк Сен.; Каспяровіч, с. 58].

**ВУША'Т [ВУША'ТКА[2], ВУША'ЦІК, УШАТО'К], ЦАБРЫ'ШЧА [ЦАБЭ'РАК, ЦАБЭ'РЧАК, ЦАБЭ'РЧЫК, ЦЭБЭ'РАК, ЦЫБЭ'РОК, ЦЭ'БАР, ЦЭ'БЫР, ЦЭ'БЭР, ЦЭ'БЕР, ЦЭ'БОР, ЦЭ'БЁРЪ, ЦЭ'БРЫК, ЦЭБА'РКА, ЦЭБЕРО'К, ЧЭ'БРЫК]**. ‘Цэбар’. Была ў мяне карова, папала ў вушат сьцякло, а яна ўзяла ды выпіла і здохла [Кукалеўка Лаг.; ММГ, с. 28]; Была ў мяне карова, папала ў вушат сьцякло, а яна ўзяла ды выпіла і здохла [Кукалеўка Чэрв.; СЦГ, с. 67]; Вушатку з клёпак з базару прывёз [Ухвала Круп.; СПЗБ, т. 1, с. 339]; Ліні вару ў вушацік! [Ухвала Круп.; СПЗБ, т. 1, с. 339]; Я зварыла тры цаганы бульбы, жыта расьціла, на машынку перагнала, дражджэй і задзелала саладуху ў вушаціку [Бяларучы Лаг.; СЦГ, с. 67]; Ушаток бы цэбэр [Смаляніца Пруж.; СПЗБ, т. 5, с. 255]; Навадзіла каровя цабрышча пойла, аж ня панесьці [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 297]; Налі ў цабэрак. Цабэрчык ужо пацёк [Аскершчына Беш.]. Бондар зьдзелаў цабэрчык [Цяпіна Чаш.; Каспяровіч, с. 333]; У цабэрку намачы сарочкі [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 297]; С цабэрка кароваў паілі [Ракаўскія Швянч.]. Цабэрак кап не рассохся! [Ністанішкі Смарг.; СПЗБ, т. 5, с. 333]; Іспарце карові сечку ў цабэрку [Дукора Пух.; ММГ, с. 123]; Апрыстай ты мне гэсты цабэрак, вылі зь яго ваду [Ушакі Чэрык.]. Засілі вады з цабэрка [Тур’я Чэрык.; КСУМ, с. 479]; Гэтой цыбэрок зусім розламався [Высокае Бяроз.; ДСБ, с. 250]; Нынасі вады ў цэбар [Лабаноўка Хоцім.]. Цэбар рассохся, нада зымачыць яго [Крычаў; КСУМ, с. 485]; Цэбар з двумя вушкамі; у цэбры і вады карові паставіш і бялізну памочыш [Кіралі Шчуч.]. Цэбер коровам, волом есці выносілі [Малыя Аўцюкі Калінк.]. Цабрэ, кублікі рабілі з клёпак [Кузьмічы Люб.; СПЗБ, т. 5, с. 374]; Поўны цэбар памый [Стрэлка Беш.; Каспяровіч, с. 335]; У цэбры вады прынясіця [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 302]; Налівалі ваду ў цэберы, дежкі

налівалі [Ручаёўка Лоеў.]. У цэберы замешываюць коровам [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 403]; Корові даюць пойло ў цэбры [Тураў Жытк.]. У цэберы запарваць коровам [Хотамель Стол.]. Буў цэбрык на трох ножках [Сямурадцы Жытк.; ТС, т. 5, с. 281]; Цэбэр на дзьве вухі, у ім картоплі тоўклі [Цыхун, с. 201]; Повен цэберъ воды [СБМН, с. 693]; Міхась зрабіў новы цэбор [Гута Ганц.]. Свынячы картоплі высыпала маты в цэбэр [Макраны Малар.; ДСБ, с. 251]; [цэбрык]. 'Памянш. ад *цэбар*' [Янкоўскі-2, с. 192]; Ражка для свынэй, а цэбрык для чого ліпшого [Цыхун, с. 201]; О это цэбарка колішня, а это барыло [Сямурадцы Жытк.; ТС, т. 5, с. 281]; [цэберок]. 'Тое, што і *цэбер*' [Цыхун, с. 201]; [чэбрык]. 'Тое, што і *цэбрык*' [Цыхун, с. 202].

**ВЫ'ДАЎБЛЯНЫ, ВЫ'ДАЎБАНЫ**. 'Выдзеўбаны'. Вулёк з ліпы выдаўбляны, карыта выдаўбляна [Магуны Паст.; СПЗБ, т. 1, с. 349].

**ГА'РАЦ [ГА'РНЕЦ, ГА'РНЭЦЬ, ГА'РЧЫК]**. 'Драўляная (з клёпак або выдзеўбаная), часам сплеценая з саломы пасудзіна, якой вымяралі сыпкія рэчывы'. Гарцы былі драўляныя ці бляшаныя, абавязкова з ручкай [Забалоцце Смал.; СЦГ, с. 88]; Він взяв добрый гарнец жыта [Скокі Брэсц.; ДСБ, с. 44]; У нас буў гарнэць одзін на дзесяць хунтоў [Цыхун, с. 188]; Кабану ўсыпала гарчык аўса. Пазыч ты мне гарчык мукі [Янкоўскі-2, с. 50].

**ГАБЕ'ЛАК [ГАБЁ'ЛАК, ГАБЭ'ЛЬЧЫК, ГАБЭ'ЛАК, ГАБЭ'ЛЕК, ГАБЭ'ЛІК, ГАБЛЮШО'К, ГАБЛЮ'ШКА, ГАБЭ'ЛЯК, ГЕ'БЕЛЬ, ГЭ'БАЛЬ, ГЭ'БЛІК, Э'БАЛЬ], РУБА'НАК [РУБА'НЫК], ШАРШЭ'ПКА**. 'Рубанак, малы гэбель'. Етым габелкам шчэ дзет мой габляваў [Рудня Плешчаніцкая; ММГ, с. 32]; Габёлак у майсцера ўсёгды войстры [Гарывецк Сен.; Каспяровіч, с. 71]; Габёлак свой дома забыўся ўзяць [Пруды Стаўб.]. Хоць дрэнны, але свой габэлік ёсць [Палессе Мядз.; СЦГ, с. 81]; Пазыч габлюшка пачысьціць дошку [Оўсішча Сен.; Каспяровіч, с. 71]; Габэляк бярэ чыста, гладзенька [Гемзы Шальч.; СПЗБ, т. 1, с. 397]; Геблемъ выгладзиць, поровнаць. После гебля топоромъ. Ци геблемъ ци скоблею [СБМН, с. 111]; Прынясі гэбаль, пагаблюю доскі [Магуны Паст.; СПЗБ, т. 1, с. 511]; Трэба гэблікам пагладзіць дошку [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 74]; Эбаль, чым габлюю, а рубанак спускае [Быстрыца Астр.; СПЗБ, т. 5, с. 539]; Рубанкам спускаюць дошку, ім выгабляяш роўна [Збляны Лід.; СПЗБ, т. 4, с. 308]; Рубанкам спусьціў дошку [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 247]; Ні знаю, чым ты затупіў мой рубаньк, Іван, верна на гвозд [Канічы Касцюк.; КСУМ, с. 390]; Прынясі шаршэпку, пачысьціць дошку нада [Людагошч Мсціл.; КСУМ, с. 496].

**ГАБЛЯВА'ЦЬ [ГЕБЛЁВА'ЦЬ], ЗГАБЛЯВА'ЦЬ**. 'Стругаць рубанкам або фуганкам'. Ня габлюяцца добра дошка [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 61]; Мой брат зьбіраецца габлюваць дошкі на лаўку [Каспяровіч, с. 71]; Геблюй дошку на столъ [СБМН, с. 111]; Троха згабляваў дошку – будзя гладзей [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 61].

**ГЕ'БЕЛЬНЫЙ**. 'Относящiйся къ рубанку'. Гебельный клинокъ [СБМН, с. 111].

**ГЕБЛЁ'ВАНЫЙ [ГЭБЛЁ'ВАНЫ]**. 'Габляваны'. Геблёваный столъ порезавъ [СБМН, с. 111]; З гэблёваных дошчок укладают помуост [Курашэва Чыж.; СПЗБ, т. 1, с. 511].

**ГЕБЛЁВА'ННЕ, ГЭБЛЁВА'НЕ**. 'Габляванне'. Геблёванне стола, дошекъ [СБМН, с. 111]; Гэблёване ручным гэблем – то тяшка робота, послі рукі болят [Курашэва Чыж.; СПЗБ, т. 1, с. 511].

**ГІБА'ЛА**. 'Бабка, абрубак, дзерава, на якім бондар гне абручы'. На етым гібалі лоўка гнуць абручы [Хвёдараўка Краснап.; КСУМ, с. 135].

**ДАЁ'НКА [ДАЙНІ'ЦА, ДО'ЙНІЦА, ДОЁ'НКА]**. 'Спецыяльнае драўлянае вядро з доўгай ручкай, у якое даілі кароў'. Даёнка драўляная [Быстрыца Астр., Мярэцкія Глыб.]. Даёнка дзеравяна з адною ручкаю, кароў даілі [Кіралі Шчуч.; СПЗБ, т. 2, с. 13]; Дайніца дзеравяная была [Дакудава Лід.]. Даілі карову ў дайніцу з адным вухам, дзеравянну, с клепак [Бабро̆унікі Гарад.; СПЗБ, т. 2, с. 15]; Була колысь дуйныця дэрэвляна, а тэпэр выдро [Цыхун, с. 190]; Доёнка дзерэўяна з вухом [Хотамель Стол.]. Ото доёнка корову доіць [Запясочча Жытк.; ТС, т. 2, с. 26]; Доёнка дзерэв'яная була с клепок, одна клепчына доўжэйша, і с пупліком дзерэв'яным, штоп молоко лілося [Цыхун, с. 189].

**ДАЛАТО' [ДО'ЛАТА]**. 'Долата'. Далатамі начоўкі даўбалі [Рагулішкі Даўг.]. Далатом можна дзяўпці [Дзянічкавічы Ганц.; СПЗБ, т. 2, с. 17]; Дай мне далата прабіць дзіркі ў дошцы [Мікалаева Куз.; Каспяровіч, с. 91]; Долатам прабіў дзірку ў дошца [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 86].

**ДАЛБЛЁ'НЫЙ**. 'Выдзёўбаны'. Быў жолап далблёный [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 2, с. 17].

**ДАРО'ГА**. 'Развод (у піле)'. У нашай піле дарога шырокая, мусіць, не сьпілуем таго дуба [Пагарэлец Пух.; СЦГ, с. 111].

**ДАЎБЁ'НКА [ДАЎБЯ'НКА]**. 'Посуд, выдзеўбаны з суцэльнага кавалка дрэва'. Даўбёнка – выдаўбаная з дрэва [Жодзішкі Смарг.]. Даўбянка ёсць у мяне, з дрэва выдаўбляна [Магуны Паст.; СПЗБ, т. 2, с. 27].

**ДАШЧА'Н [ДАШЧА'НКА[1]], КАДЗЬ [КАЦЬ, КА'ДКА[1], КАДУ'ШКА]**. 'Кадушка, пасудзіна з драўляных клёпак, звязаных абручамі'. Нанасі поўны дашчан вады [Застарынне Беш.; Каспяровіч, с. 94]; Дзядзька купіў дашчанку [Сянно Сен.; Каспяровіч, с. 94]; Нашаткавалі цэлаю кадзь капусты [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 125]; На капусту купілі кадзь [Ісачкава Аз.; Каспяровіч, с. 148]; Цэлая кадзь мяса была [Рудня Чэрв.]. У кадзях складалі муку, у кадзях і капусту квасілі. Каць – бочка, выдаўбленая з клёну [Вялікія Нястанавічы Лаг.; СПЗБ, т. 2, с. 357]; Бацька наш умеў добрыя каткі рабіць [Мікалаеўшчына Стаўб.; СЦГ, с. 175]; Выробляе шкуру ў кадцы [Дварэц Жытк.; ТС, т. 2, с. 176]; Повна кадка воды [СБМН, с. 227]; Кадушка наліта вадою [Мышкі Раснян.; КСУМ, с. 217]; Кадушка зусім рассохлася [Оўсішча Сен.; Каспяровіч, с. 148]; Кадушка с клёпак [Дакудава Лід.]. Кадушка на гурке і на капусту. Налеця вадэ ў кадушку, карова прыдзе, будзя піць [Кіралі Шчуч.; СПЗБ, т. 2, с. 357]; [кадушка]. 'Невялікіх памераў бочка з накрыўкай ці выдзеўбаная з дрэва невялікая пасудзіна (кадоўб), якая служыла для ссыпання проса, грэчкі, захавання солі; у шчыльна заднёную кадушку злівалі мёд, печатопленае сала' [Цыхун, с. 190].

**ДАШЧА'НКА**[2]. 'Драўляная, з клёпак, пасудзіна на зерне, муку'. Была яшчэ дашчанка, муку сыпалі ў дашчанку, а як трэба ўчыняць хлеп, бралі тую муку [Шавярнічы Бярэз.; СЦГ, с. 113].

**ДВАДЗЕ'НЬНІК [ДВУДНО'ЎКА, ДВУХДО'НКА]**. 'Бочачка з двума днамі'. Купіў ны бызары двадзеньнік [Горкі Краснап.; КСУМ, с. 149]; Мая двудноўка пабілася [Сянно Сен.; Каспяровіч, с. 95]; Ацслужыла двухдонка гадоў дваццыць, ды ўжо нада выкідаць – цякець [ДСМ, с. 75].

**ДВУЛЁ'ЗКА**. 'Гэблік з двума лязамі'. У яго аднлёзка толькі, двулёзкі німа, таму і выходзіць нячыста габлівана [Хвёдараўка Краснап.; КСУМ, с. 149].

**ДЗЕ'ЖА**[1] **[ДЗЕ'ЖАЧКА, ДЗЕ'ЖЕЧКА, ДЗЕ'ЖКА, ДЗЕ'ШКА, ДЗЕ'ЖЫЧКА, ДЗЯЖА'**[1]**]**. 'Дзяжа'. Дзежа хочэ вехця і ножа (прымаўка) [Цераблічы Стол.]. Як веліка сем'я, то й веліка дзежа (прыказка) [Сямігосцічы Стол.; ТС, т. 2, с. 13]; Ля квасу з дубовых клэпок робылы дыжу [Цыхун, с. 189]; У дзежачке расквасіць нада хлеб [Лісна В.-Дзв.]. Дзежачкі шчытныя, дубовыя на мёд бралі [Ухвала Круп.; СПЗБ, т. 2, с. 41]; [дзежечка]. 'Умен. слова *дзежка, кадочка, дзежочка'* [СБМН, с. 133]; У дзешцы хлеб кіснець [Асавец Віл.]. У дзешку сала клалі [Лісна В.-Дзв.; СПЗБ, т. 2, с. 41]; З етай дзежкі булак пяць хлеба выйдзець [Пірагова Мсцісл.; КСУМ, с. 150]; Прынясі з дзежкі вады [Няхлудава Аз.; Каспяровіч, с. 139]; Купілі новую дзежку. Масла ляжыць у дзежацца [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 82]; Як сам нэ можэ, зробыты дзішку, то купляе. Як дзішка нэспособна на хліп, тоды на сало [Цыхун, с. 189]; Баба купіла дзежычку з зачыняткый [Жлобін; КСУМ, с. 150]; На лянусі стаіць дзяжа [Кавалёўшчына Беш.; Каспяровіч, с. 139].

**ДЗЕЖА'**[2] **[ДЗЯЖА'**[2]**, ДЭЖА', ДЗЕ'ЖЭЧКА], ХЛЕ'БНІЦА, ХЛЕ'БНАЯ ДЗЯЖА' [ХЛЕ'БНА ДЗЕ'ШКА], ДЗІ'ШЧЫНА**. 'Невялікая дзежка, у якой рашчынялі хлеб, аладкі, складвалі сыр, масла'. Дзежэчка с крушком для сыру [Цыхун, с. 189]; У дзежы не падышоў хлеб [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 82]; У дэжэ рошчыняют хлеб [Смаляніца Пруж.; СПЗБ, т. 2, с. 41]; Мая хлебніца спорцілася – хлеп не ўдаецца [Заронава Куз.; Каспяровіч, с. 330]; Рашчынялі хлеп у хлебніцы, хлеп патходзіць, садзяць у печку. Добра хлеп спёкся! [Ёдлавічы Брасл.; СПЗБ, т. 5, с. 308]; Калісьці мелі хлебныя дзежы [Івашкаўцы Смарг.]. Была хлебна дзешка, у ёй толька хлеп рашчынялі [Кіралі Шчуч.; СПЗБ, т. 5, с. 308]; Была дзежа, хлеп рашчынялі [Старыя Трокі Трак.; СПЗБ, т. 2, с. 41]; [дзішчына]. 'Тое, што і *дзежа'* [Цыхун, с. 189].

**ДО'НА**. 'Дно ў бандарным посудзе'. У гэтай бочцы згніло дона [Шчарбакі Сір.; Каспяровіч, с. 95].

**ДУБО'ЎКА [ДУБО'ВАЧКА]**. 'Дубовая кадка'. Яшчэ летась я купіў сваю дубоўку [Каралёва Выс.; Каспяровіч, с. 99]; Я дубовачку пат капусту купіла на базары [Дукора Пух.]. Дубовачку з дубовага палена робяць [Ляшчынск Мядз.; СЦГ, с. 125].

**ДЫЖА'**. 'Бочка на сала'. Опорожны дыжу, будыш у ій сало класты [Ляхавічы Драг.; ДСБ, с. 60].

**ЖЛУ'КТА [ЖЛУ'КТО]**. 'Жлукта, бочка, дзе запарваюць бялізну'. Хацела жлукціць плацьця, ды жлукта раскалолысь [Гібалы Касцюк.; КСУМ, с. 167]; Наша жлукта рассохлася [Сянно Сен.; Каспяровіч, с. 107]; Наліў цэлаю

жлукту вады й плацьця ня ўлезя [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 94]; Жлукта – вялікая дзіравяная бочка зь дзіркай унізу. Закідалі ў жлукту каменьня гарачая і жлукцілі бяльлё [Шавярнічы Бярэз.; СЦГ, с. 134]; Цэлы вечор у жлукці полотно золіла [Раздзялавічы Ганц.; ДСБ, с. 65]; Жлукто робяць з осіны, плацьця золіць [Цыхун, с. 190].

**ЖО'ЛУП, ПАЎКА'ДАК**. 'Выдзеўбаная з калоды бочка'. Жолуп зрабіў з дзвюх частак даўбаных, бочку такую [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 151]; Паўкадак вышэй цэбара, а кадзь – вялікая бочка [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 3, с. 458].

**ЖУРАВЭ'ЛЬ**. 'Драўляная пасудзіна з доўгай шыйкай для гарэлкі, у журавэль бралі таксама ваду на поле ў час жніва, на сенажаць'. Бацько купыў на косовыцю журавэль [Цыхун, с. 190].

**ЗАБЁ'НКА**. 'Маленькая кодочка мерой в четверть вершка'. Усыпаў каням забёнку аўса [Свеча Беш.; Каспяровіч, с. 112].

**ЗАВІ'РЫЧ, НАЦЯ'ВІЧ [НАЦЯ'ГАВІЧ, НАЦЯ'ГАЧ, НАЦЯ'ГІЧ, НАЦЯ'ЖЫЧ]**. 'Прылада, пры дапамозе якой нацягваюць абручы на бочку'. Німа завірыча, чым нацягнуць абручэ [Харавічы Сміл.; Шатэрнік, с. 98]; Бацька судзя рабіў, бяз нацявіча абруч не надзеня [Стральцы Гродз.; СПЗБ, т. 3, с. 194]; Дай нацягавіч, трэба нацягнуць абручы на бочку [Warodзькава Крыч.; КСУМ, с. 282]; [нацягач]. 'Прылада для нацягвання абручоў на бочку або шын на колы' [Сямігосцічы Стол.; ТС, т. 3, с. 173]; Нацягіч трэба ў каголь узяць. У нас кажуць: нацягіч [Янкоўскі-1, с. 126]; Німа нацягіча, чым нацягнуць абруч [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 174]; У нас нацяжыч, шо на бочку обручэ набіваць, воно бы чэплея таке [Мачуль Стол.; ТС, т. 3, с. 173].

**ЗАДНІ'ЦЬ**. 'Уставіць дно'. Кадоўб задніў [Хотамель Стол.; ТС, т. 2, с. 94].

**ЗАКРО'Й, ЗАТО'Р, ЗАЦІ'РАЧ [ЗАЦЕ'РАЧ, ЗАЦІ'РТАЧ], РЭЗЕ'Ц [РЭЗО'К], УТО'РНІК [УТО'РЫЧ]**. 'Інструмент для выразання ўтораў-выемак для ўстаўлення дна'. Уторы ў цэбры заразаюцца закроем [Мікалаеўшчына Стаўб.; СЦГ, с. 147]; Зламаўся затор, робячы вядро [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 110]; Зацерач зацірае ўторы ў цэбры [Цераблічы Стол.; ТС, т. 2, с. 132]; [заціртач]. 'Бондарскі разец' [Аздамічы Стол.; ТС, т. 2, с. 132]; Рэзцэм робілі ложкі, вырэзвалі з берэзніку [Цераблічы Стол.; ТС, т. 4, с. 346]; [рэзок]. 'Бондарская прылада' [Запясочча Жытк.; ТС, т. 4, с. 346]; Наш столяр мая уторники, треба у яго пазычыць и вырабиць уторы [Негрымава Навагр.; Сцяшковіч, с. 515]; Трэба ўзяць уторнік і выпілаваць уторы [Граўжышкі Ашм.; СПЗБ, т. 5, с. 243]; Уторыч – пілка, якой робяць уторы [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 5, с. 244]; [уторыч]. 'Уторнік (бондарская прылада)' [Запясочча Жытк.; ТС, т. 5, с. 218].

**ЗАТО'РЫ, ЗАЧЫ'Р, ПАЗ, ПРУД [ПРУТ, ПРУДЫ'], УТО'РЫ**. 'Паз у драўляным посудзе, куды ўстаўляюць дно'. У заторы дно ўкладаюць, у раўчакі, і называюць іх заторы [Альхоўцы Лях.; СПЗБ, т. 2, с. 259]; У зачыр устаўляюць дно ў цэбру, у кадушку [Стральцы Гродз.; СПЗБ, т. 2, с. 270]; У зачыр устаўляюць дно ў кадусцы [Манчынцы Свісл.; Сцяшковіч, с. 164]; Засталося выбраць паз, упусьціць дно, і бочка гатова [Малмыгі Віл.; СЦГ, с. 271]; Прут –

рубчык, паз, куды ўстаўляецца дно [Вялікія Нястанавічы Лаг.]. Трэба дно ў пруды ўставіць, у прут [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 4, с. 117]; Дзешка з дном, веко зверху, у клепках вырэзаваюць уторы і ўпускаюць дно [Грыцавічы Свісл.; СПЗБ, т. 5, с. 243].

**ЗБАН**. 'Драўляная пасудзіна з шырокім горлам і вухам'. У збана е сэсочка (носік) [Цыхун., с. 190].

**ЗМЕ'ЙКА**. 'Маленькая ручная пілка'. Зьмейка – гэта так называецца маленькая пілачка ў нас [Завішына Лаг.; СЦГ, с. 165].

**ЗРЭЗ [РОЗРЭ'З], ПЕРЭРЭ'З [ПЕРЕРЕ'ЗЪ]**. 'Расшыраная або звужаная ўверсе, перарэзаная частка бочкі для засолу агуркоў і інш.' Е ў мене зрэзік на гуркі [Цыхун, с. 190]; [розрэз]. 'Шырэйшая ўверсе бочка для засолу агуркоў, капусты' [Цыхун, с. 199]; Перэрэз невелікі, широкі знізу, на гуркі, квас робяць на лето [Цыхун, с. 197]; Два перерезы капусты насекли [СБМН, с. 408].

**КА'ДАЎБ [КА'ДАЎП, КАДО'ЎБ, КАДО'ЎП, КАДЛУ'Б, КА'ДАЎБА, КАДАЎБА', КА'ДАЎБЧЫК, КАДО'ЎБЧЫК, КАДО'ЎПЧЫК, КА'ДУБЕЦ, КАДАБЕ'Ц, КАДО'ЎБЕЦ, КАДАЎБЕ'Ц, КАДЛУ'БОК, КАДО'БЧЫК, КАДУ'Б, КАДУ'ЎБА], КАДЫ'Р, КАЙДУ'Б, СТАЎБУ'Н**. 'Вялікая бочка, выдзеўбаная з тоўстай калоды, куды ссыпалі збожжа, муку і інш'. Кадаўбэ былі дзеравяныя, поўны кадоўб жыта насыпалі [Парэчча Гродз.]. Кадоўп – на збожжа, велькі ён, выдаўбаны [Дакудава Лід.]. Кадлуб – бочка, выдлубаная з калоды, на муку, семя [Жылі Іўеў.; СПЗБ, т. 2, с. 356]; Насыпалі кадаўб пшаніцы. Крупы стаяць у кадоўбчыку [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 125]; [кадаўб]. 'Судзіна для збожжа, мукі, выдаўбаная з суцэльнага кавалка дрэва'. У гэтым жа значэнні *кадыр* [Янкоўскі-1, с. 85]; Кадоўб робілі з хаўтной сасны [Пагост Жытк.]. У кадоўбах дзержалі муку, пашню [Хачэнь Жытк.; ТС, т. 2, с. 176]; У кадоўп сыпалі яку пашню [Цыхун, с. 190]; У кадоўбчык муку ссыпалі [Малахоўцы Бар.; СПЗБ, т. 2, с. 356]; Сёліта насыпалі солі цэлы кадубец [СЦГ, с. 175]; Кадабец буў поўны цеста [Баравікі Лун.; ДСБ, с. 84]; Насып мукі ў кадаўбу [Якшы Беш.; Каспяровіч, с. 148]; Ганначка, бяры ваду ў тым кадоўпцы, што пад вакном стаіць [Рудня Стаўб.; СЦГ, с. 174]; Еслі выпалена і выдаўбана з круглае калоды, то – кадлубок [Калясное Міхал.; СПЗБ, т. 2, с. 357]; Некаклі кадопчыкі зь дзерава дзяўблі [Дукора Пух.; СЦГ, с. 175]; Некалі дзет наш кадоўбы рабіў [Вецярэвічы Пух.; СЦГ, с. 175]; Маты насыпала круп у кадовб [Моталь Іван.]. Зробілі кадоўба, да велікі [Велямічы Стол.; ДСБ, с. 84]; Поўны кадуб бобу насыпалі. Ідзём у школу, набяром – смачна [Саланая Валож.; СЦГ, с. 175]; Зусім згніла кадуўба, толькі на сухое што прыдасца [Тур'я Чэрык.; КСУМ, с. 217]; Часцей – кадыр. Кадырэ на пашню (збожжа) булі [Янкоўскі-1, с. 86]; Вчора вэшкрабала пуслідню пшэнэцю з кайдуба [Гаравіца Драг.; ДСБ, с. 84]; Стаўбун зробіш з дуплаватай сасны аба з альхі, з дуба, асіны [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 4, с. 579].

**КА'ДКОВЫЙ**. 'Кадочный'. Кадьовая клёпка. Кадковое дно [СБМН, с. 227].

**КАДА'ЎБКА [КАДАЎБНІ'ЦА, КАДО'ЎБЕЦ], КАРЛУ'ПЧЫК**. 'Бочка, выдзеўбаная з калоды'. Требо наладзиць кадаўбніцу, бо рассохлася [Макараўцы Бераст.; Сцяшковіч, с. 189]; Ганначка, бяры ваду ў тым кадоўпцы, што пад

вакном стаіць [Рудня Чэрв.; ММГ, с. 57]; Карлупчык – бачонак такі без абручоў, выдаўбаны з дрэва [Старыя Смільгіні Воран.; СПЗБ, т. 2, с. 418].

**КАЗАЧО'К**. 'Драўляны вінт з галоўкай, які падымае і апускае жалезны шпень з насаджанай шпулькай у калаўроце'. Казачок у калаўротку [Дакудава Лід.; СПЗБ, т. 2, с. 361].

**КАЗЁ'НКА[1]**. 'Невялікая кадушка, па форме (часцей) – усечаны конус, аб'ём – на пуд-два збажыны, з адным ці двума вухамі; карыстаюцца, калі перасыпаюць, пераносяць збажыну'. Твой дзед вуняс казёнку жыта, сьвітку й аўчынку [Янкоўскі-1, с. 86].

**КАЛЁ'ВКА**. 'Пілка для фігурнага вырэзвання'. Калёвка – можно зробыты раму на гокно [Вулька Сіманаўская Драг.; ДСБ, с. 85].

**КАМЯ'ГА, КАРЫ'ТА [КОРЫ'ТО], ЛАДЗЕ'ЙКА**. 'Вялікае карыта для паення і кармлення (мешанкай) коней, свіней'. Нымішалі поўную кымягу сечкі [ДСМ, с. 107]; Табе толькі сь сьвіньнямі у камязі есьці [Ушакі Чэрык.; КСУМ, с. 220]; Цяпер дзеравянныя карыты рэтка ў каго ўбачыш, амаль у кожнага жалезныя карыты [Лыцавічы Віл.; СЦГ, с. 187]; Воду налываемо ў корыто і п'е скотына [Цыхун, с. 192]; Ладзейка – карыта для свіней выдаўбанае. Ладзейка бывае з дасок збіта [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 606].

**КАПЫ'Л**. 'Прылада для высякання начовак'. Етым капылом нічога не выдаўбеш [Первамайск Лоеў.; ДСЛ, с. 151].

**КАРЭ'Ц [КОРЕ'ЦЪ]**. 'Конаўка'. Карэц – кружка такая, даўней з дзерава рабілі [Дзяніскавічы Ганц.; СПЗБ, т. 2, с. 429]; Зачерепни корцомъ воды [СБМН, с. 246].

**КАЎГА'Н [КАЎГА'НКА, КОЎГА'НКА], ЛОХА'НКА**. 'Драўляная міска'. Булён стаіць у каўгане [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 133]; Даўней каўганка дзеравянная была, туды ўкінуць сало, растаўкуць [Ісерна Слуц.]. Каўганкі з дзерава выдоўбавалі [Беразіно Докш.; СПЗБ, т. 2, с. 439]; [коўганка]. 'Выразаны з дрэва коўшык у выглядзе міскі з ручкай (чэрпаць ваду, наліваць страву, звычайна на сенажаці, у лесе, у полі)' [Цыхун, с. 192]; Як постарэеш, я буду тожэ цебе у гэтой лоханцы корміці, як ты мацер свою корміў [Дварэц Жытк.; ТС, т. 3, с. 45]; [лоханка]. 'Невялікая драўляная пасудзіна' [Цыхун, с. 196].

**КВА'СКА [КВА'САЧКА, КВА'ШЧЫНКА, КВАСНЫ'ЦЯ], КА'ДКА[2], СТАГО'ВКА**. 'Спецыяльная бочка (кадушка) для засолу, квашання агуркоў, капусты і захавання іншых прадуктаў'. Была кваска на сала із вушкамы [Мярэцкія Глыб.]. Кваска – драўляная з клёпак з двума вушкамі, знізу вужайша, звурху шырайша, троха меншая цэбра [Стральцы Гродз.; СПЗБ, т. 2, с. 451]; Была поўная кваска гуркоў – паелі [Вецярэвічы Пух.; СЦГ, с. 190]; Мы ў кваску складаем сыр на зіму [Цыхун, с. 191]; Васыль купыв кваску на гуркы [Замшаны Малар.; ДСБ, с. 92]; Наклалі сала цэлаю кваску. Сваіх агуркоў на кваску будзя [Турэц Сміл.; Шатэрнік, с. 134]; Квасачкі дзеравяныя былі, затаўку складалі ў квасачкі [Вецярэвічы Пух.; СПЗБ, т. 2, с. 451]; Квашчынка кружком накрываецца. У квасныці капуста квасыцьця [Цыхун, с. 191]; У кадках мяса солім, капусту, агурцы [Навікі Лудз.; СПЗБ, т. 2, с. 357]; Нада купіць кадку на

гуркі [Шумячы; КСУМ, с. 216]; Цэла стаговка гурків [Арэхава Малар.; ДСБ, с. 215].

**КЛЁ'ПКА [КЛЕ'ПКА, КЛЁ'ПОЧКА]**. 'Клёпка, спецыяльная дошчачка, якая з'яўляецца састаўной часткай бандарных вырабаў'. Клёпкі ў кадушках [Дакудава Лід.]. Кубял і фаску с клёпак рабілі [Стральцы Гродз.]. Дзесяць клепак зрабіў [Дзяніскавічы Ганц.]. Даёнка с клепак была [Кіралі Шчуч.; СПЗБ, т. 2, с. 476]; Клёпкі павыскаквалі з цэбра [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 135]; Сасновыи клёпки ў етам цэбры [Лужасна Куз.; Каспяровіч, с. 163]; Сосновыя, а не дубовыя клёпки въ бочце [СБМН, с. 236]; Клёпочка отъ ведзерца поцерялася [СБМН, с. 236].

**КО'НАЎКА [КАНЭ'ФКА], КОЎШ [КОЎЖ, КО'ЎШЫК, КО'ВШИКЪ, КОВШЪ], КОРЭ'Ц**. 'Драўляная пасудзіна з доўгай ручкай для піцця'. Дайце конаўку напіцца [Чарніца Лёз.; Каспяровіч, с. 164]; Конаўка была дзеравянная, у ей дзірка пракручана з аднаго боку вышэй, а з другога – ніжэй, куды ўстаўлялі цаўё доўгая. Конаўкі выраблялі, выдоўбавалі з грушкі, з яблыны [Кіралі Шчуч.; СПЗБ, т. 2, с. 499]; Зычарпні ў конаўку крыху вады [Тур'я Чэрык.]. Алесь, пыдай мне коныўку з вадою, я нап'юсь троху [Крычаў; КСУМ, с. 230]; Канэфкай ваду чэрпалі з вядра і пілі з яе, далівалі вадой гаршкі ў печы, рабілі канэфку з дрэва і ручку ўстаўлялі [Жылі Іўеў.; СПЗБ, т. 2, с. 400]; Коўш рабілі с клёпачак – састаўленыя клёпачкі, два абручыкі надзеты… [Рыбчына Віл.; СПЗБ, т. 2, с. 508]; Коўшык з япы, на ніву бралі с собою, налівалі ды елі [Цыхун, с. 193]; Муки ни ковшика нема [СБМН, с. 240]; Давъ коляды, ковшъ гороху да ковшъ колопень [СБМН, с. 240]; Корцы – это булі з двома вухамі [Буразі Жытк.; ТС, т. 2, с. 223]; Булі корці з дзерэва, з корэня, а найбульш медные [Цыхун, с. 192]; Коўш наместо міскі, што набраць з ўяпы (наросту) коўша робілі [Цыхун, с. 193].

**КОРЭ'ЦЬ**. 'Зробленая з клёпак пасудзіна для вымярэння сыпкіх рэчываў (збожжа і інш.) ёмістасцю 1.5 пуда' [Цыхун, с. 192].

**КУ'БАК [КУ'БОК, КУ'БОЧОК], КУ'ХЕЛЬ [КУ'ХОЛ, КУ'ХЛІК], КУБА'РКА [КУБЭ'РАК], ЧАРАПА'ШКА**. 'Кубак'. У кубак налі малака [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 141]; Это кубкі вашые, хлопцы, немытые? [В. Малешава Стол.]. Осё маліны ў кубочку е, Ленка [В. Малешава Стол.; ТС, т. 2, с. 246]; [кухель, кухол]. 'Невялікі кубак' [Бярэжцы Жытк.; ТС, т. 2, с. 255]; У нас кухлік, а ў Хочэні крушка, я не чула, коб у Хочэні кухлік говорылі [Верасніца Жытк.; ТС, т. 2, с. 255]; Калі вады хочаш, то вазьмі вунь кубарку ды набяры [Калодкі Віл.; ММГ, с. 67]; Я табе налью малака ў куберак [Стукалы Маст.; Сцяшковіч, с. 223]; Чарапашка – кружка дзеравяная [Рудня Чэрв.; СПЗБ, т. 5, с. 405].

**КУ'БАЧАК**. 'Вытачаная з дрэва (цыліндрычнай формы) пасудзіна з вечкам для масла' [ДСЗ, с. 84].

**КУ'БЕЛ [КУБЁ'Л, КУ'БЯЛ, КУ'БІЛ, КУ'БЛІК, КУ'БЛИКЪ, КУБЁ'ЛАК, КУ'БОЛ, КУ'БЭЛ, КУБЕ'ЛЕЦ, КУБЕ'ЛЯЦ, КУБЕ'ЛЬЦО, КУБЕ'Ц], СУ'ДНІК [СУ'ННІК]**. 'Вялікая пасудзіна з клёпак для захоўвання球 рознага гаспадарчага начыння'. Кубел на адзежу і закрываўса веком [Дзяніскавічы Ганц.]. Збожа ссыпалі ў кублы [Быстрыца Астр.]. Сала складалі ў

кублы, закрывалі крышкай [Ёдлавічы Брасл.; СПЗБ, т. 2, с. 551]; Матка налажыла ёй цэлы кубел трубак і адзежды [Прыстоі Чаш.; Каспяровіч, с. 169]; Повенъ кубелъ одзежи [СБМН, с. 257]; Налі ў кублік вады, бо рассохся [Панкі Івац.; ДСБ, с. 114]; [кубликъ]. 'Ушатецъ съ ушками и крышкою' [СБМН, с. 257]; Кубел – дзежка з вушкамі і засаўка, накрываецца кружок такі – века [Ручаёўка Лоеў.; ДСЛ, с. 169]; Кубел быў зробляный з дубового дэрэва [Пясчанка Бяроз.; ДСБ, с. 113]; [кубел]. 'Зробленая з клёпак або выдзеўбаная з дрэва пасудзіна, звычайна звужаная ўверсе, з накрыўкай (якая прыціскалася пры дапамозе спецыяльнага кійка, прасунутага праз вушы)' [Цыхун, с. 194]; Наста, ідзі прынясі з кубла спадніцу [Андроны Раснян.]. Сёліта я ныклала повен кубел сала, ажно трох вяпрукоў забілі! [Пірагова Мсцісл.; КСУМ, с. 235]; С парсюка наклалі цэлы кубял сала. Кубёлак насыпалі пшанічнаі мукі [Старына Сміл.; Шатэрнік, с. 141]; Мы сала ныклалі цэлы кубіл [Белы Камень Бялынкав.; КСУМ, с. 236]; У кубліку сало solілі, зімою гуркі ў кублічках дзержалі [Цыхун, с. 194]; Кублік – бочачка на сала [Мачаск Бярэз.; СПЗБ, т. 2, с. 553]; Мамычка мыя кублік адзежы ныклала длі мяне, а другей – пылытна [Меншая Багацькаўка Мсцісл.; КСУМ, с. 236]; Новым кублом добрэ набыраты воду [Мікалаева Кам.]. Кубэл быў гнілый, попросіла, коб зробіў нового, бо сало ж трэба недэ складаці [Угляны Бяроз.; ДСБ, с. 114]; Бывала, наробя ражак, кубёлкаў, бояк, узложа на плячы сабе штук дзесіць, Фядосцы столькі ж – і папёрлі ў Плешчаніцы [Малінаўка Лаг.; ММГ, с. 67]; Наклаў поўны кубёлак сала [Глівін Барыс.; СПЗБ, т. 2, с. 552]; У кубелец складалі сало [Дзяніскавічы Ганц.; СПЗБ, т. 2, с. 552]; Цяпер у яшчык складаюць сало, а раньшэ было кубельцо [Малахоўцы Бар.; СПЗБ, т. 2, с. 552]; Кубец якісь малы, сала ні ўвойдзя [Адэльск Гродз.; Сцяшковіч, с. 222]; Суднік – такі вушацік з клёпак на сала [Азяраны Раг.; СПЗБ, т. 5, с. 11].

**КУ'КА**. 'Вялікі драўляны молат, які выкарыстоўваецца для розных мэт'. Кука – пабаешка і дровы шчапалі кукай, і рыбу глушылі [Ахрэмаўцы Брасл.; СПЗБ, т. 2, с. 559].

**КУ'ПА, ЛОТО'К, ЛУБЯ'НКА, ССЫ'ПНІК [СЫ'ПАНКА, УСЫ'ПІШЧА), СТАЎНІ'ЦА [СТАЎНЯ'[1]]**. 'Вялікая бочка для зерня'. Велізезна купа на оўёс була коліся [Хачэнь Жытк.; ТС, т. 2, с. 250]; Лотокы на жыто бэрыглы, так мэтров з дэсять увійдэ в той лоток [Забалацце Малар.; ДСБ, с. 126]; Лоточкы на жыто бэрэглы, так мэтроў дэсяць увійдэ ў той лоток [Цыхун, с. 195]; Калісь зерно ссыпалі ў луб'янкі [Дзяражычы Лоеў.; ДСЛ, с. 181]; Зразу прывезлі зерно і высыпалі ў чатыры луб'янкі. Трэба знайсці ссыпнік у клеці ды ссыпаць пшаніцу [Амельна Пух.; Шатэрнік, с. 264]; [сыпанка]. 'Бочка вялікіх памераў для ссыпання збожжа' [Цыхун, с. 201]; Усыпішча – тое, што усыпная дзежка [Пярэдзелка Лоеў.; ДСЛ, с. 382]; У стаўніцу сыпалі жыто, ячмень, авёс – усё зярно. Стаўніца – велька бочка [Стральцы Гродз.; СПЗБ, т. 4, с. 581]; Стаўня ў вараўні стаіць, вялікая бочка, як цэбар, без вушэй, туды насыпаюць зярно альбо муку [Ракаўскія Швянч.; СПЗБ, т. 4, с. 581].

**КУ'ФА**. 'Бочка о двухъ днахъ, мерою въ 40 ведеръ'. Дзве куфы горелки привезли рендарю [СБМН, с. 737].

